# Змест

# Brainstorm

(Брэйнсторм)

Мы думаем пра Беларусь

Грамадска-палітычны часопіс

Зарэгістраваны 28.08.2012 у Міністэрстве культуры Чэшскай Рэспублікі

**Галоўны рэдактар:**
Алесь Міхалевіч.
**Выпускаючы рэдактар:**
Вольга Быкоўская.



**Адрас рэдакцыі:** Czech Republic, Praha 4 - Zabehlice, Jizni II, 3112
**Электронная пошта:**
Brainstorm.Belarus@gmail.com
**Тэлефон:** +37257539483





**Выдадзена пры падтрымцы:**
German Marshall Fund of the United States





*Запрашаем да супрацоўніцтва новых аўтараў! Дасылайце артыкулы на беларускай, рускай, польскай, англійскай ці нямецкай мовах. Матэрыялы будуць перакладзеныя на беларускую.*

## Дастаўка

Вы ўжо трымаеце ў руках нумар Brainstorm. Калі ён падаўся вам цікавым і вы жадаеце яго атрымліваць надалей, дашліце свой паштовы адрас на **e-mai**l Brainstorm.Belarus@gmail.com ці SMS на **тэлефон** +37257539483. Друкаваная і электронная (у фармаце PDF) версіі часопіса дасылаюцца бясплатна.
Мы таксама адпраўляем Brainstorm у асноўныя беларускія бібліятэкі.

# Дзень добры, паважаныя чытачы!

Вы трымаеце ў руках першы нумар новага часопісу. Ён будзе прысвечаны будучыні Беларусі.

Якой мусіць быць наша краіна, што трэба зрабіць для яе пераменаў, у тым ліку, якія неабходны рэформы, што можна выкарыстаць з досведу суседзяў – гэтыя пытанні будуць уздымаць аўтары на старонках нашага часопіса.

Мы з'яўляемся невялікай дзяржавай, але маем сваё месца ў свеце. Шмат што залежыць ад знешняй палітыкі, таму значны акцэнт у нашым часопісе будзе рабіцца на знешнепалітычных і знешнеэканамічных пытаннях.

Асноўная мэта ўсяго гэтага – разгарнуць паўнавартасную і глыбокую дыскусію. Менавіта таму часопіс называецца “Brainstorm. Мы думаем пра Беларусь”, бо з англійскай мовы Brainstorm (Брэйнсторм) – гэта мазгавы штурм, метад працы, калі выслухоўваюцца ўсе думкі і калі яны не безнадзейныя, то іх бяруць у працу.

Разам з вамі, нашымі чытачамі, мы задумаемся, якое месца ў свеце будзе займаць Беларусь праз пяць, дзесяць, пятнаццаць год.

У добры шлях!

Алесь Міхалевіч,
галоўны рэдактар


## Падзякі

*На гэты момант нас часопіс – безганараны. Таму падзякі тым аўтарам, якія падрыхтавалі матэрыялы спецыяльна для Brainstorm.*

*Асаблівая падзяка былому амбасадару Польшчы ў Беларусі Марыюшу Машкевічу за артыкул “Польскі погляд на адносіны з СССР. Палітыка двухвектарнасці (1990 – 1991)”, інфармацыя з яго можа быць цікавая пры распрацоўцы стратэгіі супрацоўніцтва з Расіяй.*

*Падзяка Алесю Лукашэвічу за ідэю назвы часопіса.*

# Пакаленне адраджэння Беларусі

Павел Марозаў

Палітычны ўцякач, дысідэнт (Эстонія)

Каардынатар Кангрэса новай беларускай дыяспары Еўропы і ЗША

**Усё часцей і часцей у самых нечаканых месцах Еўропы я сустракаю знаёмых мне па Беларусі людзей. Мы ўсцешаныя бачыць адзін аднаго, размаўляем, смяемся, я даведваюся пра іх жыццё, яны пра маё. Нехта прыехаў часова падзарабіць, нехта вучыцца ў Еўропе, нехта атрымаў, як і я, статус палітычнага ўцекача і не можа вярнуцца, а нехта проста перавёў бізнес у больш спрыяльны асяродак.**

Гэта ўсё новая беларуская дыяспара ці, як шмат хто з нас сабе называе, – «недыяспара», бо хаця мы ўсе доўгі час жывем і працуем за межамі Беларусі, у будучыні мы бачым сабе толькі на радзіме.

Гістарычна тэрмін «новая беларуская дыяспара» ўзнік пасля 2004-2008 гг, калі праз сённяшні беларускі рэжым з Беларусі былі вымушаныя з'ехаць даволі шмат актыўных і мэтаскіраваных маладых людзей.

Яны адрозніваліся ад мінулых і нават частцы сённяшніх хваляў міграцыі перад усім каштоўнасцямі і паводзінамі, бо былі носьбітамі гарадской культуры Беларусі (актыўнай, мульцікультурнай і ліберальнай), а не сельскай (пасіўнай, замкнёнай на сабе і кансерватыўнай).

Пазней частка з новапрыбылых рассеялася ў грамадствах краінаў-рэцыпіентаў, не адшукаўшы сабе месца ў «старой» дыяспары. Назіраўся феномен поўнага адмаўлення ад беларускай абшчыны, праз нежаданне асацыявацца з старой дыяспарай і яе паводзінамі.

Зараз мы бачым падобную сітуацыю, калі найбольш адукаваныя, эканамічна, палітычна і сацыяльна актыўныя грамадзяне Беларусі з'язджаюць ад існуючага рэжыму, каб рэалізаваць свой патэнцыял у іншых краінах. Нехта робіць гэта добраахвотна, а камусьці «дапамагаюць» гэта зрабіць.

Насамрэч, можна зразумець тых, хто быў вымушаны з'ехаць. Да таго многія з іх жадалі змяніць да лепшага існуючую сітуацыю ў Беларусі, працуючы з сістэмай ці супраць яе. Але там кожны маральна нязломлены чалавек з пачуццём уласнай годнасці і прынцыпамі сутыкаецца з прэсінгам абставінаў і адсутнасцю перспектыў самарэалізацыі. А пасля кастрычніка 2011 – яшчэ і з шэрагам зменаў у беларускім заканадаўстве, якія даюць беларускім спецслужбам права саджаць у турму, рэпрэсіраваць і проста забіваць любога з нязгодных. Тыя з іх, хто трапляе ў турму за свае перакананні, ставяцца ўладамі Беларусі ў катэгорыю асобаў, якіх яна – улада – любымі спосабамі імкнецца «вывесці з гульні».

Некаторыя пасля жорсткага прэсінгу апускаюць рукі і адыходзяць ад барацьбы. Іншыя працягваюць змагацца, некаторыя насамрэч імітуюць барацьбу. Ёсць тыя, хто з'язджае з марамі пра лепшае жыццё па-за межамі сваёй краіны. Але ёсць і такія, хто з'язджае, але памятае...

Нехта запытаецца: хіба можна кідаць краіну ў цяжкі момант замест таго, каб выкарыстаць свой патэнцыял і веды на карысць Беларусі? Цяжка не згадзіцца, калі б не гэтыя «але».

Добра, калі атрымліваецца рэалізавацца ў сваёй краіне. Але маладыя людзі, якія выраслі ці сацыялізаваўся ў гарадах Беларусі, ужо думаюць па-еўрапейскі, у сваёй большасці адпавядаюць патрабаванням сусветнай канкурэнцыі, ніяк не могуць задаволіцца магчымасцю сабраць трактар «Беларусь» замест «фэйсбуку» ці «айфону».

Што ім можа сёння прапанаваць радзіма? Чарку, шкварку ды і тое ўжо праз раз, суправаджаючы за-

пужваннем і абмежаваннем усяго значнага ў іх жыцці. Нягледзячы на тое, што Беларусь ляціць у бездань, кіруючая групоўка, як п'яны трактарыст цісне на газ…

Меншасць думаючых людзей у Беларусі ўжо 17 год паслядоўна ушчамляецца ў правох большасцю. Прычым, большасць гэтая ўжо даволі ўмоўная, але паспяхова ўвасабляецца Лукашэнкам з усёй паўнатой ягонай улады.

У той жа час, вакол існуе свет, поўны магчымасцяў для маладога чалавека, з ягонай энергіяй, працавітасцю і ідэямі...

Разгледзім некалькі прыкладаў. Частка з'ехаўшых маладых беларусаў стварыла паспяховыя лакальныя кам'юніці для самаарганізацыі: Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт (Літва), грамадская арганізацыя Valgevene Uus Tee і суполка «Трэці шлях» (Эстонія), Беларускі дом у Варшаве, Беларускі музей у Нью-Йорку. На глебе асабістых кантактаў і сувязяў узнікла яшчэ адна «над»-структура – Кангрэс новай беларускай дыяспары Еўропы і ЗША.

Гэтыя людзі за няпоўныя пяць гадоў працы паспяхова рэалізуюць шэраг важных для Беларусі праектаў і ініцыятываў. Сярод іх АРУ ТВ, незалежнае інтэрнэт-тэлебачанне з Эстоніі, і «Еўрарадыё» – папулярнае FM і інтэрнэт-радыё з Польшчы, міжнародная выстава «Мастацтва супраць дыктатуры» і культурная кампанія «Адкрый Еўропу – Адкрый Беларусь». А таксама рэгулярныя Кангрэсы новай дыяспары і аналітычныя сустрэчы і канферэнцыі ў Таліне, беларускія нядзельныя школы, мемарыяльныя дошкі нашым вядомым продкам у Прыбалтыцы і Польшчы і шмат, шмат іншага.

Рухаюць гэтыя праекты не сотні ці тысячы чалавек – іх дзесяткі. І паралельна гэтаму яны яшчэ вучацца, зарабляюць, заводзяць сем'і і нараджаюць дзяцей.

Толькі ўявіце, колькі карысці Беларусі яны маглі б прынесці, маючы хаця б мінімальную дзяржаўную падтрымку ці паўнамоцтвы. Не кажучы ўжо пра тое, што рухае імі не прага нажывы ці страх, як шмат кім у цяперашняй уладзе, а жаданне змяніць сваё жыццё да лепшага і даць людзям свабоду і магчымасці.

Таму такім людзям не трэба мучацца выбарам, а трэба з'язджаць, каб захаваць сабе, дапамагчы сваім родным, атрымаць болей ведаў пра свет, рэалізаваць сабе там, дзе гэта не злачынства. Ды і для будучыні Беларусі, як гэта не парадаксальна, гэта вялікая перавага.

Ужо мала хто з інфармаваных людзей сумняваецца, што існуючы рэжым Лукашэнкі скончыцца, гэта толькі пытанне часу. Пасля гэтага адбудзецца карэнная трансфармацыя Беларусі. У такой сітуацыі будуць неабходныя тысячы, калі не дзесяткі тысяч светлых маладых галоваў і рук, каб змяніць краіну, падняць з каленяў, на якія паставіла яе перад усімі – і перад Захадам, і перад Усходам – улада Лукашэнкі, вярнуць народу пачуццё ўласнай годнасці, гонару за краіну і ўпэўненасці ў яе будучыні.

Гэтыя тысячы мы, з большасці, зможам узяць з новай дыяспары, з моладзі, якая пакінула Беларусь у пошуках волі і поспеху. Гэта людзі прафесійна падрыхтаваныя, з дакладна акрэсленай жыццёвай пазіцыяй і каштоўнаснымі ўстаноўкамі, са сваім меркаваннем, воляй і гатоўнасцю да працы ў нестандартнай сітуацыі з высокім узроўнем нявызначанасці і рызыкі.

Пачынаць мы павінны ўжо зараз. Свет – вялікі, але мы маем у руках інтэрнэт. Трэба яшчэ да падзення рэжыму Лукашэнкі аб'яднаць рэсурсы нашых калег прафесіяналаў, якія захаваліся ў сучаснай Беларусі, і тых, хто з'ехаў.

Нашая мэта – вялікая супольнасць без межаў, якая аб'ядная беларусаў. Трэба прыцягваць, у яе «новую дыяспару», людзей, якія нарадзіліся ў Беларусі і жылі ў ёй у перыяд Лукашэнкі (з 2000 па 2011 гг.), маюць гарадскую і мульцікультурную ідэнтычнасць, размаўляюць аднолькава добра на беларускай і рускай мовах, валодаюць як мінімум адной замежнай, з большага з вышэйшай адукацыяй ці студэнты, сацыяльна, грамадскі ці палітычна актыўныя, сярэдні ўзрост 25 – 35 лет. Тых, хто бачыць сваю будучыню ў Беларусі пры ўмовах пазітыўных зменаў, гатовы актыўна ўдзельнічаць у падрыхтоўцы такіх пераменаў.

Пакуль што такімі працэсамі займаюцца выключна грамадскія арганізацыі і групы. Але, на мой погляд, адзін з першых крокаў, які павінны быць зроблены новымі ўладамі, – стварэнне спецыяльнай структуры Беларускага агенцтва па рэпатрыяцыі. Яно павінна працаваць над вяртаннем з-за мяжы лепшых маладых беларусаў, канечне ж, стымулючы іх належным чынам. Узяўшы за ўзор падобныя праграмы Ізраіля і некаторых краінаў Усходняй Еўропы, можна стварыць дзяржаўны інстытут, вельмі важны для будучыні Беларусі.

Я бачу місію новай беларускай дыяспары ў тым, каб стаць Пакаленнем адраджэння роднай Беларусі, спрыяць яе трансфармацыі з постсавецкай закрытай аўтарытарнай дзяржавы з псеўдарынкавай эканомікай у дэмакратычную краіну з адкрытым грамадствам і рынкавай эканомікай. Для гэтага нам трэба адшукаць сабе, усвядоміць сабе адзінай супольнасцю і разам выпрацаваць эфектыўныя меры падтрымкі трансфармацыйных працэсаў у Беларусі.

**Вярнуўшыся, мы можам даць Беларусі:**

– прафесіяналаў міжнароднага класа ў палітыцы, адукацыі, культуры, бізнесе і эканоміцы, грамадскай сферы;

– стратэгію краіннага маркетынгу ў працэсе трансфармацыі, якая дазволіць адкарэктаваць імідж краіны, сыходзячы ад негатыўнага іміджу, створанага Лукашэнкам;

– кантакты з прыўладнымі і бізнес-коламі у ЕС, ЗША і Расіі, грамадскімі і культурнымі дзеячамі, падтрымку ў рэалізацыі нацыянальных інтарэсаў, эфектыўнае лабіраванне інтарэсаў Беларусі;

– найхутчэйшую нармалізацыю адносінаў з краінамі, дзе базіруецца беларуская дыяспара (Літва, Эстонія, Германія, Польшча, Чэхія, Нідэрланды, Бельгія, Вялікабрытанія, Расія, Украіна, Швецыя, Данія, Нарвегія, ЗША, Канада, Казахстан).

Прыблізна можна ацаніць колькасць новай дыяспары (спецыяльных даследаванняў не праводзілася) у 50 тысяч чалавек, а ў самой Беларусі – патэнцыйна яшчэ ў 100 тысяч чалавек. У такім выпаду можа сфармавацца авангард, які прывядзе краіну да іншай будучыні. Пераўтворыць Беларусь у краіну, дзе ўсім нам захочацца жыць, а беларусаў – у адну з моцных і ўпэўненых у сабе еўрапейскіх нацыяў.

# Беларусы: у пошуках нацыі

Наталля Гранд

эксперт
Інстытута дзяржаўных ідэалогій
(Вялікабрытанія)

**Частка цяперашніх абмеркаванняў, якія тычацца нашай краіны, засяроджваюцца на супрацьстаянні «савецкага» разумення сутнасці нацыі, якое прапагандуецца аўтарытарнымі ўладамі, і «еўрапейскага», якое з'яўляецца асноўнай ідэяй дэмакратычнай апазіцыі.**

Час паставіць больш актуальнае і дарэчнае пытанне перад тымі, хто хоча кіраваць краінай: ці будзе новы ўрад здольным вызначыць сацыяльна значныя канцэпцыі нацыянальнай ідэнтычнасці, каб аб'яднаць беларусаў, даць ім агульнае ўяўленне пра сэнс і мэты нацыянальнага адзінства, абудзіць жаданне спрыяць развіццю краіны.

Добрым пачаткам для распрацоўкі падобнага праекта можа стаць артыкул Нэлі Бекус «Адкрытая дэмакратыя», які ўносіць асвяжальны ўклад у вобласць беларускіх палітычных даследаванняў. Галоўную ідэю Бекус раскрыла ў сваёй кнізе «Барацьба за ідэнтычнасць: афіцыйная і альтэрнатыўная Беларусь» (Bekus Nelly. Struggle Over Identity. The Official and the Alternative «Belarusianness». – Budapest: Central European University, 2010.). Яна лічыць, што праблема нацыянальнай самасвядомасці носіць палітычны характар, і апазіцыя пазбаўленая шанцаў на поспех ва ўмовах рэжыму. Гэты артыкул арыентаваны на далейшае абмеркаванне таго, якія формы можна надаць нацыянальнай самасвядомасці, і параўнаць іх з тымі, што склаліся ў цяперашняй кампаніі.

## І не еўрапейцы, і не савецкія

Шырокае распаўсюджванне атрымала ўяўленне Беларусі як грамадства, дзе жорсткая палітычная барацьба караніцца ў супрацьлегласці поглядаў нацыянальнай ідэнтычнасці (ліберальны еўрапейскі супраць калектывісцкага савецкага). Пры гэтым, колькасць прыхільнікаў і дзяржавы, і апазіцыі значна саступае тым, хто проста паляпшае асабістае жыццё. Дадзены факт пацвярджае распаўсюджаны ў Мінску жарт: «Грошы, укладзеныя ў выбары, мелі б больш адчувальны эфект, калі б яны былі патрачаныя на аплату ацяплення ў зімовы сезон».

І ўрад, і апазіцыя лічаць палітычна неактыўную частку насельніцтва маўклівымі прыхільнікамі, але ні адзін з лагераў не прапанаваў большасці беларусаў таго, у чым яны, верагодна, больш за ўсё маюць патрэбу: усведамленні сябе як нацыі, а таксама прызнання і ацэнкі краіны ў свеце.

Нягледзячы на наяўнасць не аднаго, а двух нацыянальных дыскурсаў ў краіне, беларуская нацыянальная ідэнтыфікацыя застаецца слаба вызначанай. Афіцыйная нацыянальная ідэя больш мае дачыненне да дзяржавы, чым да нацыі, а мадэль апазіцыі, занадта паглыбленая ў гісторыю, каб быць актуальнай сёння. У такіх умовах асноўныя рысы народа застаюцца без увагі, а яго сапраўдны характар – няўлоўным.

Афіцыйная ідэалогія, якая распаўсюджваецца дзяржавай з 2003 года, з'яўляецца інструментам дзяржаўнага, а не нацыянальнага ладу. Яна вызначае і папулярызуе дзяржаўныя сімвалы і інтарэсы, падтрымлівае тыя грамадскія традыцыі, якія носяць грамадзянскі, а не этнічны характар. Такія меры былі вельмі эфектыўнымі ў згуртаванні насельніцтва за беларускую дзяржаву. Гэта пацвярджаецца вынікамі, падведзенымі у рэгулярных сацапытаннях, з якіх

вынікае, што беларусы імкнуцца захаваць свой суверэнітэт.

Урад і афіцыйныя ідэолагі, як бы там ні было, імкнуцца падтрымліваць нацыянальную самасвядомасць, і мала згадваюць аб адметных рысах беларусаў як нацыі. Тэкст дзяржаўнага гімна пачынаецца з зацвярджэння, што беларусы – патрыёты, у той час як у кнігах ідэалагічнай скіраванасці і афіцыйных зваротах шліфуюць такія якасці, як калектыўны дух, працавітасць і гасціннасць. Аднак, гэта не дэманструе выразную і цікавую нацыянальную карціну, якая б адлюстроўвала беларускі народ (І нават робіць яе менш прывабнай для замежных партнёраў).

Лагер, які прэтэндуе на правы ўласнасці беларускай гістарычнай спадчынай і этнічным ядром, ужо не такі паспяховы ў прадстаўленні беларусам пачуцця самасвядомасці. Палітычныя апаненты ўрада прадстаўляюць Беларусь, як еўрапейскую краіну, паказваючы на цесныя сувязі гэтай краіны з Еўропай у сярэднявечныя часы. Такія спасылкі – сапраўды разгорнутыя і differнабаковыя, але яны былі актуальныя ў зусім іншых палітычных і сацыяльна-эканамічных умовах і ніяк не могуць адпавядаць таму, што беларусы перажываюць сёння.

Беларусь не можа пахваліцца дасягненнямі як папярэдняе ёй Вялікае княства Літоўскае, дэманструючы лідэрства ў заканадаўчым развіцці Еўропы або здольнасць у высокай ступені рэагаваць на еўрапейскія культурныя тэндэнцыі.

Такім чынам, апазіцыя завастрае ўвагу на тым, што Беларусь – еўрапейская краіна, а палітычныя імкненні і звароты, прывязаныя да каштоўнасцяў, у аснове якіх дэмакратыя і правы чалавека. Але наўрад ці варта чакаць, што сучасныя беларусы выберуць еўрапейскую мадэль толькі таму, што людзі, якія жылі прыкладна на той жа тэрыторыі пяць стагоддзяў таму паступілі гэтак жа.

Існуе яшчэ адна праблема, а менавіта: пераважаюць ліберальныя каштоўнасці, якія кідаюць выклік нацыянальным межам. Беларуская апазіцыя спрабуе вырашыць гэта, падаючы гэтыя каштоўнасці ў якасці нацыянальных і сцвярджаючы іх праз беларускую мову, на якой большасць жыхароў краіны не размаўляе. Нацыянальная ідэя апазіцыі прапануе людзям ганарыцца і быць прывязанымі да таго, што, відавочна, не з'яўляецца часткай іх паўсядзённага жыцця. У сітуацыі, якая склалася, нядзіўна, што за апазіцыяй мала хто ідзе, і ідэі, якія яны прапануюць, (як пераканаўча тлумачыць Нэлі Бекус) у асноўным носяць палітычныя матывы.

У выніку, як адзначае брытанскі журналіст Сэм Найт, беларусы стаміліся ад свайго мінулага, яны занадта шмат ведаюць пра сваю гісторыю, але мала разумеюць пра сваё цяперашняе. Без агульнай нацыянальнай самасвядомасці, беларусы бачаць сябе часткай дзяржавы, а не нацыі – і гэта крыніца іх турбот.

Нядаўнія даследаванні Інстытута дзяржаўных ідэалогій (INSTID) пацвярджаюць такое становішча. Калі людзей пыталіся аб іх нацыянальнай прыналежнасці, іх рэакцыя была: «Я Беларус. Ну і што? З гэтым ёсць нейкія праблемы?»

Сацыёлагі сцвярджалі, што часта чулі абарончы адказ: «Беларусь – мой дом, але я не падобны на іншых беларусаў, я шмат у чым ад іх адрозніваюся, праўда»; а таксама своеасаблівае самаадзяленне ад нацыі (з пацвярджаючым гэты факт апісаннем беларусаў як «яны»). Былі таксама амаль аўтаматычныя адказы, якія можна было аднесці да талерантнасці, хоць гэта часта гучала з цынізмам і ірoніяй.

Рэспандэнты ахвотна хвалілі сваю краіну і яе прыроду і ідэнтыфікавалі як свой дом, але ў адносінах да нацыі была нявызначанасць, якая пагаршалася адсутнасцю шырокага міжнароднага прызнання краіны. «Нацыянальная пустата» ў Беларусі вельмі адчувальна і, як відаць, з'яўляецца балючым пытаннем.

### Мы – беларусы ...

Пасля двух дзесяцігоддзяў незалежнасці і стабільнага функцыяніравання ўрада беларусам неабходна агульнае, прыймальнае паўсюдна, сучаснае і здавальняючае ўсіх вызначэнне сябе як нацыі, а гэтак жа агульнае бачанне мэтаў і прыярытэтаў развіцця. Нацыянальны самааналіз ўжо падзяліўся паміж палітычнымі лагерамі, але выніку пакуль і не відаць.

Пошук беларускай ідэнтычнасці адбываецца з розных бакоў, але нязменна караніцца ў падыходзе, заснаваным на фактах. Інфармацыйныя агенцтвы і навінавыя крыніцы ладзяць конкурсы на лепшы малюнак або аповед пра Беларусь, а адзін з вэб-рэсурсаў не так даўно стварыў калонку, дзе выдатныя асобы дзеляцца сваімі думкамі аб тым, што ж значыць для іх быць беларусам.

Каля дзесятка камерцыйных кампаній, у асноўным з галіны маркетынгу і сувязяў з грамадскасцю, пачалі правядзенне апытанняў на тэму нацыянальных асаблівасцяў з мэтай стварэння беларускага нацыянальнага брэнда, у той час як Міністэрства замежных спраў стварыла працоўную групу для ўдасканалення іміджу Беларусі за мяжой.

Усё гэта для таго, каб стварыць аснову з павярхоўным апісаннем беларусаў, што само па сабе праблематычна па дзвюх прычынах. Па-першае, гэта якасць атрыманай інфармацыі. Паказчыкі вывучэння грамадскай думкі ў краіне, дзе пытанне нацыянальнай прыналежнасці з'яўляецца палітычна мёртвым, хутчэй за ўсё, саступяць шаблонным адказам, чым вынікам глыбокіх разважанняў. Па-другое, стаўленне, якіх бы там ні было, вынікаў да нацыі ў цэлым: няма патрэбы ў яшчэ адной маргінальнай або уласцівай пэўнаму пласту насельніцтва нацыянальнай ідэі.

Прапановы па «нацыянальнай ідэнтычнасці» у Беларусі, такім чынам, павінны мець стаўленне да сучаснага грамадства і да таго, што яно перажывае цяпер: матэрыялы павінны быць праўдзівымі і універсальнымі. Ва ўмовах абмежавання (і самаабмежавання) многіх беларусаў у дачыненні да выказвання сваіх поглядаў, паняцце Карла Густава Юнга «калектыўнае несвядомае» ўяўляе сабой карысны і інавацыйны інструмент пранікнення ў сутнасць праблемы.

Юнг увёў паняцце архетыпа (як часткі калектыўнага несвядомага) каб даказаць, што індывідуальныя паводзіны чалавека могуць быць

абумоўлены ўздзеяннем на падсвядомасць, якое ўплывае на яго адказнасць, стаўленне і светапогляд. Не варта разглядаць архетып як нешта з містычнай вобласці, сапраўды як несвядомае, ён не з'яўляецца чымсьці незразумелым і звышскладаным. Хутчэй, ідэя архетыпа паказвае на той факт, што людзі часта дзейнічаюць «аўтаматычна» і доўга не абдумваюць свае дзеянні, як, да прыкладу, самалёт у рэжыме круізкантроль.

Такі стан знаёмы ўсім (акрамя тых нешматлікіх прасветленых галоў, якія свядома прыкладаюць шмат намаганняў, каб заставацца «сёння» ў любыя часы). Архетып з'яўляецца групавой з'явай; да таго часу, пакуль існуе група, будзе існаваць і архетып, які яе аб'ядноўвае, ляжыць у аснове яе адзінства, забяспечвае агульнадаступны агляд, на які яе сябры могуць пакласціся.

Каманда INSTID пастаралася быць канструктыўнай і крытычнай ў пытанні беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці і правяла даследаванні беларускага архетыпа. Гэта было якаснае даследаванне, людзей апытвалі і выслухоўвалі. «Мы прааналізавалі невярбальныя спосабы зносін, мадэлі паводзін і рэакцый, погляды і стаўленне да асноўных праблемах паўсядзённага жыцця людзей розных узростаў, прафесій і поглядаў на жыццё ў пошуках асноўнай тэмы, асноўнай рысы, якая будзе адлюстроўваць агульныя, характэрныя рысы для розных беларусаў», – распавялі даследчыкі.

У выніку гэтага даследавання высветлілася, што беларускі архетып, па сутнасці сваёй, – матрыманіяльны. Ён спалучае ў сабе рысы, характэрныя адносінам ў шлюбе, такія як: роўнасць, устойлівасць, абароненасць, кансерватызм, мір і гармонія. І ў той жа час адвяргае такія рысы як: агрэсіўнасць, рызыка, канфліктнасць і празмерная эмацыянальнасць.

Больш за тое, архетып, у такіх умовах нельга вызначыць як чыста мацярынскі; хутчэй за ўсё, яго адметныя рысы нагадваюць уладальніцу замка, нават, імператрыцу або гордую хатнюю гаспадыню: спелая, ураўнаважаная жанчына, якая сочыць за гаспадаркай. Асноўныя прыкметы гэтага тыпу – працавітасць, эфектыўнасць, практычнасць, ашчаднасць, гасціннасць і здаровыя думкі.

Такія дадзеныя не дазваляюць выказаць здагадку, што беларусы адрозніваюцца бездакорным вядзеннем гаспадаркі (хоць большасць з іх сапраўды добра з ёй спраўляецца), але затое, яны дазваляюць зрабіць выснову, што беларусы як нацыя асацыююць сябе з асаблівасцямі, каштоўнасцямі, ўстаноўкамі і схільнасці такога тыпу, і лічаць, што такія якасці – ўласцівыя кожнаму з іх.

## Прэзідэнт у адпаведнасці з беларускім архетыпам

Выбарчая кампанія грунтуецца на сутыкненні ўспрымання беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці, і, такім чынам, распальвае інтарэс палітычна актыўнай меншасці. Між тым, як большасць выбаршчыкаў застаюцца абыякавымі і незацікаўленымі. Гэта, у некаторай ступені, можа быць і таму, што ні адзін з кандыдатаў не закрануў нацыянальных пачуццяў – ніхто не прапанаваў нешта аб'ядноўваючае, нешта, што знойдзе водгук ў сэрцах.

Нават дзеючы прэзідэнт блізкі да дасягнення патрэбнага выніку, але дапускае прамашкі ў шэрагу важных момантаў, асабліва ў тым, што знаходзіцца ў напружаных адносінах з суседзямі (поўны рускамоўны аналіз кандыдатаў на апошніх выбарах ў прэзідэнты праз прызму нацыянальнага архетыпа тут (http://www.chaskor.ru/article/prezident_dlya_belorusskoj_hozyajki_21036).

Сэнс у тым, што славалюбівыя палітычныя дзеячы павінны прымаць да ўвагі пытанне аб нацыянальнай ідэнтычнасці народа, для таго, каб прыцягнуць выбаршчыкаў на выбарах, а гэтак жа атрымаць больш дакладнае бачанне прыярытэтаў развіцця Беларусі. Разуменне архетыпічных схільнасцяў нацыі можа стаць асновай для стратэгіі эканамічнага развіцця і расставіць прыярытэты для інвестыцый.

Такім чынам, мы мяркуем, што захаванне галін аховы здароўя, турызму, бяспечных інвестыцый, вытворчасці – тое, што можа прывесці да поспеху. І мы не рэкамендуем развіццё інвестыцыйных банкаў, цяжкага машынабудавання або авангардных мастацтваў. Гарманічны, міралюбівы і неканфліктны архетып гэтак жа прадугледжвае знешнюю палітыку, заснаваную на прынцыпах нейтралітэту і ўраўнаважаных адносін з усімі суседнімі краінамі, без выразнай перавагі якой-небудзь з іх.

Разуменне і прызнанне нацыянальнай самасвядомасці ў краіне, так жа важна для стварэння самапавагі і задавальнення ад сваёй нацыянальнасці сярод саміх беларусаў. Гэта так жа можа пакласці канец непрыемным параўнанняў з суседзямі, як блізкімі, так і з далёкімі, стварыць аснову для ўпэўненага і гарманічнага развіцця краіны ў будучыні. Нацыянальная самасвядомасць з'яўляецца першай на парадку дня для беларусаў, і чым раней яна будзе акрэсленая, тым лепш для краіны.

## У выніку

Адказ на пытанне аб канкурэнцыі еўрапейскай і савецкай мадэлі нацыянальнай ідэнтычнасці, пастаўленай спачатку артыкула, на самай справе не дапаможа беларусам разабрацца ў іх нацыянальнай ідэнтычнасці. У годным ўвагі эсэ, Цімаці Снайдэр сцвярджае, што беларусы павінны абмяркоўваць прыярытэты развіцця сваёй краіны (гл. Timothy Snyder. In Darkest Belarus. – The New York Review of Books, 2010.). Безумоўна, так і павінна быць, але, тое, што ім трэба больш, дык гэта разуменне і агульная згода ў тым, хто яны і кім будуць ў XXI стагоддзі.

На самой справе, гэта значна важней асобы пераможцы новых прэзідэнцкіх выбараў. Таму што толькі такі лідэр можа саступіць палітычнай легітымнасці, даць паслядоўную, адпаведную, прывабную, надзейную, а гэтак жа лаканічную ідэю аб тым, якія беларусы як нацыя. Магчыма, варта задумацца аб ганарлівай хатняй гаспадыні.

# Навошта Беларусі патрэбна смяротнае пакаранне

**Вячаслаў Бортнік**

беларускі праваабаронца і грамадскі актывіст.

У 2002-2006 гг. узначальваў рух Amnesty International у Беларусі.

Звязацца можна па e-mail: amnesty_by@gmx.net.

*Забойца – гэта чалавек плюс забойства. Сапраўдная справядлівасць здзяйсняецца тады, калі суддзя карае забойства і адраджае чалавека.*

*В. Р. Крышна Айер, былы суддзя Вярхоўнага суда Індыі*

**Звесткі аб прывядзенні ў выкананне смяротных прысудаў у дачыненні да Уладзіслава Кавалёва і Дзмітрыя Канавалава ў сакавіку 2012 года проста ўзарвалі Байнэт. Мабыць, ні адна іншая тэма даўно не выклікала такіх ажыўленых дыскусій і не абмінула не толькі шматлікіх праваабаронцаў і экспертаў, але і тысячы простых беларусаў.**

Знайшліся нават такія, што прымудрыліся абвінавачаць у забойстве дзяржавай Кавалёва і Канавалава саміх жа праваабаронцаў: маўляў, навошта было падымаць міжнародную шуміху і злаваць Лукашэнку, а лепш сканцэнтраваліся б на слёзным вымольванні памілавання, глядзіш і расчулілі б прэзідэнта. Толькі ў самай рабскай свядомасці магло зарадзіцца падобнае трызненне.

Ад самага пачатку было зразумела, што ніякага памілавання не будзе. Паступіўшы па-іншаму, улады прызналі б невінаватасць прысуджаных і тым самым падпісалі б смяротны прысуд самім сабе.

Ды і наогул, у Беларусі не прынята прабачаць смяротнікаў. Па словах Аляксандра Лукашэнкі, ён пайшоў на падобны крок толькі аднойчы. Адбылося гэта ў 1999 годзе, калі смяротны прысуд замянілі на пажыццёвае зняволенне. Тады заатэхнік забіў старшыню гаспадаркі на глебе рэўнасці.

Беларускія ўлады не зацікаўленыя ў адмене смяротнага пакарання

Што б ні казалі эксперты, праваабаронцы і міжнародныя арганізацыі, яны працягваюць прыкрывацца грамадскай думкай у падтрымку смяротнага пакарання. Прыводзяць вынікі рэферэндуму 1996 года, калі 80,44% насельніцтва прагаласавалі за смяротнае пакаранне. Але такая аргументацыя не вытрымлівае ніякай крытыкі.

На той момант галоўным было "правесці" прэзідэнцкі варыянт Канстытуцыі, астатнія ж пытанні хутчэй выконвалі ролю адцягваючага манеўру. Больш таго, у адпаведнасці з заканадаўствам, для адмены смяротнага пакарання ў Беларусі рэферэндум праводзіць не патрабуецца.

Верагодней за ўсё, злапомныя 80% былі патрэбныя для таго, каб потым тлумачыць насельніцтву, чаму нас (адзіную краіну ў рэгіёне) не ўзялі ў Савет Еўропы. А туды Лукашэнка ўступаць і не збіраўся, інакш давялося б ратыфікаваць Еўрапейскую канвенцыю па правах чалавека і далей выконваць рашэнні Еўрапейскага суда.

Не варта таксама забываць пра тое, што рэферэндум праходзіў у той момант, калі альтэрнатывай смяротнаму пакаранню ў Крымінальным кодэксе Беларусі прадугледжвалася толькі пазбаўленне волі на тэрмін да 15 гадоў, а пажыццёвае зняволенне было ўведзена з 1997 года.

Якія б лічбы не выдавалі апытанні, неабходна разумець, што забеспячэнне правоў чалавека не можа залежыць ад грамадскай думкі. Пры любых абставінах недапушчальныя катаванні, нават калі б у грамадстве і знайшла падтрымку ідэя аб магчымасці іх прымянення.

Акрамя таго, падтрымка смяротнага пакарання грамадскім меркаваннем часта заснаваная на няпоўным веданні фактаў, а вынікі апытанняў адрозніваюцца ў залежнасці ад таго, якім чынам сфармуляваныя пытанні. Службовыя асобы, адказныя за палітыку ў гэтай сферы, павінны не толькі прыслухоўвацца да грамадскай думкі, але і дамагацца поўнага інфармавання жыхароў краіны па дадзенай праблеме.

Шмат хто, калі б быў належным чынам інфармаваны пра факты, якія тычацца прымянення смяротнага пакарання і прычынаў, па якіх яно павінна быць адмененае, выказаліся б за адмену гэтай меры.

### Стаўленне мяняецца, трэба толькі інфармацыя

Мноства даследаванняў, праведзеных ў розных краінах свету, паказваюць, што стаўленне да смяротнага пакарання можа змяняцца, калі лепш вядома фактычнае становішча. Падобныя тэндэнцыі ўласцівыя для дэмакратычных рэжымаў, дзе грамадская думка рыхтуе глебу для наспелых змяненняў. Пры гэтым пры аўтарытарызме грамадскім меркаваннем маніпулююць для падтрымкі дырэктываў зверху.

Беларускія ўлады не вядуць адукацыйнай працы з насельніцтвам па пытанні смяротнага пакарання. У сувязі з гэтым, зусім не дзіўнымі здаюцца лічбы, апублікаваныя аналітычным цэнтрам пры Адміністрацыі прэзідэнта ў 2010 годзе. Паводле ягоных дадзеных, 79,5% насельніцтва выступаюць за смяротнае пакаранне, 4,5% – супраць.

Беларускія даследчыкі лічаць, што высокі працэнт падтрымкі насельніцтвам смяротнага пакарання з'яўляецца водгаласам таталітарнага мінулага Беларусі ў складзе СССР. З канца 20-х і да сярэдзіны 80-х гадоў мінулага стагоддзя былі пашыраныя межы яго прымянення, смяротнае пакаранне атрымала грамадскую падтрымку, чаго не было да рэвалюцыі 1917 году.

### Беларусы за 16 год маглі і перадумаць

І ўсё ж, ёсць падставы лічыць, што насельніцтва Беларусі з часу правядзення рэферэндуму 1996 года змяніла сваё стаўленне. Па дадзеных сацыялагічнага апытання, праведзенага НІСЭПД у кастрычніку 2010 года, супраць адмены смяротнага пакарання выказалася 48,3% рэспандэнтаў, за – 42,4% і 9,3% – не змаглі адказаць / не адказалі.

Апытанне, праведзенае ў сакавіку 2012 года, дало наступныя вынікі: супраць адмены смяротнага пакарання – 40,8%, за – 49,7% і 9,5% – не змаглі адказаць / не адказалі.

Гэтыя лічбы робяць абсурднымі лютаўскія заявы парламентарыяў аб тым, што пытанне аб адмене смяротнага пакарання з'яўляецца ўнутранай справай Беларусі і прыняццё рашэння па ім магчымае «толькі з улікам меркавання беларускага грамадства».

Складваецца парадаксальная сітуацыя. Яшчэ 11 сакавіка 2004 года Канстытуцыйны суд па запыце Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу праверыў адпаведнасць палажэнняў аб смяротным пакаранні, якія ўтрымліваюцца ў Крымінальным кодэксе, Канстытуцыі. Суд пастанавіў, што некалькі палажэнняў Крымінальнага кодэкса супярэчаць Канстытуцыі, у выніку чаго з'явілася магчымасць для адмены смяротнага пакарання ці ўвядзення мараторыя на выкананне смяротных прысудаў як пачатковай меры, неабходнай для іх поўнай забароны.

Незалежныя апытанні кажуць пра гатоўнасць грамадства да адмены смяротнага выраку. Такой жа пазіцыі прытрымліваецца і Беларуская Праваслаўная Царква. Хоць дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу ў большасці сваёй і супраць адмены смяротнага пакарання, у 2009 годзе была сфарміравана рабочая група па гэтым пытанні і нават на канец 2011 года былі ўнесены ў папярэдні план парламенцкія слуханні на тэму смяротнага пакарання. Узнікае пытанне: чаму ж яго да гэтага часу не адмянілі? Чым выгадна яго захаванне?

**Апраўдаць неабходнасць захавання смяротнага пакарання ў Беларусі немагчыма** ні практыкай, ні разумным сэнсам. Пра тое, што гэта пытанне палітычнае, адкрыта заяўляюць нават самі беларускія парламентарыі. Напрошваецца як мінімум два адказы: знешнепалітычны і ўнутрыпалітычны. Адмену смяротнага пакарання можна выгадна абмяняць, напрыклад, на зняцце эканамічных і іншых санкцый, вяртанне гандлёвых прэферэнцый, чарговыя пазыкі і доўгачаканыя інвестыцыі. «У нас быў бы ўжо вынік, калі б не палітыка «падвойных стандартаў», якую праявіла Еўропа», – журыўся ў лютым гэтага года старшыня сталай камісіі Палаты прадстаўнікоў па заканадаўстве і судова-прававых пытаннях Мікалай Самасейка. Смяротнае пакаранне – гэта, калі і не джокер, то па меншай меры казырны туз ў гульні з Захадам.

На ўнутраным жа ўзроўні за кошт смяротнага пакарання можна «зачыняць» цёмныя справы накшталт «тэрарыстычнага акту» 11 красавіка 2011 года (калі сапраўдных злачынцаў нельга прыцягнуць да адказнасці па аб'ектыўных прычынах) і трымаць у страху палітычных апанентаў.

Пакараннем смерцю Кавалёва і Канавалава беларускія ўлады далі ясна зразумець, што ў краіне, дзе і гаворкі не можа ісці аб міжнародным тэрарызме (улічваючы нашыя сяброўскія сувязі з рэжымамі, адкуль ён паходзіць), дзе няма міжнацыянальных канфліктаў і дзе не існуе непадкантрольнай дзяржаве арганізаванай злачыннасці, кожны можа не толькі стаць ахвярай «тэрарыстычнага акту», але і быць прыцягнутым да адказнасці за яго ўчыненне. Кожны! А яшчэ пры дапамозе смяротнага пакарання можна адцягваць увагу ад надзённых праблем (у тым ліку і ў сувязі з ростам злачыннасці) і даваць магчымасць выпускаць пар даведзенага да адчаю і галечы насельніцтву.

Да таго часу, пакуль беларускія ўлады будуць мець магчымасць карыстацца смяротнай карай як інструментам у вырашэнні вышэйзгаданых праблем, яе адмена не ўяўляецца рэалістычнай ў найбліжэйшай агляднай будучыні.

# Дзверы адчынены, а гасцей няма:

## Перашкоды і магчымасці для прамых замежных інвестыцый у Мінск

Паліна Прысмакова

PhD Student and Research Assistant

Department of Public Administration

Florida International University

**Чаму замежныя інвестары баяцца ўкладаць свае грошы ў Мінск, нягледзячы на тое, што і мясцовыя, і вышэйшыя чыноўнікі дэкларуюць пераход да палітыкі адчыненых дзвярэй? Каб адказаць, спачатку прааналізуем прывабнасць горада для замежных інвестараў, пасля пяройдзем да перашкод і магчымасцяў на шляху замежных бізнесменаў.**

Мінск уваходзіць у 20-ку гарадоў Еўропы, якія хутка развіваюцца. Найбольшы рост несумнеўна назіраўся пасля Другой сусветнай вайны, у 60-ыя, калі на міжнароднай прасторы сталіца Беларусі па тэмпах развіцця апярэджвала толькі цэнтральна-амерыканскі Мехіка-сіці.

Сёння сітуацыя змянілася. Без доступу да неабмежаваных савецкіх рэсурсаў горад павінен працаваць над сваім развіццём сам, таму «заманьванне» інвестараў спрыяльнымі ўмовамі з'яўляецца працай беларускіх уладаў.

### Ці Мінск – добры накірунак для укладання грошаў?

Добры інструмент для вымярэння інвестыцыйных плюсоў – аналіз Shift-Share (дасл. перамяшчэнне дзеляў), які і дапаможа нам прасачыць патэнцыял індустрыі горада ў параўнанні да цэлай Беларусі за апошнія дзевяць гадоў.

Такі перыяд з'яўляецца дастаткова доўгім, каб стварыць карціну таго, наколькі добра сябе адчуваюць розныя галіны прамысловасці. Гэтае веданне дапамагае прыняць рашэнне інвестарам. Гарадскім уладам таксама варта прыглядзецца да змены занятасці ў розных галінах прамысловасці, каб зразумець, якія з іх могуць прыцягнуць больш замежных сродкаў.

Павелічэнне хуткасці вытворчасці, даходаў і занятасці паказвае, што Мінск – несумненна квітнеючы горад. У параўнанні з агульна-беларускімі паказчыкамі у сталіцы змены больш пазітыўныя ва ўсіх галінах, нават такіх нетыповых для урбанізаванай мясцовасці як лясніцтва ці сельская гаспадарка. Парадоксы апошняга можна растлумачыць пашырэннем горада і ўключэннем у межы сталіцы бліжэйшых вёсак, насельніцтва якіх часткова працуе ў лягсасах і фермерскіх гаспадарках.

Гандаль і сервісы, звязаныя з харчаваннем, апошнім часам найбольш выраслі. Няцяжка заўважыць з асабістага вопыту, што ў горадзе пачалі з'яўляцца месцы, дзе можна добра і некатастрафічна дорага пад'есці. Увогуле, сервісная індустрыя нарэшце пачала развівацца. На жаль, падобны прагрэс не назіраецца ў навуцы, лагістыцы і маркетынгу. Дадзеныя паказчыкі скараціліся.

Замежных інвестараў лёгка прыцягнуць не толькі ў тэлекамунікацыі, будаўніцтва, гандаль і грамадскае харчаванне, а таксама ў іншыя віды невытворчых спажывецкіх паслуг. Паслугі, у цэлым, варта разглядаць у якасці асноўнай мэты прызначэння замежнага капіталу, бо яны па-ранейшаму недастаткова прадстаўленыя ў краіне і горадзе. Мінск - у гэтым не ўнікальны, недахоп развітой сеткі паслуг – спадчына Савецкага Саюза.

Між тым, паколькі горад характарызуецца высокім узроўнем канцэнтрацыі прамысловасці, якую ён таксама атрымаў у спадчыну ад СССР, урад у асноўным зацікаўлены прыцягненнем замежных інвестараў менавіта да непрывабных дзяржаўных фабрык і заводаў. На якіх ж да таго часта

значна больш працаўнікоў, чым патрэбна. Даволі высокі працэнт насельніцтва горада працягвае працаваць у гэтай галіне, што не зусім упісваецца ў канцэпцыю сучаснага горада.

Працягваючы аналіз індустрый горада, адзначым, што урад павінен перагледзець сваю палітыку, як да лагістыкі і маркетынгу, так і да навукі і навуковага абслугоўвання. Гэтыя галіны маюць вырашальнае значэнне для росквіту не толькі горада, але і ўсёй краіны ў цэлым.

У дзяржплане развіцця горада да 2020 года, гарвыканкам Мінску дакладна вызначыў, што гарадскія ўлады павінны стварыць спрыяльныя ўмовы для бізнесу і замежных інвестыцый. Сітуацыя змяняецца, але, як бачым, вынікі як і раней – не самыя задавальняючыя.

Калі ў Мінску ў 2000 годзе на 900 тысяч працоўных у фірмах з замежнымі інвестыцыямі працавала толькі 9 тысяч чалавек, то ужо у 2009 – 38 тысяч. Рост, здаецца, неблагі – у чатыры разы. Але калі параўнаць з агульнай колькасцю працоўных у сталіцы Беларусі, то лічбы як былі, так і засталіся малымі.

Такое становішча рэчаў мае два тлумачэнні: альбо замежныя інвестары не асмельваюцца ўвайсці ў горад, альбо ўлады ствараюць перашкоды для гэтага.

Паводле афіцыйнай статыстыкі, ў 2008 годзе менавіта ў Мінску асела палова з 6,5 млрд. USD замежных інвестыцый у Беларусь, і яшчэ пятая частка размеркавалася па Мінскай вобласці. А ужо праз год, у 2009-м, толькі ў Мінск прыйшло столькі інвестыцый, колькі у цэлы край за год папярэдні: 6,7 млрд. USD. Што праўда, большасць з іх, 75%, прыйшло ад нашых суседзяў па былому СССР, з СНД, да таго ж амаль ўсе з Расіі. Астатняя чвэрць – інвестыцыі з далёкага замежжа: Вялікабрытанія, Аўстрыя, Кіпр і краіна, якая раптоўна з'явілася і хутка прасоўваецца па гэтых паказчыках, – Нідэрланды.

ЗША інвеставаць у Беларусь не толькі баяцца, але нават больш: амерыканскія ўлады афіцыйна не заахвочваюць сваіх бізнесоўцаў рабіць гэта. У адрозненні ад заакіянскіх таварышаў беларускі кіраўнік краіны заклікае чыноўнікаў прымаць хуткія рашэнні, якія датычацца прапаноў замежных будаўнічых праектаў у Мінску: «Хотят построить деловой центр - что медлить? Мы получаем хорошие комплексы, это выгодно обеим сторонам. Но не нужно тормозить решения, их надо принимать быстро» (Прэс-служба прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 1 жніўня 2008 года).

Вось і атрымліваецца, дзверы – расчыненыя, а праз іх толькі вецер вее. Чаму мы маем тое, што маем? Пачнем з пазітыву, са свежапафарбаваных дзвярэй.

## Магчымасці прамых замежных інвестыцый у Мінск

### 1. Патэнцыял і стабільнасць

Як вынікала яшчэ са справаздачы UNCTAD 2008-га году, Беларусь – найбольш прывабная з ўсіх краін СНД. Шматлікія даследаванні пацвярджаюць, што асноўным прыярытэтам для людзей застаецца стабільнасць, а з ёй і такія характарыстыкі, як стабільны рост горада, стабільнасць ўрада, своечасовая зарплата і пенсіі.

Вядомая агульная палітычная апатыя сярод насельніцтва Мінска мае і свае, як бы дзіўна гэта не гучала, плюсы. Яна ўказвае інвестарам на стабільнасць уладаў, што безумоўна важны фактар пры разглядзе краін для доўгатэрміновых праектаў.

Маем у Беларусі як адносна новае заканадаўства, Інвестыцыйны кодэкс 2008, так і спецыяльныя органы, якія маюць забяспечыць празрыстае выкананне першага. У адпаведнасці з кодэксам, інвестары могуць абскардзіць любыя дзеянні дзяржавы, якія парушаюць іх правы.

### 2. Танная і якасная працоўная сіла

Метраполіі не растуць толькі за кошт памнажэння галоўных індустрый. Горад расце як дрэва – пры пашырэнні з'яўляюцца дадатковыя галіны, якія абслугоўваюць першапачатковыя. Гэтая тэорыя выдатна тлумачыць, чаму Мінск працягваў расці пасля таго, як асноўныя фабрыкі і заводы былі ўжо насычаныя супрацоўнікамі.

Экспарт прамысловай прадукцыі з Мінска стаў асновай для дадатковых відаў дзейнасці такія, як лагістыка, невытворчыя паслугі і навука. Што да апошняй, у Мінску – 21 вышэйшая навучальная ўстанова і Нацыянальная акадэмія навук. Увогуле, у сталіцы працуюць тры чвэрці навукоўцаў Беларусі.

Мінск – багаты на працоўныя рэсурсы. Трошкі лічбаў Нацыянальнага статыстычнага камітэта Рэспублікі Беларусь: у 2009 годзе 1,834 млн. чалавек на 9,480 млн. агульнай колькасці грамадзян краіны, пражывалі ў сталіцы Беларусі. Трэба адзначыць, што і шчыльнасць на душу насельніцтва тут амаль у два разы вышэй, чым у Кіеве і Рызе, у 2,5 разы вышэй, чым у Варшаве і ў 4,3 разы вышэй, чым адпаведны паказчык у Вільні.

Амерыканскі даследчы цэнтр Heritage Foundation у 2012 годзе даў свабодзе працоўнай сілы ў Беларусі 77 балаў са 100 магчымых. У індэксе эканамічнай свабоды 2010 года Беларусь называлі краінай з «адносна гнуткімі умовамі, якія рэгулююць рынак працы, [што] садзейнічае стварэнню большай колькасці працоўных месцаў і росту прадукцыйнасці працы».

Да жалю жыхароў Мінска і да шчасця інвестараў, працоўная сіла таксама адносна танная, не толькі ў параўнанні з Заходняй Еўропай, але і нашай усходняй суседкі, Расіі.

### 3. Лакалізацыя і транспарт

Яшчэ з пачатковай школы нам паўтараюць, што Беларусь ляжыць на скрыжаванні шляхоў Усход-Захад і Поўнач-Поўдзень. Распаўсюджваецца гэтая заява і на сталіцу, якая, як вядома, не толькі геаграфічна знаходзіцца ў сярэдзіне краіны, але і на стыку чыгуначных шляхоў, дарог і іншых сістэм сувязі.

Горад размешчаны на шашы Кіеў-Гомель-Мінск-Вільнюс-Каўнас-Калінінград і шашы Берлін-Варшава-Мінск-Масква-Ніжні Ноўгарад. Трасы гэтыя не дацягваюць да міжнародных стандартаў, і урад разумее, што каб стаць паўнавартаснай транзітнай краінай Беларусі неабходна палепшыць якасць дарог, каб прыцягнуць больш перавозчыкаў і экспедытарскіх агенцтваў, у тым ліку замежных кампаній.

У Стратэгічным плане развіцця Мінска да 2020 да таго ж можна знайсці план будоўлі хуткаснай лініі чыгункі Берлін-Масква (да 350 км/гадзіну).

Кажучы пра інфраструктуру самога горада, сталіца Беларусі мае самыя перадавыя віды грамадскага транспарту, у тым ліку адкрытае ў 1984 годзе падземнае метро, якое застаецца самым хуткім і зручным.

### 4. Фіскальная, гандлёвыя свабоды і свабода бізнесу

Пасля апошніх зменаў заканадаўства падатковая сістэма не павінна чыніць перашкод для замежных інвестыцый у Мінск. Усё той жа амерыканскі даследчы цэнтр Heritage Foundation дае Мінску 86,6 балаў са 100 магчымых у фіскальных свабодах, улічваючы такія фактары, як падатак на дабаўленую вартасць, падаткі на экалогію і г. д.

Перад рэформамі 2009 году патрабавалася да двух месяцаў каб адчыніць фірму, сёння гэта шэсць дзён. У сусветным рэйтынгу лёгкасці вядзення бізнесу (Doing Business Сусветнага банку) Беларусь – на 69 пазіцыі з 183 прааналізаваных краін. Варта падкрэсліць хуткія змены, яшчэ год таму краіна была на 91-ай пазіцыі, а яшчэ год таму – на 115-ай.

## Перашкоды на шляху замежных інвестараў

### 1. Гіперцэнтралізацыя

Першы фактар не столькі спыняе, колькі адбівае ахвоту замежных інвестараў – слабы рынак, які суцэльна кантралюецца дзяржавай. Адметная рыса не толькі Мінску, але і ўсёй Беларусі. Нягледзячы на некаторыя змены заканадаўства ў галіне замежных інвестыцый, прэзідэнцкія дэкрэты засталіся некранутымі.

Замежным інвестарам не варта накіроўвацца са сваімі прапановамі да рэгіянальных уладаў, паколькі апошнія не маюць значнай ролі у вырашэнні пытанняў размяшчэння інвестыцый. Не існуе ніякай аўтаноміі на ўзроўні мясцовага самакіравання: хоць працэдура рэгістрацыі для любога віду бізнесу адбываюцца ў рэгіянальнай адміністрацыі, рашэнні прадстаўляюць менавіта волю кіраўніка краіны.

У выніку, як адзначае амерыканскае Бюро па пытаннях эканомікі, энергетыкі і бізнесу, у справаздачы пра інвестыцыйны клімат Беларусі, «правілы гульні часта застаюцца непаслядоўнымі і мяняюцца». У нас нязменнай ісцінай застаецца тое, што добрыя асабістыя кантакты ва ўрадзе і сярод чыноўнікаў маюць важнае значэнне для многіх прадпрыемстваў.

### 2. Бар’еры ў перамяшчэнні капіталу, фінансавыя свабоды

Heritage Foundation дае Беларусі толькі 10 з магчымых 100 балаў у фінансавай свабодзе. Нашая краіна тут знаходзіцца побач з Іранам, Туркменістанам і Зімбабве. Такая адзнака звычайна даецца краіне, калі фінансавая НЕсвабода мае амаль рэпрэсіўны характар.

У такой сітуацыі размеркаванне крэдытаў знаходзіцца пад кантролем урада, стварэнне банкаў абмежаванае і замежныя фінансавыя інстытуты практычна забароненыя.

Шэраг беларускіх банкаў ужо прададзеныя замежным інвестарам, але, праз іх нязначныя памеры, 75% банкаўскай сістэмы і надалей кантралюецца трыма банкамі, у якіх дзяржава мае абсалютную большасць маёмасці («Беларусбанк», «Белаграпромбанк», «Белінвестбанк»), і двума прыватнымі банкамі («Прыорбанк», «БПС-Сбербанк»). Партфельныя інвестыцыі таксама нязначныя (0,03%). Рынак каштоўных папераў у Беларусі практычна не існуе.

Іншыя ваганні замежных інвестараў – звязаныя з правам падатковых органаў здымаць грошы з банкаўскіх рахункаў на падставе аднабаковага сцвярджэння, што падаткаплатцельшчык павінны заплаціць. Акрамя таго, прадпрыемствы мусяць прадстаўляць інфармацыю пра цэны на прадукты сваёй вытворчасці або паслугі мясцовым уладам, а яны, у сваю чаргу, прадстаўляюць інструкцыі па часе і памеры павелічэння заработнай платы. Калі прадпрыемства жадае павысіць кошты, каб атрымаць ухвалу, яно павінна растлумачыць неабходнасць такіх зменаў у выканаўчы камітэт.

### 3. Невызначыныя правы на нерухомасць

У ацэнцы маёмасных правоў Heritage Foundation прыняў пад увагу структуру нерухомасці, якая засталася практычна нязменнай з савецкіх часоў, з перавагай зямлі ва ўласнасці дзяржавы. Гэтая свабода катастрафічна нізкая – 20 балаў са 100 магчымых.

Паколькі зямля не падлягае продажы, ні замежныя, ні мясцовыя прадпрыемствы не могуць яе купіць. Выключэнне, складаюць выпадкі, калі атрыманы дазвол на зямельную уласнасць з боку кіраўніка краіны. Такім чынам, у адпаведнасці з указам №93 ад 1 сакавіка 2010 года бліжняўсходняй дзяржаве Аман быў прададзены ўчастак зямлі ў 5,7 гектараў у цэнтры Мінска. Другая клінічная бальніца і БелЭкспа перайшлі за 10 млн. USD (але па стане на 2012 год, рэалізацыя праекта так і не пачалася і прыпыненая на паўгады па просьбе аманскага інвестара, які не здолеў пералічыць грошы, прым.рэд.).

У цэлым, у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам, можна купіць дзяржаўныя будынкі, якія знаходзяцца ў Мінску, з адным абмежаваннем: здзелкі вышэй пэўнай квоты дапускаюцца толькі з дазволу прэзідэнта. Пры тым, адрозненні паміж дзяржаўнай і муніцыпальнай уласнасцю ў горадзе з’яўляюцца супярэчлівымі.

Пасля рэформаў 2008-га году рэгістрацыя, ацэнка, продаж і закупкі маёмасці сталі не такімі цяжкімі, але працэдура ўсё яшчэ вельмі бюракратычная і забірае шмат часу.

Такім чынам, кіраўніком краіны быў падпісаны закон «Аб іпатэцы» ў 2008 годзе. Але, нягледзячы на тое, што больш за 700 тысяч беларусаў імкнуцца палепшыць свае жыллёвыя ўмовы, закон так і не стаў рашэннем праблемы на практыцы. Ягоныя ўмовы і палажэнні адпавядаюць міжнароднымі стандартам, але яны лёгка трапляюць пад уплыў або нават змены паводле новых указаў і пастаноў.

У цэлым, прававая сістэма ў

поўнай меры не можа абараніць прыватную ўласнасць, і суды не могуць эфектыўна назіраць за паслядоўным выкананнем кант-рактаў.

### 4. Дзяржаўныя і прадзяржаўныя галіны

Некаторыя індустрыі гораду зарэзэрваваныя выключна для дзяржаўных установаў. Поўны ліст складаецца з каля 35 пазіцый. У дадатак да гэтага спісу існуюць іншыя віды дзяржаўных манаполій, у выпадку якіх прыватныя інвестары часта не маюць шансу пачаць бізнес.

Вядомая манаполія у сферы сэрвіс-правайдэраў фіксаваных тэлефонных ліній «Белтэлекам». (Дэюрэ манаполія ўжо не існуе, але дэфакта канкурэнцыя так і не ўзнікла, прым.рэд.) У той жа час, варта адзначыць, дзяржава не мела поспеху на рынку мабільных аператараў. Прызнаннем гэтага стаў продаж у 2008 годзе 80% акцый дзяржаўнай беларускай кампаніі BEST (GSM-правайдэр, гандлёвая марка life:) ) Turkcell Group з Турцыі.

І замежныя, і мясцовыя інвестары могуць сутыкнуцца з цяжкасцямі выхаду на рынак. У найбольш прыбытковых сферах бізнесу ўжо ўдзельнічаюць дзяржаўныя прадпрыемствы. Заходнім інвестарам можа падацца незразумелым, чаму гатэль «Еўропа», першы пяцізоркавы гатэль у Мінску, належыць Мінскаму гарвыканкаму. У дадзены момант у яго толькі адзін прыватны канкурэнт Crown Plaza, гатэль, пабудаваны турэцкімі інвестарамі.

У такіх прадпрыемствах, як гандаль тытунём і алкаголем або латарэі, кантроль быў паступова перададзены людзям, звязаным з Кіраўніцтвам справамі прэзідэнта.

### 5. Дыскрымінацыя замежных інвестараў

Замежныя інвестары сутыкаюцца з дадатковымі крытэрыямі адбору, такімі як абавязковае увядзенне новых тэхналогій, усталяваная колькасць працоўных месцаў ці так званая «рэкамендацыя», абавязковая для выканання, напрыклад, аб'ёмы экспарту. Акрамя таго, улады звычайна патрабуюць, каб інвестары закуплялі сыравіну і тавары з мясцовых крыніц у адпаведнасці з урадавай праграмай «Купляй беларускае» , якая з'яўляецца часткай палітыкі імпартазамяшчэння.

Прыкладам тут можа быць ААТ «Мінскі гадзіннікавы завод», 52% акцыяў якога былі прададзеныя швейцарскай кампаніі Franck Muller International. Як напісана ў кантракце, Franck Muller International павінна забяспечыць працяг гаспадарчай дзейнасці завода на 2010-2019 гг. і пакінуць назву, а таксама гандлёвую марку «Луч». Кампанія таксама абавязана ў гэты час захоўваць сярэднюю колькасць працаўнікоў не менш за 700 чалавек.

### 6. Невызначаная структура

Гэтая група характарыстык, якія ствараюць перашкоды для замежных інвестыцый, – сукупнасць пытанняў без адказаў. Планаванне дзейнасці інвестараў ўскладняецца праз тое, што амаль немагчыма прадказаць урадавыя рашэнні і пажаданні, якія змяняюцца ад выпадку да выпадку. Да канца не зразумела, хто за што адказвае у Мінску.

Прыклад дзвюх мінскіх будоўляў: аквапарк і «Мінск-Арэна». Будаўніцтва аквапарку было зацверджанае Саветам міністраў, а «Мінск-Арэну» пабудавалі паводле дэкрэту прэзідэнта. Чым глабальна адрозніваюцца гэтыя аб'екты, і дзе прапісана, хто, што павінны зацвярджаць, застаецца адкрытым пытаннем нават для жыхароў гораду, не кажучы ўжо пра замежнікаў.

Да нявызначаных належыць і пытанне з зямлёй, прададзенай Аману. Як будзе вырашацца лёс уласнасці, калі, напрыклад, кіраўнік краіны будзе прызнаны нелегетымным, а з гэтым і продаж зямлі за яго подпісам несапраўдным?

Іншы яскравы прыклад мінскай незразумеласці – «Луч», які першапачаткова належыў гораду. Акцыі фабрыкі па загадзе з верху трэба было перадаць-падараваць дзяржаве, каб пасля дзяржава іх прадавала швейцарскай кампаніі. Чаму гарадскія ўлады не могуць прадаваць тыя ж акцыі самастойна, а прыбытак накіроўваць непасрэдна ў бюджэт горада?

Хоць у Беларусі намінальна добра развітая прававая база, замежныя інвестары збянтэжаныя непрадказальнасцю і адсутнасцю павагі да закону на практыцы. Адсутнасць паслядоўнасці і логікі паміж дэкрэтамі і ўказамі кіраўніка краіны, а таксама нечаканае з'яўленне новых павялічвае ваганні інвестараў. Тэме празрыстасці некаторых заканадаўчых палітык можна прысвяціць асобны артыкул.

## Карупцыя: магчымасць ці бар'ер?

Згодна з беларускім заканадаўствам, прадстаўленне або атрыманне хабару – гэта крымінальнае злачынства з пакараннем пазбаўленнем волі да 15 гадоў.

Жыхарам Мінска можа падавацца, што узровень карупцыі адносна нізкі у параўнанні да іншых краін СНД. Такія вынікі могуць быць дадаткова абгрунтаваныя уласным назіраннем, напрыклад, паводзінаў супрацоўнікаў ДАІ, якія адмаўляюцца браць хабар. Але сказаць, што карупцыі няма, нельга.

Прыкладам, МАЗ на пачатку 90-х. У той час як у іншых краінах грузавік каштаваў 30 тыс. USD, на беларускім МАЗе ён быў за 15 тыс. USD. Але каб яго набыць трэба было стаяць у чарзе, за месца ў якой плацілі прыватна. Такім чынам, праз завод прайшло 1,5 млрд. USD у якасці хабару.

Варта адзначыць, што антыкарупцыйнае заканадаўства і механізмы хутчэй з'яўляюцца інструментам кіравання сістэмай. У хабары абвінавачваюцца «непажаданыя».

Так ёсць, не мінскі, але агульнабеларускі прыклад, арышту генеральнага дырэктару «Белнафтахіма»: Аляксандр Бароўскі быў асуджаны ў 2008 годзе на пяць год пазбаўлення волі за злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі. Але ўжо праз паўтары гады быў вызвалены. Яму таксама было забаронена тры гады займаць дзяржаўныя пасады, але ўжо праз год пасля вызвалення ён стаў дырэктарам МАЗа. У спіс карумпаваных чыноўнікаў трапляюць і самыя блізкія людзі з Адміністрацыі прэзідэнта.

Heritage Foundation дае Беларусі 25 балаў са 100 па свабодзе ад карупцыі. Побач з намі цалкам спадзявана знаходзяцца Украіна (24 балы) і Расія (21 балы). А вось суседка з Захаду, Польшча, мае 53 балы, паказчык лепшы больш як у 2 разы.

Акрамя таго, Беларусь займае 143 месца з 181 краіны ў індэксе ўспрыняцця карупцыі за 2011 год паводле Transparency International. Найбольш пацярпелыя галіны – імпартна-экспартныя прадпрыемствы. У іх, па дадзеным арганізацыі, сустрэцца з карупцыяй можна на кожным этапе здзелкі.

Карупцыя праймае ўсе ўзроўні кіравання і з'яўляецца асноўнай перашкодай на шляху замежных інвестыцый. У адпаведнасці з незалежнымі апытаннямі, яна асабліва высокая сярод кіраўнікоў буйных дзяржаўных прадпрыемстваў, міліцыі, лекараў і настаўнікаў.

## Заключэнне

Паводле аналізу, доля замежных інвестыцый у эканоміку Мінска з кожным годам павялічваецца. Тым не менш, акцэнт павінен быць зроблены не на колькасць, а на якасць і структуру. Перавага павінна быць дадзена тым інвестыцыям, якія прынясуць у Мінск рэальны замежны капітал, інавацыі і новыя тэхналогіі.

Павелічэнне падатковых паступленняў прывядзе да паляпшэння фінансавання сацыяльных праграм. Акрамя таго, замежныя інвестыцыі будуць прапаноўваць грамадзянам новыя магчымасці каб захоўваць свае сродкі. У выніку, давер да рынкавай эканомікі з пункту гледжання грамадзян будзе палепшаны.

Прыцягненне замежнага капіталу ў горад з'яўляецца неабходнай умовай для пабудовы сучаснага грамадства. Гораду больш выгадна прыцягваць замежныя інвестыцыі да прадукцыі і паслуг, чым спадзявацца на крэдыты для рэканструкцыі або развіцця гэтых галін. Такім чынам, замежныя інвестыцыі маюць жыццёва важнае значэнне для дасягнення мэтаў стратэгічнага плана ўстойлівага развіцця Мінска.

Але інтарэсы беларускага ўрада не цалкам супадаюць з замежнымі інвестарамі. З аднаго боку, бароначы прадзяржаўны бізнес, урад зацікаўлены ў аднаўленні і мадэрнізацыі прамысловых галін з дапамогай замежных інвестыцый. З іншага, замежных інвестараў Мінск больш цікавіць як новая платформа для прыбытку ад рынку горада і краіны. Іх лёгка прывабіць кваліфікаванай ды адносна таннай працоўнай сілай.

Замежны капітал, пры гэтым, патрабуе гарантаваную абарону ад свавольства, сістэму страхавання ад некамерцыйных рызыкаў, а таксама стабільныя ўмовы для доўгатэрміновых інвестыцый. У мясцовага самакіравання не хапае магчымасцяў весці ўласную палітыку, незалежную ад цэнтру, а калі быць дакладней, ад кіраўніка краіны. У сувязі з гэтым улады, павінны не пазбаўляць інвестараў стымулаў і прадставіць, па меншай меры, заканадаўства, якое дакладна функцыянуе.

Афіцыйна ўлады запрашаюць замежных інвестараў у сталіцу, але выразна кажуць, што на ўсе інвестыцыі стаіць дзяржаўны фільтр. Уладзімір Макей, які тады быў кіраўніком справамі прэзідэнта, заявіў напярэдадні мінулых прэзідэнцкіх выбараў, што Беларусь адмаўляецца прымаць грошы з-за мяжы, прапанаваныя пад палітычныя ўмовы. «Нам не патрэбныя мільярды дзеля мільярдаў, або інвестыцыі дзеля інвестыцый», – заявіў Макей.

Перашкоды для замежных інвестыцый, аналізаваныя у гэтым артыкуле, носяць выразны палітычны характар. Між тым, дзяржава не мае дачынення да галоўных фактараў, якія прыцягваюць інвестараў, такіх як геаграфічнае становішча або працоўная сіла.

Паколькі бар'еры ўзнікаюць праз цэнтралізаваны палітычны рэжым, устаноўлены ў краіне, замежныя інвестары павінны бачыць прэзідэнцкія выбары як магчымасць зменаў сітуацыі. Існуюць аптымістычныя спадзяванні, што перашкоды знікнуць разам з рэжымам, які іх стварыў. Затым дзверы інвестыцыйнай палітыкі адчыняць не толькі на словах, але і на практыцы. І менавіта тады пажынаць плён замежных інвестыцый будзе не кіраўніцтва краіны, не яго замежныя саюзнікі і паплечнікі, а жыхары Мінска.

## Карысныя спасылкі

http://blog.transparency.org/2011/11/30/corruption-perceptions-index-2011-little-to-celebrate/

http://www.heritage.org/index/ranking

http://russian.doingbusiness.org/data/exploreeconomies/belarus

# Ірландыя: дабрабыт у крэдыт

**Алесь Лукашэвіч**

Незалежны эканаміст

**У 2011 годзе Беларусі давялося перажыць беспрэцэдэнтны валютны крызіс і прайсці этап абнулення эканамічнага цыклу, заснаванага на падтрыманні ілюзіяў фальшывага дабрабыту. Спіраль дэвальвацыі і інфляцыі ўдвая панізіла даходы беларусаў, паралізавала малы і сярэдні бізнес і моцна пахіснула веру электарату ў беларускую эканамічную мадэль.**

Пасля дасягнення першапачатковай стабілізацыі на валютным рынку занепакоеныя погляды як звычайных абываталяў, так і экспертнай супольнасці скіраваліся ў бок беларускай банкаўскай сістэмы. Менавіта яе называюць найбольш верагоднай крыніцай узрушэнняў, якія ў бліжэйшай будучыні давядзецца перажыць беларускай дзяржаве. У гэтым кантэксце тэма банкаўскіх крызісаў, якія нядаўна выбухнулі ў розных кутках планеты, набывае для беларускіх policymakers асаблівае значэнне.

Якія ўрокі трэба засвоіць беларусам на падставе чужога негатыўнага досведу? Дзе шукаць слабыя месцы сучасных развітых эканомікаў? Якіх памылак і дысбалансаў трэба пазбягаць беларускай дзяржаве падчас інтэнсіўнага і экстэнсіўнага развіцця банкаўскіх паслуг? Прапаную пашукаць адказы на гэтыя пытанні, аналізуючы прычыны і ход фінансавага крызісу ў адной з найбольш паспяховых да нядаўняга часу краінаў еўрапейскага рэгіёну – Ірландыі.

Прынята лічыць, што глабальны фінансавы крызіс 2008 г. прыйшоў у Еўропу са Злучаных Штатаў. Як наўпрост – праз паслабленне гандлю і праблемы на амерыканскіх фондавых рынках, так і ўскосна – праз паслабленне гандлю з Кітаем, які зменшыў экспарт у ЗША і адпаведна істотна скараціў свой імпарт з Еўропы. І хаця да 2008 году эканамічная сітуацыя ў Еўразвязе выглядала на першы погляд нашмат лепей, чым у Злучаных Штатах, аднак абвастрэнне subprime крызісу (фінансавы, крэдытны крызіс, прым. рэдакцыі) некаторыя еўрапейскія краіны перанеслі нашмат цяжэй, чым эканоміка ЗША. Пры чым, найбольш пацярпелі менавіта тыя краіны, якія нядаўна перажылі самы хуткі рост, у прыватнасці, Ірландыя.

### Ірландыя: узлёт

Перыяд выбітнай эканамічнай кан'юнктуры, якому папярэднічалі шмат стагоддзяў знаходжання ў шэрагах найбяднейшых краінаў Еўропы, распачаўся у Ірландскай Рэспубліцы напрыканцы 80-х гадоў XX стагоддзя.

У 1987 годзе ірландскі ўрад скончыў складаныя перамовы з прафсаюзамі, дасягнуўшы важных сацыяльных пагадненняў, якія тычыліся, між іншым, усталявання сціплых ставак заработнай платы ў абмен на нізкі ўзровень падаткаабкладання. З аднаго боку, улады астраўной дзяржавы панізілі падатак на даходы фізічных асобаў да 20% і ўсталявалі адзін з самых нізкіх у Еўропе падаткаў на даходы юрыдычных асобаў – на узроўні 12,5%. З другога боку, афіцыйны Дублін зменшыў бюджэтныя выдаткі дзяржавы на 10%, скараціўшы, у прыватнасці, выдаткі на сацыяльную абарону да 4% ВУП, а выдаткі на ахову здароўя да 1% ВУП.

Абіраючы малапрыемны шлях фіскальнай кансалідацыі і раўнавагі публічных фінансаў, улады Ірландыі

здолелі з цягам часу назапасіць сродкі, неабходныя для паніжэння высокай дзяржаўнай запазычанасці і развіцця інстытуцыянальнай і вытворчай інфраструктуры. А, дзякуючы нізкім падаткам, урад у Дубліне здолеў разняволіць прадпрымальніцкую ініцыятыву, прыцягнуць у краіну замежных інвестараў, зменшыць шалёны ўзровень беспрацоўя і ліквідаваць дэфіцыт бюджэту (гл. табліцу)

Пасля завяршэння шэрагу рынкавых рэформаў эканоміка рэспублікі пачала імкліва даганяць развітыя краіны і цягам аднаго дзесяцігоддзя змяніла сваё сельскагаспадарчае аблічча на эканоміку, заснаваную на ведах, паслугах і высокіх тэхналогіях. Галоўнае месца ў жыцці новай Ірландыі занялі экспарт прамысловай прадукцыі, гандаль і замежныя капіталаўкладанні. Несельскагаспадарчая занятасць на выспе павялічылася з 33% у 1993 годзе да 41% у 2000 годзе і 46% у 2007 годзе.

**1. Агульная падатковая нагрузка, якую адчувае прадпрыемства ў другі год сваёй дзейнасці: Ірландыя на фоне выбраных груп краінаў**

| | 2006 | 2007 | 2008 | 2009 | 2010 | 2011 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Ірландыя | 25,8% | 25,8% | 28,9% | 28,8% | 26,5% | 26,5% |
| Краіны Еўразвязу | 51,8% | 50,2% | 47,7% | 46,0% | 44,5% | 44,1% |
| “Азіяцкія тыгры” | 31,3% | 31,1% | 30,8% | 31,6% | 31,1% | 30,3% |
| Цэнтральна-ўсходняя Еўропа | 48,1% | 44,9% | 41,5% | 39,8% | 36,9% | 35,3% |
| Развітыя краіны | 46,5% | 45,6% | 44,3% | 42,9% | 41,7% | 40,1% |
| Краіны АЭСР | 47,3% | 46,5% | 45,6% | 44,3% | 43,6% | 42,3% |

### Інвестыцыі

Прамыя замежныя інвестыцыі траплялі ў ірландскую эканоміку галоўным чынам у форме заводаў і філіяў транснацыянальных карпарацыяў, якія пачалі прыглядацца да выспы яшчэ ў 60-я гады мінулага стагоддзя. Пры чым, прыток амерыканскага капіталу ў Ірландыю ў некалькі разоў перавышаў інвестыцыі з еўрапейскіх дзяржаваў. Амерыканцы ўспрымалі Ірландыю як добрую пляцоўку для наступнай экспансіі на рынкі ўсёй кантынентальнай Еўропы, асабліва пасля далучэння ў 1973 годзе гэтай дзяржавы да еўрапейскай эканамічнай прасторы. Велізарная мода на інвеставанне ў Ірландыі распачалася напрыканцы 90-х гадоў.

У перыяд з 1995 па 2004 гады са Злучаных Штатаў у Ірландыю прыйшло інвестыцыяў на агульную суму 140 мільярдаў долараў Краіна вабіла амерыканскія карпарацыі таннай працоўнай сілай, сучаснай інфраструктурай і эфектыўнымі навуковымі асяродкамі. Апроч таго, такія нізкія падаткі, якія былі ўсталяваныя ў рэспубліцы, зазвычай сустракаюцца ў афшорных зонах.

Замежныя інвестары напоўніцу карысталіся ірландскімі ільготамі. Напрыклад, кожнае новастворанае на выспе прадпрыемства першыя тры гады сваёй дзейнасці ўвогуле не плаціла падаткаў. Заканадаўства рэспублікі не прадугледжвала таксама абмежавання на вываз даходаў карпарацыяў. Паводле дадзеных сусветнага інвестыцыйнага дакладу UNCTAD за 2005 год, агульны аб'ём прамых інвестыцыяў у ірландскую эканоміку склаў 106% ВУП, змяшчаючы гэтую краіну на абсалютнае першае месца ў рэйтынгу Арганізацыі эканамічнай супрацы і развіцця (АЭСР).

Ірландскія навукоўцы П. Кірбі і П. Кармодзі (P. Kirby і P. Carmody) адзначаюць, што ў 2003 годзе 4-мільённая краіна прыцягнула столькі ж прамых замежных інвестыцыяў, колькі ўсе Злучаныя Штаты Амерыкі.

Уступіўшы ў Еўразвяз, Ірландыя надзвычай эфектыўна пачала карыстацца сродкамі Еўрапейскага фонду рэгіянальнага развіцця, Еўрапейскага фонду кіравання і Еўрапейскага фонду сацыяльнай падтрымкі для правядзення рэструктурызацыі прадпрыемстваў і тэхналагічнай мадэрнізацыі эканомікі. Краіна здолела заняць моцную пазіцыю ў такіх высокапрыбытковых галінах прамысловасці як фармацэўтыка, кампутарнае і медычнае абсталяванне, тэлекамунікацыі і сфера IT. Яшчэ ў 1990-ыя гады Ірландыя дасягнула самага высокага сярод краінаў АЭСР паказніку долі высокатэхналягічных тавараў у агульным экспарце.

Да крызісу 2008 году у Ірландыі працавала больш за 1000 міжнародных карпарацыяў, якія выраблялі амаль 90% усёй прамысловай прадукцыі (а ў самых сучасных галінах эканомікі практычна 100%). Пры гэтым 94% тавараў і паслуг замежных прадпрыемстваў прадавалася за мяжу, перадусім, у Злучаныя Штаты і на рынкі астатніх еўрапейскіх краінаў.

Для параўнання, традыцыйныя сектары ірландскай гаспадаркі,

**Прыток у Ірландыю прамых замежных інвестыцыяў, 1995-2010**



такія як энергетыка, харчовая прамысловасць і сельская гаспадарка, выраблялі на экспарт толькі 33% сваёй прадукцыі. Цягам некалькіх гадоў занятасць у фірмах, якія знаходзіліся пад кантролем замежнага капіталу, павялічылася з 15,2% у 1997 годзе да 31,6% у 2005 годзе. У прамысловасці гэты паказнік дасягнуў амаль 50%. Напрыклад, у Вялікабрытаніі ён складаў 27,6%. І хаця галасы занепакоенасці занадта вялікай залежнасці ірландскай эканомікі ад замежнага капіталу гучалі з вуснаў многіх мясцовых эканамістаў яшчэ да крызісу 2008 году, шырокую ўвагу экспертаў яны прыцягнулі толькі тады, калі патэнцыйныя рызыкі ўжо сталіся рэальнасцю.

### «Кельцкі тыгр»

У сувязі з хуткім ростам валавага ўнутранага прадукту, Ірландыю называлі «Кельцкім тыграм», па аналогіі з «тыграмі» Усходняй Азіі – Паўднёвай Карэі, Тайванем, Сінгапурам і Ганконгам. У 1990-ыя гады эканоміка Ірландыі расла ў тэмпе 9-11% у год і развівалася ў сярэднім у 2-3 разы хутчэй, чым гаспадарка Еўрапейскага Звязу. Пэўны час выспа знаходзілася нават ў першай пяцёрцы краінаў АЭСР па ўзроўні ВУП на душу насельніцтва, саступаючы толькі Люксембургу, Нарвегіі і Злучаным Штатам.

Добрая дынаміка эканамічнага росту Ірландыі была абумоўлена ростам экспарту, умераным ўзроўнем заработнай платы і нізкай інфляцыяй, якая спрыяла развіццю гандлю і крэдытных інстытутаў.

Узровень беспрацоўя з 16% у 1994 годзе ўпаў да адзнакі 4% у 2001 годзе. Па вялікім рахунку, упершыню ў найноўшай гісторыі рэспубліка дасягнула ўмоўнага ўзроўню поўнай занятасці.

Напачатку 2000-ых Ірландыя сутыкнулася з праблемай тэхналагічных абмежаванняў. Эканамічны рост з 9,9% ВУП у 1999 г. і 9,3% у 2000 г. запаволіўся ў 2001 годзе ў два разы. Патэнцыял імклівага развіцця гаспадаркі ў існуючых на той момант варунках сябе вычарпаў.

Ірландцы прыйшлі да высновы, што вяртанне да высокіх тэмпаў эканамічнага росту ёсць магчымым праз эміграцыю рабочых рэсурсаў і стымуляцыю ўнутранага попыту. Вялікую вагу ў краіне пакрупова пачаў набіраць фінансавы сектар. Агульнадаступныя і танныя банкаўскія крэдыты надалі гаспадарцы другое дыханне.

**Дасягненне поўнай занятасці ў ірландскай гаспадарцы, месячныя паказчыкі**




## Ірландыя: крызіс

### Банкі

Крыніцы фінансавага крызісу, які распачаўся ў краіне ў 2007 годзе, трэба шукаць у агрэсіўнай канкурэнцыі паміж банкамі, якія ў 2003 годзе рушылі шляхам актыўнага выкарыстання рызыкоўных банкаўскіх стымулаў, высокіх крэдытных рычагоў і сумнеўных іннавацыяў у галіне фінансавай інжынерыіі.

Напрыклад, у 2007 годзе у маленькай Ірландыі функцыянавала ўжо больш за 80 банкаўскіх і калябанкаўскіх інстытуцыяў, на якія працавала 40 тысяч чалавек. Актывы фінансавага сектару за чатыры гады выраслі ў чатыры разы і ў 2007 годзе складалі ўжо 715% ВУП, што было, безумоўна, рассаднікам сістэмных рызыкаў для ўсёй эканомікі. Падобныя памеры банкаўскага сектару для Ісландыі скончыліся ў 2008 годзе банкруцтвам трох галоўных банкаў Glitnir, Kaupthing і Landsbanki.

У Ірландыі доля банкаў, якія належылі замежнаму капіталу, перавышала лічбу ў 50%. Галоўнымі гульцамі на рынку крэдытных паслуг краіны былі Anglo Irish Bank, Irish Life & Permanent, Irish Nationwide Building Society, Bank of Ireland, Educational Bulding Society і Allied Irish Bank.

Цяперашнія цяжкасці ірландскай банкаўскай сістэмы, як з пункту гледжання ліквіднасці, так і плацежаздольнасці, з'яўляюцца ў першую чаргу вынікам празмернага крэдытавання жыллёвага сектару. Пакупку большасці аб'ектаў на рэгіянальным рынку нерухомасці ірландскія банкі фінансавалі з дапамогай кароткатэрміновых пазыкаў за мяжой. Таму банкаўскі сектар Ірландыі патрапіў у вялікую залежнасць ад ваганняў кан'юнктуры на міжнародных фінансавых рынках, асабліва ў кантэксце сусветнага крызісу ліквіднасці.

Доля выдаваных забудоўшчыкам крэдытаў у інвестыцыйных партфелях ірландскіх банкаў таксама стала павялічвалася. Асабліва імклівым гэты рост быў у 2004-2006 гады: Anglo Irish Banku – 44% штогод, INBS – 38% штогод, Anglo-Irish Bank – 33% штогод. У 2006 годзе ўжо 80% крэдытных актываў Anglo Irish Bank і Irish Nationwide Building Society займалі крэдыты на пакупку альбо будову аб'ектаў нерухомасці.

### Адток інвестыцыяў

У 2005 годзе ірландскі ВУП на душу насельніцтва дасягнуў 120% сярэдняга ўзроўню па Еўразвязу. Грамадства напоўніцу цешыліся доўгачаканым дабрабытам, але ў вачах транснацыянальных карпарацыяў эканоміка выспы пачала губляць свой галоўны козыр – міжнародную канкурэнтаздольнасць рынку працы. Да таго ж, уступленне ў 2004 годзе ў Еўрапейскі Звяз такіх краінаў як Польшча, Венгрыя, Славакія, Чэхія, Літва, Латвія і Эстонія адкрылі для амерыканскіх

і заходнееўрапейскіх карпарацыяў новыя інвестыцыйныя пляцоўкі, якія ў цэнавым аспекце былі нашмат больш прывабнымі за Ірландыю.

Ірландскія эліты ўсвядомілі ўсю сур'ёзнасць стратэгічных выклікаў, звязаных з пашырэннем Еўразвязу на ўсход толькі тады, калі сальда замежных інвестыцыяў прыняло небяспечна адмоўную велічыню. У адным толькі 2005 годзе чысты адток прамых інвестыцыяў склаў 30% ВУП. Эканамічную кан'юнктуру краіны трэба было неадкладна ратаваць.

Улады Ірландыі вырашылі амартызаваць негатыўны эфект ад адтоку інвестыцыяў праз стымуляцыю ўнутранага попыту, падвышэнне публічных выдаткаў і інтэнсіўнае крэдытаванне жыллёвага будаўніцтва.

**Індэкс кумулятыўнага росту цэн на нерухомасць, квартальныя паказчыкі**




### Іпатэчны бум і падзенне

Умовы для павелічэння попыту на жыллё ў Ірландыі пачалі фармавацца яшчэ ў 1994 годзе, калі нарастаючы высокатэхналагічны экспарт выразна станавіўся будучай асновай эканамічнай экспансіі на рынкі аб'яднанай Еўропы. Сімвалічным стартам для іпатэчнага буму паслужыла рэзкае падзенне ставак рэфінансавання некалькі месяцаў перад уступленнем рэспублікі ў еўрапейскую валютную унію.

Павелічэнне насельніцтва за кошт новых мігрантаў і сталы рост даходаў у спалучэнні з нізкімі працэнтнымі стаўкамі па іпатэчных крэдытах заахвоцілі ірландцаў да масавай пакупкі дамоў. Цэны на нерухомасць ішлі ўверх з неймавернай хуткасцю, у прыватнасці, у 1997-2004 гадах яны павялічыліся на 160%.

Адпаведна, кліенты ірландскіх банкаў у чаканні далейшага падвышэння цэнаў намагаліся купіць у крэдыт як мага болей кватэраў, успрымаючы іпатэку як цудоўны спосаб зрабіць грошы з паветра.

Перагрэты рынак нерухомасці стаў, безумоўна, асноўнай прычынай надзьмухання спекулятыўнай бурбалкі на ірландскім рынку фінансавых паслуг.

Будаўніцтва лічылася лакаматывам ірландскай эканомікі. Банкі ахвотна пазычалі грошы будаўнікам і праз сек'юрытызацыю крэдытных актываў распаўсюджвалі іпатэчныя рызыкі па ўсім фінансавым сектары. «Алей ў агонь» падліваў Еўрапейскі цэнтральны банк, які працяглы час практыкаваў палітыку нізкіх ставак рэфінансавання з мэтай стымуляцыі попыту ў еўразоне. Танныя крэдытныя грошы падагравалі ірландскі будаўнічы бум і сталіся крыніцай доўгатэрміновых дысбалансаў.

Між іншым, імклівае жыллёвае будаўніцтва паставіла ў залежнасць ірландскі рынак працоўных рэсурсаў і падаткавыя паступленні ў бюджэт ад ваганняў коштаў на нерухомасць. Да таго ж, знаходжанне Ірландыі ў зоне еўра паспрыяла паслабленню ўнутранага кантролю над фінансавым сектарам.

Еўрапейскі цэнтрабанк стрымліваў і нават блакаваў рэакцыю ірландскіх уладаў, пазбаўленых асноўных рычагоў грашова-крэдытнай палітыкі. Хаця, дзеля справядлівасці, трэба зазначыць, што афіцыйны Дублін не асабліва і імкнуўся неяк уплываць на сітуацыю. З нагоды слабага і неэфектыўнага фінансавага нагляду інвестары нават называлі Ірландыю «Дзікім Захадам еўрапейскіх фінансаў».

Ірландскія банкі, глядзелі на імклівы рост цэнаў на нерухомасць і спаборнічалі між сабой у прыцягненні іпатэчных кліентаў і ўвесь час паніжалі ўнутраныя стандарты выдавання крэдытаў. Кволая сістэма прудэнцыяльнага рэгулявання Ірландыі сталася прычынай цэлагу шэрагу небяспечных праяваў, сярод якіх былі:

- нізкая якасць аналізу крэдытнай здольнасці пазычальнікаў і сістэматычнае паніжэнне банкаўскіх стандартаў;
- дэградацыя фінансавай дысцыпліны ў банках і недахоп поўнай і дакладнай іпатэчнай дакументацыі;
- дэфектыўныя бізнес-мадэлі, якія абапіраліся на кароткатэрміновае фінансаванне доўгатэрміновых актываў і чэрпалі сродкі з міжнародных фінансавых рынкаў;
- адсутнасць банкаўскай разважлівасці і крытычнага мыслення падчас здабывання новых кліентаў;
- рызыкоўныя фінансавыя інавацыі і бязглуздая фінансавая інжынерыя;
- памылковыя сістэмы матывацыі на ўсіх банкаўскіх узроўнях – засяроджванне ўвагі на продажы, а не вяртанні інвестыцыяў;
- адсутнасць адэкватных санкцыяў за невыкананне банкамі заканадаўства;
- неадэкватныя мадэлі ацэнкі сістэмных рызыкаў, звязаных з няпоўным веданнем стану крэдытных партфеляў;
- шырокі спектр падатковых ільготаў для рынку нерухомасці, які і так рухаўся ў небяспечным накірунку.

Цягам апошніх некалькіх гадоў перад крызісам у эканоміцы Ірландыі адбывалася трансфармацыя ключавых гаспадарчых прыярытэтаў і матывацыяў. У краіне, якая цягам двух дзесяцігоддзяў была арыентавана на экспарт, галоўнай крыніцай эканамічнага росту стала жыллёвае будаўніцтва і фінансавыя паслугі. У 2006 годзе ў Ірландыі, у якой жыве 4,2 мільёна чалавек, было пабудавана 88000 кватэраў. Для параўнання, у Вялікабрытаніі, якая мае ў 15 разоў большае

**Дакрызісны стан дзяржаўных фінансаў Ірландыі на фоне выбраных краінаў, (дадзеныя на канец году)**




насельніцтва, за той жа самы год пабудавалі 150000 кватэраў.

Унёсак будаўнічай індустрыі ў валавы ўнутраны прадукт Ірландыі ў 2006 годзе дасягнуў 25%. У той жа час значэнне прамысловасці і гандлю паступова зніжалася. Аб'ём экспарту з 75% ВУП у 2002 годзе скараціўся да 48% у 2007, а прафіцыт гандлёвага балансу знізіўся з 31,8% ВУП у 2002 г. да 13,7% ВУП у 2007 г.

### Змяншэнне ўкладу гандлёвага сальда ў ВУП Ірландыі

Доля крэдытаў на будаўніцтва і пакупку нерухомасці раўнялася 28% вартасці агульнага крэдытнага партфеля банкаўскага сектару Ірландыі. Аналагічны паказчык у Еўразвязе ў сярэднім складае 8%. Агульная сума крэдытаў, прадстаўленых забудоўшчыкам і пасярэднікам на рынку нерухомасці на канец 2007 году налічвала 100 мільярдаў еўра, што адпавядае 53% ірландскага ВУП – столькі ж, колькі склаў абарот ўсяго крэдытнага рынку ў 2000 годзе.

Што цікава, у 1997 г. ірландскія банкі крэдытавалі эканоміку выключна з унутраных дэпазітаў, а ў 2005 г. ужо больш за палову крэдытаў у Ірландыі фінансавалася з грошай, пазычаных на замежных фінансавых рынках. Так на працягу дзесяцігоддзя сукупны знешні доўг краіны вырас у некалькі разоў.

Каб усвядоміць сабе ступень залежнасці эканомікі Ірландыі ад кан'юнктуры іпатэчнага рынку, варта згадаць, што па дадзеных Цэнтральнага статыстычнага цэнтру гэтай краіны 87% ірландскага насельніцтва жыве ва ўласных дамах, большасць з якіх купленая ў крэдыт.

Адпаведна, калі да Ірландыі дакацілася хваля сусветнага крызісу ліквіднасці і банкі скарацілі аб'ёмы крэдытавання жыллёвага будаўніцтва, попыт на нерухомасць пайшоў ўніз. Многія будаўнічыя кампаніі апынуліся не ў стане абслугоўваць узятыя крэдыты, і кошт нерухомасці, якая была залогам крэдытных ліній, на працягу ўсяго некалькіх месяцаў зменшылася ў некалькі разоў.

З 2008 году Ірландыя пакутуе на празмерную прапанову на іпатэчным рынку: безліч офісных будынкаў і жылых дамоў стаяць пустыя, і ніхто іх не збіраецца набываць нават па зніжаных коштах. Зразумела, што ў такой сітуацыі вялікая колькасць будаўнічых фірмаў апынулася на мяжы банкруцтва, а невяртанне жыллёва-будаўнічых крэдытаў абваліла ўвесь фінансавы сектар.

### Страты эканомікі

Адсутнасць даверу да фінансавых інстытуцыяў выклікала сярод кліентаў ірландскіх банкаў паніку. З аднаго толькі холдынгу Irish Life & Permanent цягам двух месяцаў укладнікі забралі 600 мільёнаў еўра, то бок 10% дэпазітнага партфелю фірмы. Індэкс ірландскай фондавай біржы ICEQ, які ў 2007 годзе перавысіў сімвалічныя 10 тысяч пунктаў, вясной 2008 году ўпаў ніжэй за 6000 пунктаў, а ў лютым 2009 апусціўся ніжэй 2000, дасягнуўшы свайго 14-гадовага мінімуму.

У сярэднім акцыі ірландскіх банкаў упалі на 8-15%. Найбольш пацярпеў Anglo Irish Bank, які аднатаваў страты ў памеры 30 мільярдаў еўра, пры тым што страты ўсяго банкаўскага сектару краіны перавысілі 100 мільярдаў еўра.

З краіны масава пачаў ўцякаць капітал. Спыніць адток інвестыцыяў і перарваць замкнёнае кола недастатковай ліквіднасці і крызісу даверу ў фінансавым сектары вырашылі ірландскія ўлады. Яны аб'явілі аб дзяржаўных гарантыях усіх абавязанняў ірландскіх банкаў і тым самым перанеслі па сутнасці частку банкаўскіх стратаў на падаткаплацельшчыкаў. Каб аплаціць такі «сацыялізм для багатых», ураду ў Дубліне давялося пазычыць на міжнароднай арэне 85 мільярдаў еўра. Такая дзяржаўная дапамога фінансаваму сектару зруйнавала публічныя фінансы Ірландыі: доўг краіны з 24,9% ВУП у 2007 годзе падскочыў да 115% ВУП у 2012 годзе.

У верасні 2008 году Цэнтральны статыстычны цэнтр Ірляндыі паведаміў, што краіна адна з першых у еўразоне ўвайшла ў рэцэссію. Пасля панікі ў банкаўскім сектары рынкавая капіталізацыя прапісаных на біржы ў Дубліне фірмаў панізілася з 73,4% ВУП у 2006 г. да 13,4% ВУП у 2009 г. Восенню бюджэтны прафіцыт Ірландыі змяніўся вялікім дэфіцытам, павялічылася колькасць банкрутстваў прадпрыемстваў, вырасла беспрацоўе і пачаліся першыя сыходы мігрантаў.

У I квартале 2009 году ВУП знізіўся на 8,5% у год, а ўзровень беспрацоўя вырас з 8,75% да 11,4%. Колькасць людзей, якія атрымлівалі дапамогу па беспрацоўю ў студзені 2009 году перавысіла гістарычны рэкорд 1967 году ў 326 тысяч, а ў кастрычніку 2011 году гэтая лічба дасягнула адзнакі 447000, то бок 14% працаўнікоў. У 2008-2010 гадах эканоміка Ірландыі скарацілася на 11% ВУП. У намінальным выразе валавы нацыянальны прадукт зменшыўся з 162 мільярдаў еўра ў 2007 годзе да 131 мільярдаў еўра ў 2009 годзе. У краіне адбылося рэзкае падзенне падаткавых паступленняў у бюджэт.

**Дакрызісны стан дзяржаўных фінансаў Ірляндыі на фоне выбраных краінаў, (дадзеныя на канец году)**




Трэба зазначыць, што ірландская даўгавая праблема ні ў якім выпадку не ёсць прычынай разбэшчанай фіскальнай палітыкі. Перад крызісам Ірландыя магла пахваліцца стабільным прафіцытам бюджэту. Сальда даходаў і выдаткаў дзяржавы на працягу дзесяцігоддзя было ў сярэднім на 2-3 працэнтных пункты вышэй за бюджэтнае сальда краінаў Еўразвязу. Такім чынам, стан публічных фінансаў Ірландыі да крызісу можна было назваць задавальняючым.

## Пазыкі прыватнага сектару

Аналізуючы макраэканамічныя прычыны фінансавага крызісу ў Ірландыі, трэба абавязкова браць пад увагу ўзровень запазычанасці прыватнага сектару. Засяроджванне ўвагі выключна на дадзеных, якія тычацца памераў дзяржаўнага доўгу, стварае скажоную карціну ірландскай рэчаіснасці.

Для кожнай краіны здольнасць гаспадаркі да генеравання прыбытку і стабільнага эканамічнага росту і, адпаведна, падаткаў, якія з ім звязаныя – нашмат важней, чым памеры дзяржаўнага доўгу. Вялікае значэнне маюць мэты, з якімі прыватны сектар пазычае грошы. Калі выдзеленыя крэдыты ідуць на стварэнне актываў, якія маюць патэнцыял будучых эканамічных выгадаў і развіваюць эфектыўны попыт, то выкарыстанне крэдытных механізмаў можна толькі вітаць. На жаль, у Ірландыі крэдытаванне набыло зусім іншых характар.

Параўноўваючы узроўні дзяржаўнага доўгу краінаў PIIGS, многія эканамісты раней рабілі неабачлівую выснову, што Ірландыя вядзе асцярожную грашова-крэдытную палітыку, паколькі ў тым жа 2007 годзе чысты дзяржаўны доўг гэтай краіны складаў усяго 11% ВУП. На самой жа справе, Ірландыю можна назваць лідэрам празмернага крэдытавання хатніх гаспадарак і краёвага бізнесу. У 2010 г. Ірландыя мела адзін з найбуйнейшых прыватных даўгоў на свеце (305% ВУП). Пры чым дзве трацiны гэтага доўгу належала фізічным асобам (каля 190% ВУП).

## Антыкрызісныя задачы

У 2008-2009 гадах перад Ірландыяй, як і многімі іншымі краінамі Еўразвязу, паўстала задача упарадкавання публічных фінансаў і скарачэння дзяржаўнага доўгу. Дасягненне гэтых мэтаў абумоўленае трыма важнымі макраэканамічнымі акалічнасцямі.

Па-першае, калі эканоміка перажывае спад, суадносіны доўг/ВУП растуць самі па сабе, нават калі ўрад не пазычае болей грошай. Па-другое, рэалізацыя праграмаў па скарачэнні бюджэтных выдаткаў ускладняецца патрэбай выплаты сацыяльных датацыяў нарастаючай колькасці беспрацоўных. Патрэцяе, існуе небяспека трапіць у «смяротнае кола»: скарачэнне бюджэтных выдаткаў – падзенне попыту і інвестыцыяў – спад эканамічнай актыўнасці і бюджэтных даходаў – скарачэнне бюджэтных выдаткаў.

Паўстанне макраэканамічных дысбалансаў падчас выспявання бурбалкі на рынку нерухомасці паўплывала на пагаршэнне канкурэнтназдольнасці ірландскіх працоўных рэсурсаў і панізіла ўзровень бюджэтных паступленняў, звязаных з падаходным падаткам.

Але самай значнай паразай ірландскай фіскальнай палітыкі быў сістэматычны адыход ад стабільных і надзейных крыніц бюджэтнага фінансавання, такіх як падаходны падатак, падатак ад дадатковай вартасці, а таксама акцызы і пошліны, у бок падаткаў, залежных ад кан'юнктуры рынку. Даходы ірландскага бюджэту трапілі ў вялікую залежнасць ад падаходнага падатку карпарацыяў, дзяржаўных збораў і падатку ад прыросту капіталу: іх доля масе вырасла з 8% у 1987 годзе да 30% у 2006, а з наступленнем крызісу панізілася да 20% у 2008 годзе.

**Нэтта-доўг выбраных краінаў Еўразвязу (2013 г. - прагноз МВФ)**

**I. Дзяржаўны нэтта-доўг**




**II. Прыватны нэтта-доўг**



Акрамя таго, з 2007 году ў сувязі з дасягненнем высокіх даходаў на душу насельніцтва, Ірландыя згубіла магчымасць выкарыстання еўрапейскіх датацыяў і з'яўляецца нэтта-плацельшчыкам у агульную скарбонку Еўразвязу.

**У якасці падсумавання**

Дынамічнае развіццё інфраструктуры, прыязныя ўмовы для міжнароднага бізнесу і высокія пазіцыі ў сусветных рэйтынгах прыцягнулі да Ірландыі ўвагу інвестараў і policymaker'аў. Ірландыя ўспрымалася як салідная і надзейная для вядзення справаў краіна. У яе банках многія еўрапейцы трымалі грошы, у эканоміку інвеставаў грошы міжнародны бізнес. Між тым, гэтая дзяржава сталася ахвярай структурных і даўгавых дысбалансаў, можа, у большай ступені, чым Злучаныя Штаты Амерыкі.

Паміж такімі рознымі краінамі як Беларусь і Ірландыя можна правесці адну вельмі важную паралель. І ў «Краіне пад белымі крыламі», і на «Зялёнай выспе» кіруючыя эліты паддаліся спакусе ўтрымання сваёй улады цаной фальшывага дабрабыту з замежных крыніцаў.

Што праўда, у Ірландыі падвышаць дабрабыт выбаршчыкаў палітыкам ад 2003 году актыўна дапамагалі камерцыйныя банкі. З маўклівай згоды афіцыйнага Дубліна яны раздавалі танныя крэдытныя грошы «налева і направа» і дазволілі ірландскаму грамадству мець адны з самых вялікіх даўгоў у свеце. У сітуацыі масавага крэдытнага вар'яцтва менеджэры банкаў зараблялі цэлыя маёнткі: разам з ростам колькасці кліентаў і аб'ёмаў крэдытных актываў, раслі прыбыткі і капіталізацыя банкаў, а таму банкаўскія акцыянеры шчодра ўзнагароджвалі сваіх менеджэраў беспрэцэдэнтнымі прэміямі.

Ірландскія банкіры на пару з палітыкамі бесклапотна ігнаравалі крэдытныя рызыкі і стратэгічныя пагрозы, звязаныя з дамінантнай пазіцыяй замежнага капіталу. Гэта і прывяло кельцкі цуд да фіяска.

Нават высокія выдаткі Ірландыі на даследаванні і навуку, якія да гэтай пары адзначаліся як прыклад эфектыўнага выдаткоўвання еўрапейскіх датацыяў, як высветлілася, паслужылі добрую службу ў асноўным замежным кампаніям. Нават кампутарная індустрыя, якая да нядаўняга часу лічылася рухавіком сучаснай ірландскай прамысловасці, апынулася адным вялікім расчараваннем: кампаніі, якія мелі найбольш поспех у гэтай галіне, былі паглынутыя транснацыянальнымі гігантамі.

Становішча, у якім апынулася эканоміка Ірландыі выклікае вялікія сумневы адносна трываласці і надзейнасці эканамічнага росту, заснаванага на замежным капіталаўкладаннях, як спекулятыўных, так і інвестыцыйных.

А таму «думаючы пра Беларусь», беларускім policymakers'ам трэба мець на ўвазе, што занадта хуткае развіццё камерцыйных банкаў ва ўмовах слабага фінансавага нагляду і агрэсіўных інвестыцыйных практыкаў у спалучэнні з сталай стымуляцыяй попыту і высокай залежнасцю ад знешніх крэдытаў фінансавання ў перыяд мала-мальскага крызісу даверу заканчваецца неплацежаздольнасцю.

У выніку крызісу ліквіднасці спачатку лопаюцца іпатэчныя бурбалкі, якія выраслі падчас добрай спекулятыўнай кан'юнктуры, потым уцякаюць капіталы і банкрутуюць банкі, следам за імі руйнуецца рэпутацыя краіны і спрыяльны інвестыцыйны клімат. Крызіс распаўсюджваецца на ўсю рэальную эканоміку. Страты фінансавага сектару выліваюцца ў празмерную запазычанасць дзяржавы і падаткаплацельшчыкаў. І так па колу.

Падсумоўваючы, хацеў бы зазначыць, што перш чым праводзіць прыватызацыю дзяржаўных банкаў, будучыя ўлады Беларусі павінны распрацаваць дакладныя і дзейсныя механізмы нагляду і прудэнцыяльнага рэгулявання фінансавага сектару для таго, каб рызыкоўныя практыкі не сталіся крыніцай сістэмных рызыкаў для ўсёй эканомікі.

Па-другое, будучы беларускі ўрад не павінен дазваляць росту банкаўскага сектару да некантраляваных памераў, асабліва ў кантэксце абмежаваных бюджэтных магчымасцяў для выканання ролі крэдытора апошняй інстанцыі.

Па-трэцяе, беларускія ўлады павінны з вялікай асцярожнасцю ставіцца да прапановаў уступлення краіны ў валютныя уніі і не вітаць атрыманне грамадзянамі крэдытаў у замежных валютах.

Чацвёртае, фінансавы нагляд Беларусі павінен своечасова абмяжоўваць памкненні фірмаў, хатніх гаспадарак і банкаў да назапашвання празмерных пазыкаў.

Пятае, улады Беларусі па-вінны ўспрымаць замежныя капіталаўкладанні як кепскіх сяброў: пакуль ты на пад'ёме – яны з табой, калі аступіўся – застаешся адзін.

Мы з'яўляемся сведкамі найцікавейшых зменаў парытэту між палітыкай і эканомікай. Наступае пераварот класічнай формулы панавання і пераасэнсавання самаго панятку ўлады, калі інструментам прымусу ёсць не пагроза эканамічнай экспансіі, а хутчэй абыход тваёй краіны інвестарамі альбо раптоўны адток замежных інвестыцыяў.

Таму ва ўмовах глабальнай канкурэнцыі прамыя замежныя інвестыцыі павінны ўспрымацца беларускімі элітамі хутчэй як спекулятыўныя крэдыты, якія павінны выкарыстоўвацца для атрымання сучасных тэхналогіяў і развіцця ўласнага беларускага бізнесу. Міжнародны капітал разважае ў інтарэсах міжнароднага капіталу. Дбаць пра беларускі нацыянальны інтарэс могуць толькі беларускія ўлады і беларускі бізнес.

# Беларуская бізнес-дыяспара ў Расіі

## Сеткі былых жыхароў Беларусі за мяжой, расійскія інвестары, палітычная прысутнасць РФ у Беларусі

**Паўлюк Быкоўскі**

журналіст

**Колькасць беларускай дыяспары, па меркаванні экспертаў, вагаецца ад 2 да 3,5 млн. чалавек. Розныя ацэнкі беларусаў, якія жывуць у 73 краінах свету, тлумачацца «цяжкасцямі падліку». Трэба ўлічваць і той факт, што ў апошнія гады на сталае месца жыхарства за межамі радзімы выязджаюць што год не менш за 10 тыс. беларусаў.**

Плынь беларускіх грамадзян, якія выязджаюць за мяжу на заробкі без рэгістрацыі сваёй занятасці падзяляецца наступным чынам: 83,8% едуць у Расію, а астатнія 16,2% шукаюць працу ў краінах Балтыі, Польшчы, Чэхіі, Германіі і г. п. .

Па дадзеных Федэральнай міграцыйнай службы РФ, у гэтай краіне часова працуюць 70 тыс. грамадзян Беларусі. Але старшыня Рады Міжнароднага грамадскага аб'яднання «Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» Алена Макоўская агучвае іншыя лічбы: узровень нелегальнай міграцыі толькі ў адну Маскву складае каля 300 тыс. беларусаў .

Найбольш вялікай з беларускіх дыяспараў з'яўляецца расійская. Этнічныя беларусы, якія жывуць у РФ, па колькасці займаюць дзевятае месца сярод 160 нацыянальнасцяў Расіі. Па перапісу насельніцтва 2002 г., там пражываюць 814,7 тыс. беларусаў (2,9 % ад усяго насельніцтва РФ). Аднак сёння рэальна, па розных ацэнках, беларуская дыяспара ў Расіі складае каля 2 млн. чалавек . Найбольш кампактна нашы суайчыннікі пражываюць у Маскве, Санкт-Пецярбургу, Карэліі, Краснадарскім краі, Калінінградская вобласці і іншых рэгіёнах . Толькі па афіцыйных звестках, каля 60 тыс. этнічных беларусаў стала жывуць у Маскве.

Трэба адзначыць, што беларуская дыяспара у Расіі расколатая на прыхільнікаў і праціўнікаў Аляксандра Лукашэнкі, пры гэтым больш арганізацыяў, лаяльных беларускім уладам.

Беларуская дыяспара ў Маскве падзеленая на чатыры арганізацыі. Адна з найбольш буйных з іх – Нацыянальна-культурная аўтаномія «Беларусы Масквы» . Па словах яе лідэра Сяргея Кандыбовіча, большасць сябраў аўтаноміі прынялі ўжо расійскае грамадзянства, таму яны не галасуюць на беларускіх выбарах і асабліва не выказваюцца на палітычныя тэмы.

«Адно з дасягненняў нашай арганізацыі заключаецца ў тым, што мы намагаемся вытрымліваць наш фармат, застаючыся па-за палітыкай», – кажа Кандыбовіч. І дадае, што ў склад актыву ўваходзілі прадстаўнікі амаль усіх расійскіх палітычных партыяў, але «ніколі пляцоўку нацыянальна-культурнай аўтаноміі яны не выкарыстоўвалі для вырашэння палітычных пытанняў».

Некаторыя беларусы дасягнулі поспеху ў Маскве. Прыкладам можа быць віцэ-прэзідэнт банкаўскай групы «Смаленскі банк» Алег Кандыба. У прыватнасці, менавіта ён 19 красавіка 1998 г. , калі быў кіруючым справамі беларускага пасольства ў Расіі, заснаваў «Маскоўскі клуб беларусаў» , аб'яднаўшы найбольш

паспяховых і багатых беларусаў, якія аселі ў сталіцы РФ яшчэ за савецкім часам. Спіс сябраў клуба не апублікаваны да гэтага часу, але ёсць інфармацыя, што ў складзе клуба – сем расійскіх мільярдэраў . Пры гэтым ніхто з іх не трапіў у спіс багатых людзей расійскага Forbes, ці журналісты не падазраюць пра іх нацыянальнасць.

### Уздзеянне беларускай дыяспары на палітыку ў Беларусі

Некаторыя палітолагі сцвярджаюць, што так званыя «прарасійскія» кандыдаты ў прэзідэнты Беларусі 2010 года (Уладзімір Някляеў і Андрэй Саннікаў) атрымалі дапамогу менавіта ад «Маскоўскага клуба», але Алег Кандыба наўпрост абвяргае гэтую інфармацыю . У падтрымку ягоных словаў кажа і тое, што клуб яўна створаны пры падтрымцы беларускай амбасады.

Былы міністр сельскай гаспадаркі Беларусі Васіль Лявонаў у 2001 г. выкарыстаў свае кантакты ў Расіі для фінансавай падтрымкі адзінага кандыдата ў прэзідэнты ад дэмакратычных сілаў Уладзіміра Ганчарыка, потым у 2006 г. удзельнічаў у стварэнні ініцыятывы «Зямля і воля», якая павінна была стаць адной з галоўных апораў кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Казуліна. У 2010 г. экс-міністр аказваў падтрымку Уладзіміру Някляеву, але яго ўжо не разглядалі ў гэтай кампаніі як заўважальнага фінансавага донара.

Зараз Лявонаў – старшыня апякунскай рады зарэгістраванага ў Расіі рэгіянальнага грамадскага аб'яднання Фонд садзейнічання развіццю дзелавых і культурных сувязяў «За новую Беларусь». Практычная дзейнасць гэтага фонду была заўважальная толькі ў 2001 годзе.

Уладзімір Някляеў двухсэнсоўна выказваўся пра фінансавую падтрымку сваёй кампаніі «Гавары праўду» з Расіі – афіцыйна заяўляў пра дапамогу з боку беларускай дыяспары, адначасна намякаючы на падтрымку ад Крамля. Адказнасць за фінансаванне Някляева не ўзяў на сабе ніхто.

У інтэрв'ю газеце «Народная воля» Лявонаў растлумачыў пра сваё бачанне расійскіх грошаў у беларускай палітыцы:

«Калі Расія будзе рабіць стаўкі, то зробіць гэта так, што камар носа не падточыць. Ніхто і ніколі не скажа ўслых, што гэта стаўка прэм'ера ці расійскага прэзідэнта. Грошы, атрыманыя ад РФ, могуць сысці на Кіпр, вярнуцца праз Польшчу, і ніхто канцоў не знойдзе.

– Значыць вы не адмаўляеце, што нехта з кандыдатаў можа працаваць на расійскім рэсурсе?

– Гэтага нельга адмаўляць. Я бы, напрыклад, не стаў бы працаваць на заходнім рэсурсе і калі б працаваў, то толькі на расійскім» .

Але пры гэтым, беларускія ўлады не дапускаюць стварэння ў краіне прарасійскай апазіцыі і асабліва раўніва ставяцца да праектаў, якія б маглі абапірацца на грошы Крамля (напрыклад, асуджэнне Міхаіла Марыніча пасля спробы адчыніць у Брэсце інфацэнтр партыі «Адзіная Расія» у 2004 годзе).

### Пранікненне бізнесу

Шмат хто з буйных беларускіх бізнесменаў і некаторых чыноўнікаў з'ехаў з Беларусі. Нехта знаходзіцца ў чыста эканамічнай эміграцыі, нехта па палітычных меркаваннях, а некаторыя з тых, каго праследуюць праваахоўныя органы і крымінальныя групоўкі – для захавання асабістай бяспекі .

Тыя, хто заняўся бізнесам пасля адстаўкі з высокіх дзяржаўных пастоў (экс-міністр унутраных спраў Уладзімір Навумаў, экс-кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Урал Латыпаў, былы намеснік прэм'ер-міністра Беларусі Леанід Сініцын, былы кіраўнік справамі прэзідэнта Іван Ціцянкоў, былы прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір) зрабілі гэта ў Расіі.

Іншыя, якія займаліся бізнесам яшчэ ў Беларусі, але трапілі ў апалу пры рэжыме Аляксандра Лукашэнкі, як правіла абралі ў якасці месца жыхарства Германію, Украіну ці Польшчу (Аляксандр Пупейка, Валеры Кругавы, Уладзімір Кудзінаў, Наталля Шаўко-Судлянкова )

Што тычыцца расійскага бізнесу, то ў спісе актыўных гульцоў на беларускім рынку – больш за сотню персонаў. Беларускіх бізнесоўцаў у Расіі – каля 30 і прыкладна столькі ж буйных расійскіх прадпрымальнікаў, якія з'яўляюцца этнічнымі беларусамі ці паходзяць з Беларусі.

### Беларуская бізнес-дыяспара ў Расіі Беларусы, якія маюць бізнес-сувязі ў Расіі

**Міхаіл Абызаў**, уладальнік інжынірангавага холдзінгу «Група Е4».

**Віталій Арбузаў**, старшыня рады дырэктараў FENOX Automotive Components Gmbh.

**Уладзімір Басалай**, прэзідэнт кампаніі «Басалай-прадукт», віцэ-прэзідэнт «Маскоўскага клуба беларусаў».

**Аляксей Ваганаў**, генэральны дырэктар СП ЗАТ «Лада ОМС Холдзінг», старшыня рады акцыянераў СП ЗАТ «Юнісон».

**Віктар Буката**, быў старшынём праўлення і асноўным акцыянерам ААТ «Мосбізнесбанк» (адазваная ліцэнзія), старшынём ААТ «Знешагрconsidered» (адазваная ліцэнзія) асуджаны за фінансавыя злачынствы

**Уладзімір Васілёнак**, саўладальнік ГК Dream Makers.

**Сяргей Дзяркач**, дырэктар ААТ «Тэлеком-сэрвіс» (Краснадар).

**Сяргей Гвардзейцаў,** генеральны дырэктар ЗАТ «Інтранзішэн» (Itransition).

**Аляксандр Яўневіч,** суўладальнік «Орымі Трэйд» і «Максідома».

**Вадзім Грынкевіч**, саўладальнік «Армтэк»

**Аляксандр Зарыбка,** член рады дырэктараў ААТ «Вікторыя група кампаній » і уладальнік »Алмі»А р - кадзь Добкін, прэзідэнт і старшыня рады дырэктараў EPAM Systems

**Алег Кандыба**, віцэ-прэзідэнт банкаўская групы «Смаленскі банк», прэзідэнт «Маскоўскага клуба беларусаў», быў кіраўніком справамі амбасады Рэспублікі Беларусь у Расіі.

**Валеры Жэлязоўскі**, член рады дырэктараў ТАА «Кіруючая кампанія «Керамір».

**Робертас Клангаўскас**, генеральны дырэктар кампаніі «Нафтабуральянс».

**Галіна Жураўкова,** былы кіраўнік справамі прэзідэнта Беларусі.

**Валеры Кокараў**, былы намеснік прэм'ер-міністра Беларусі (1994 – 2001 гг.).

**Аляксандр Зарыбка,** член рады дырэктараў ААТ «Вікторыя група кампаній » і уладальнік «Алмі».

**Сяргей Караткевіч,** старшыня эліт-клуба «Ніколіна гара».

**Уладзімір Здобнаў,** генераль-

ны дырэктар «Юнівест-М», якая займаецца перапрацоўкай нафты ў Беларусі і інвестыцыямі ў будаўніцтва.

**Сяргей Кукура,** першы віцэ-прэзідэнт «Лукойла» Артур Зубарык, саўладальнік ЗАТ «Юкола», дырэктар ЗТАА «Сыравінныя рэсурсы – Бел».

**Аляксандр Кусовіч,** генеральны дырэктар кампаніі «Тэле-транс».

**Сяргей Касцючэнка,** старшыня праўлення ААТ «Прыорбанк» (50% акцый належаць Raiffeisen Bank International AG (RBI)).

**Урал Латыпаў,** дырэктар маскоўскага дэвелаперска-будаўнічага холдзінгу – кампаніі «Дырэкт Мэнэджмент», былы глава Адміністрацыі прэзідэнта РБ.

**Ігар Крэпчук**, экс-дырэктар беларуска-кіпрскага СП «Эмір Мотарс» («Тайота Цэнтр Мінск»).

**Анатоль Лашкевіч**, генеральны дырэктар ААТ «Крыагенмаш» Р а - шад Курбанаў, старшыня праўлення ЗАТ «Белруснафтагаз» , старшыня праўлення ТАА «Азнафтагазбуд» (Азербайджан), генеральны дырэктар ЗАТ «Промінвестбуд» (Расія), член рады дырэктароў ААТ РАТ «Роснафтагазбуд» (РФ).

**Васіль Лявонаў**, былы міністр сельскай гаспадаркі Беларусі.

**Сяргей Ляўцеяў,** гендырэктар СП ЗАТ «Міжнародны дзелавы альянс».

**Віктар Лагвінец**, глава беларускага ЗАТ «Конта-груп» (у 1999 г. нацыяналізаваная).

**Бірэнда Махата,** член рады дырэктараў ААТ «Амкадор».

**Анатоль Мядзведзеў**, генеральны дырэктар кампаніі «Мерабел».

**Леанід Мядзведзь,** галоўны акцыянер і старшыня рады дырэктараў «Смаленскі акцыянерны камерцыйны банк» (СКА-Банк).

**Анатоль Мілюкоў**, вицэ-прэзідэнт Асацыяцыі расійскіх банкаў.

**Аляксандр Машэнскі**, генеральны дырэктар СП ТАА «Санта-Імпекс Брэст».

**Аляксандр Міляўскі**, былы дырэктар ААТ «Маскоўскі тэлевізійны завод «Рубін».

**Уладзімір Пефтыеў**, заснавальнік ПУП «БТ Тэлекамунікацыі», былы старшыня агульнага сходу акцыянераў ЗАТ «Белтэхэкспарт»

**Уладзімір Муляк**, віцэ-прэзідэнт «Лукойла».

**Сяргей Савіцкі,** саў-ладальнік холдзінга «Атлант-М»

**Уладзімір Навумаў**, памочнік главы дзяржкарпарацыі «Ростэхналогіі», экс-міністр унутраных спраў Беларусі.

**Аляксандр Садавы**, намеснік старшыні агульнага сходу акцыянераў ЗАТ «Белтэхэкспарт».

**Анастасія Асіціс**, прэзідэнт групы кампаній «АСВТ».

**Леанід Сініцын**, глава Адміністрацыі прэзідэнта Беларусі (1994–1995), віцэ-прэм'ер (1995-1996), пасля адстаўкі працаваў наместнікам генеральнага дырэктара ў Федэральнай фінасава-прамысловай групе Кіравання справамі прэзідэнта РФ.

**Ігар Пінкеровіч**, генеральны дырэктар ТАА «Зернавая кампанія «Насцюша».

**Анатоль Цернаўскі,** генеральны прадстаўнік «Юнівест» па краінах СНД, старшыня рады дырэктараў ТАА «МКД Груп» (Расія), член рады дырэктараў ААТ «Гранд Інвест банк» (Расія).

**Анатоль Сілівончык**, генеральны дырэктар ЗАТ «Сібдорсэрвіс».

**Уладзіслаў Туркін**, генеральны дырэктар СТАА «Мінск-Лада», старшыня сходу ўдзельнікаў і генеральны дырэктар СП ТАА «Аўтасалон AV»

**Дзмітры Сюбараў**, генеральны дырэктар кампаніі «Алкарос».

**Васіль Хрол,** намеснік дзяржсакратара Саюзнай дзяржавы, былы прэзідэнт Беларускай асацыяцыі «Нерухомасць».

**Іван Ціцянкоў**, былы кіраўнік справамі прэзідэнта Беларусі (1994 – 1999 гг.), зараз узначальвае адзін з дэпартаментаў міжнароднай групы кампаній «ІТЭРА».

**Алег Хусаенаў**, генеральны дырэктар, член рады дырэктараў ТАА «Міжнародны аўтамабільны холдынг «Атлант-М», старшыня назіральнай рады ЗАТ «Мінскі транзітны банк».

**Барыс Хаіт**, саўладальнік страхавой групы «Спаскія вароты».

**Юры Чыж**, генеральны дырэктар ААТ «Трайпл», старшыня назіральнай рады ЗАТ »ФК «Дынама-Мінск».

**Анатоль Чубайс**, генеральны дырэктар дзяржаўнай карпарацыі «Расійская карпарацыя нанатэхналогій».

**Аляксандр Шакуцін**, старшыня рады дырэктараў ААТ «Амкадор», намеснік генеральнага дырэктара ЗАТ «Проммедінвест».

**Леанід Юхневіч**, былы генеральны дырэктар ФДУП «НДІ «Усход».

**Валер Шаўцоў**, член назіральнай рады ЗАТ «Трастбанк», член праўлення ЗАТ «Белзамежбуд»

**Анатоль Шэнтак**

**Яўген Шыгалаў**, былы старшыня рады дырэктараў ТАА «Гандлёвы дом «Ждановічы».

**Валер Шумскі**, саўладальнік ЗАТ «Юкола».

**Уладзімір Япрынцаў**, намеснік генеральнага дырэктара ТАА «Трайпл».

## Высновы

З усіх беларускіх дыяспараў самая масавая знаходзіцца ў Расіі, аднак яе ўдзел у палітычных працэсах Беларусі – нязначны. Гэтая дыяспара расколатая на прыхільнікаў і праціўнікаў Аляксандра Лукашэнкі, пры гэтым колькасна больш арганізацыяў, лаяльных беларускім уладам.

У Беларусі няма масавых прарасійскіх арганізацыяў, у тым ліку апазіцыйных.

Інструментам палітычнага ўплыву Расіі на Беларусь, як правіла, з'яўляюцца расійскія СМІ. Акрамя таго, Крэмль перыядычна выкарыстоўвае змены ўмоваў паставак энерганосьбітаў у Беларусь і змяняе правілы для работы беларускіх прадпрыемстваў на расійскім рынку.

Расійскія інвестары ў Беларусі перавышаюць колькасць беларускіх бізнесменаў, якія працуюць на расійскім рынку. Бізнес РФ цесна ўзаемазвязаны з гаспадарчымі адносінамі з прадстаўнікамі беларускага кіруючага рэжыму, але адсутнічаюць дакладныя дадзеныя пра паспяховае лабіраванне імі палітычных пытанняў і спробаў гуляць у Беларусі палітычную ролю.

# Новы падзел

## Ці патрэбная адміністратыўная рэформа Беларусі?

**Сяргей Валяваты**

Нарадзіўся ў 1970 годзе на Бабруйшчыне.

1994 годзе скончыў Магілеўскі Дзяржаўны педінстытут.

1996-99гг. працаваў памочнікам дэпутата Вярхоўнага Савета РБ.

2004-2007гг. узначальваў Бабруйскі камбінат жалезабетонных вырабаў.

2007-2008гг намеснік старшыні Бабруйскага гарвыканкама.

У 2008 годзе праваахоўнымі органамі быў абвінавачаны ў злоўжыванні службовымі паўнамоцтвамі.

Не даяраючы пракуратуры, што справа можа быць разгледжана аб'ектыўна, з'ехаў за межы Беларусі.

Пражывае ў Чэхіі.

**Апошнім часам у розных колах беларускай інтэлігенцыі не раз уздымалася пытанне адміністрацыйна-тэрытарыяльнай рэформы Беларусі. Гэтая тэма даволі актыўна абмяркоўвалася на інтэрнэт-рэсурсе bramaby.com, дзе былі разгледжаны некалькі варыянтаў новага ўладкавання краіны з мэтай павышэння эфектыўнасці работы рэгіёнаў, павялічэння іх самастойнасці і самакіравання.**

### Што штурхае да разгляду гэтага пытання?

Гледзячы на адміністрацыйную мапу Беларусі, нельга не заўважыць, што сучасныя тэрытарыяльныя адзінкі (вобласці) па плошчы роўныя многім еўрапейскім краінам:

Мінская вобл. – 40 200 кв.км.
Віцебская вобл. – 40 100 кв.км.
Гомельская вобл. – 40 400 кв.км.
Брэсцкая вобл. – 32 800 кв.км.

---

Данія – 43 100 кв.км.
Нідэрланды – 41 500 кв.км.
Швэйцарыя – 41 300 кв.км.
Бельгія – 32 500 кв.км.

Гэтакі адміністрацыйны падзел Беларусі быў устаноўлены ў савецкія часы, і плошчы абласцей адпавядалі памерам у суседніх Украіне і еўрапейскай частцы Расіі (акрамя поўначы). Іншае дзяленне ў вялікай па плошчы краіне магло быць малаэфектыўным і таму сябе апраўдвала.

Аднак пасля набыцця Беларуссю незалежнасці старая, савецкая мадэль адміністрацыйнага падзелу захавалася ў нязменным выглядзе. Наколькі гэта адпавядае сучасным патрабаванням сярэдняй па памерах еўрапейскай дзяржавы? Ці зручна гэта для нас?



### Асаблівасці сённяшняга рэгіянальнага дзялення

Сучасныя беларускія рэгіёны – даволі буйныя па памерах, больш таго, чатыры з шасці абласных цэнтраў ляжаць на перыферыі сваіх тэрытарыяльных утварэнняў. Адлегласці паміж імі і некаторымі райцэнтрамі вымяраюцца сотнямі кіламетраў.

Дзяржслужачыя абласнога і раённага ўзроўню пры выкананні абавязкаў вымушаны «накручваць» тысячы кіламетраў у камандзіроўках. Марнуецца працоўны час, вялікія сродкі з бюджэту.

Акрамя чыноўнікаў такія ж нязручнасці церпяць і грамадзяне, праўда, ужо за свой кошт. Некаторыя праблемы рэгіёнаў гадамі застаюцца па-за ўвагай праз тое, што кіраўніцтва вобласці своечасова не можа наведаць той ці іншы раён, а мясцовая адміністрацыя не мае паўнамоцтваў на вырашэнне пытання.

Адмоўную эфектыўнасць ад такой сістэмы мы назіраем у выглядзе стагнацыі і дэпрэсіі ў шматлікіх райцэнтрах па ўсей Беларусі. Праз унутраную міграцыю мы губляем збалансаваную шчыльнасць насельніцтва па ўсей тэрыторыі. Напрыклад, у цэнтральнай частцы краіны можна назіраць вялікія па плошчы раёны, з невялікай колькасцю насельніцтва.

Нажаль, гэта рэчаіснасць нашага часу.

### Як усе гэта ўпарадкаваць?

Неабходны комплекс мер па нармалізацыі развіцця рэгёнаў, які будзе ўключаць у сябе рэформы мясцовага самакіравання, падатковую рэформу, выбарчую і г. п.

Але першы і найважнейшы крок – гэта рэформа адміністрацыйна-тэрытарыяльнага дзялення Беларусі. З яе трэба пачынаць і ад яе адштурхоўвацца.

Адміністрацыйныя тэрыторыі павінны стаць больш кампактнымі і зручнымі для тых, хто там жыве і працуе. Сам сабой напрошваецца вывад аб неабходнасці змяншэння сучасных абласцей і ўтварэнні новых адміністрацыйных адзінак вакол найбольш буйных прамысловых цэнтраў: Бабруйска, Баранавічаў, Барысава, Воршы, Мазыра, Пінска, Полацка, Ліды, Маладзечна, Салігорска.

Падвышэнне статусу новым рэгіянальным цэнтрам дазволіла б па-новаму ўдыхнуць жыццё ў гэтыя гарады і тэрыторыі, праз новыя дзяржпраграммы рэгіянальнага развіцця спыніць адток насельніцтва. Больш за тое, паспрабаваць з перанаселенага Мінска адцягнуць частку працоўных рэсурсаў, выносячы некаторыя прадпрыемствы і ўстановы ў новыя рэгіянальныя цэнтры.

Асобным пунктам рэформы з'яўляецца вяртанне тэрытарыяльным адзінкам гістарычных назваў: ваяводства, павет, воласць.

Пытанне адміністрацыйнай рэформы распрацоўвалася ва ўрадавых колах Беларусі ў савецкія часы і пасля набыцця суверэнітэту. Нажаль, гэтыя ідэі так і засталіся на паперах.

Сучасныя эканамічныя праблемы патрабуюць пошуку новых ідэй, якія б дазволілі ўскалыхнуць дэпрэсіўнае становішча ў грамадстве і эканоміцы. Адміністрацыйна-тэрытарыяльная рэформа, канешне, – не панацэя ад крызісу, але яна як лакаматыў магла б пацягнуць за сабой шэраг супольных праектаў, якія разам далі б станоўчы вынік.

# Ідэйна-палітычныя падставы рэстытуцыі

**Алесь Стральцоў-Карвацкі**

намеснік старшыні Партыі БНФ, маршалак аргкамітэту па стварэнні Манархічнай Лігі Вялікага княства Літоўскага

**У дакладным перакладзе з лаціны рэстытуцыя азначае «аднаўленне», «вяртанне». У палітычным значэнні гэты тэрмін становіцца больш дакладным і значыць вяртанне незаконна адабранага маёнтку.**

**Паколькі ў постсавецкіх краінах нацыяналізацыя і калектывізацыя давялі да пераводу гэтага маёмасці ў дзяржаўную ўласнасць, то для нас рэстытуцыя азначае яшчэ і аднамомантную прыватызацыю.**

### Навошта мусіць быць праведзена рэстытуцыя?

Ёсць некалькі аспектаў праблемы. На нашу думку, найважнейшым ёсць маральна-ідэалагічны аспект: мусіць быць адноўлена справядлівасць пасля масавага гвалту. Адзін з падставовых матываў тое, што гвалт гэты калісьці быў татальны, прывёў да абсалютна разбуральных наступстваў у грамадстве, пасля якіх цяжка казаць увогуле аб працягу існавання гэтага грамадства.

Амаль усе палітычныя, грамадскія і эканамічныя праблемы сённяшняга беларускага грамадства вынікаюць з факту амаль 100% нацыяналізацыі маёмасці.

Чаму грамадства пасіўнае і не стварае групаў інтарэсаў? Таму што асобы, што складаюць грамадства нічога ня маюць, адпаведна ў іх няма ніякіх інтарэсаў. Чаму нязразвіты грамадскі сектар і няма магутных інстытуцыяў дабрачыннасці? Таму што няма самастойнага, незалежнага бізнесу, які мог утварыцца толькі на базе прыватнай уласнасці на зямлю.

Чаму не існуе масавых палітычных партый і груп? Таму што няма няма грамадзян, аб'яднаных у групы інтарэсаў. Чаму мы назіраем стабільны дэмаграфічны спад? Праз падзенне маральнасці і распаду сям'і, але адным з істотных чыннікаў стабільнасці інстытуту сям'і ёсць прыватная ўласнасць. Калі яна немалая, дае сродкі на ўтрыманне сям'і, тады і колькасць разводаў – меншая.

Кола замкнулася. Не існуе ніякага рэсурсу для пазітыўнага развіцця грамадства ва ўмовах масавага адзяржаўлення і калектывізацыі.

Рэстытуцыя ёсць адным з мажлівых і, што важна, адным з найбольш справядлівых выхадаў з сітуацыі. Іншым такім выхадам можа быць прыватызацыя, але і яна, як мы ведаем, можа пакутаваць на злоўжыванні. Зрэшты абодва варыянты не пярэчаць адзін аднаму і мусяць ужывацца ў комплексе.

### Каму вяртаем?

Ёсць некалькі аргументаў, якія выказваюць праціўнікі рэстытуцыі, на якія неабходна адказаць. Першы з іх такі, што уласнасцю (у апошні перыяд існавання інстытуту прыватнай маёмасці), валодалі асобы пераважна «небеларускай» нацыянальнасці. Беларусы, маўляў, былі незаможныя.

На гэта можна адказаць пытаннем, а што мы разумеем пад «беларускай нацыянальнасцю» сёння? Ці факт запісу ў пасведчанні аб нараджэнні ёсць дастатковым, каб сведчыць аб свядомай і лаяльнай пазіцыі асобы? Падаецца, што не.

Былыя ўласнікі пераважна былі, паводле сваёй свядомасці палякамі альбо габрэямі. Немалая частка маёмасці належала таксама каталіцкаму касцёлу. Але, неабходна заўважыць, што ў той час панавала іншая ад сённяшняй кан-

цэпцыя нацыі, калі ў яе залучаліся ўсе традыцыйна пражываючыя на тэрыторыі краю этнічныя і сацыяльныя групы. Усе гэтыя групы: літоўскія палякі, беларускія габрэі і каталіцкае духавенства былі неад'емнымі часткамі нацыі былога Вялікага Княства Літоўскага, інакш кажучы – вялікалітоўскай нацыі.

Да таго ж, не трэба забывацца, што вялікая частка дробназямельнай уласнасці на тэрыторыі заходняй Беларусі належала таксама і тым, хто называў сябе беларусамі.

Вядома, сёння трэба прадугледзіць праўныя спосабы замацавання гэтай лаяльнасці, напрыклад, праз прынясце грамадзянства Рэспублікі Беларусь – механізм, які, зрэшты, распаўсюджаны і ў іншых краінах.

### Што вяртаем

Другім аргументам супраць рэстытуцыі звычайна з'яўляецца тое, што зараз на тэрыторыі, ахопленай рэстытуцыяй, знаходзяцца іншыя важныя аб'екты: заводы, установы, вайсковыя аб'екты і г. д., і адпаведна рэстытуцыя ўнясе вялікі хаос і спыніць працу гэтых важных аб'ектаў.

Логіка праціўнікаў рэстытуцыі з'яўляецца па сутнасці посткамуністычнай. Калі на двары быў 1917 год, чамусьці нікога не хвалявала парушэнне адвечнага права, унясенне хаосу, развязанне грамадзянскай вайны, а цяпер, калі прапануецца толькі ўнясенне адпаведнага закону, уздымаецца крык: «Вы ж спыніце працу нашых прадпрыемстваў!» Ніхто працу прадпрыемстваў спыняць не збіраецца, пры ўмове, што яны працуюць эфектыўна.

Рэстытуцыя прадугледжвае таксама вяртанне маёмасці ў форме кампенсацыі ў пэўным выглядзе, калі немажліва вярнуць маёмасць у натуральным выглядзе. Правілам ёсць, што кожная заяўка разглядаецца індывідуальна, таму парадак выкарыстання зямлі і аб'ектаў, што на ёй знаходзяцца, будзе змяняцца толькі на праўных падставах, у адпаведнасці з заканадаўствам.

### Як вяртаем

Трэцім, кароным, аргументам супраць рэстытуцыі звычайна ёсць аргумент эканамічны: рэстытуцыя – неэфэктыўная, бо ўласнасць, іначай кажучы, актывы трапяць да людзей, якія не маюць прадпрымальных схільнасцяў, не будуць здольныя распарадзіцца гэтай маёмасцю найлепшым чынам. Маўляў, лепшы спосаб – гэта прыватызацыя пад канкрэтнага інвестара.

З пункту гледжання эканамічнай тэорыі, пры дэнацыяналізацыі не мае значэння сутнасць суб'екта. Чалавек дзейнічае з матывацыяй максімальнага задавальнення ўласных патрэбаў, згодна са сваімі ўяўленнямі. Адпаведна з гэтым правілам, вельмі хутка пасля рэстытуцыі, маёмасць большасці законных уласнікаў знойдзе сабе новага ўласніка ці адміністратара, паколькі для большасці тытульных уласнікаў кіраванне ўласнай, але далёкай ад месца актуальнага пражывання маёмасцю будзе моцна абцяжарваць.

Распрацаваныя формы арэнды, лізінгу і іпатэкі дазволяць эфектыўна скарыстаць працэс рэстытуцыі ў эканамічным сэнсе, бо трэба памятаць, што рэстытуцыя ў нашых умовах – гэта ўвядзенне ў рэальны эканамічны абарот аднаго з асноўных фактараў вытворчасці – зямлі.

### Адпраўны момант для рэстытуцыі

Зыходнымі часовымі кропкамі, паводле якіх будзе рэалізавана рэстытуцыя, на нашу думку, павінны быць: для ўсходняй Беларусі – стан на люты 1917 г. – дзень выравчэння ад трону цара Мікалая ІІ.

Чаму гэты дзень? Пры ўсіх хібах Расійскай Імперыі, усё ж належыць прызнаць, што агульна права прыватнай уласнасці ў ёй шанавалася.

Выключэнню падлягае толькі маёмасць, адабраная пасля паўстанняў XIX ст. і ў працэсе так званай «ліквідацыі уніі», што, безумоўна, было палітычна матываваным. Таму павінны вяртацца маёнткі ўдзельнікаў паўстанняў, а таксама маёнтак Каталіцкага касцёла паводле стану да 1830 г.

На тэрыторыі заходняй Беларусі – стан на 01.09.1939. Мы прызнаем права на тэрыторыі ІІ Рэчы Паспалітай, якое на нашу думку захоўвала агульны прававы парадак, за некаторымі выключэннямі было справядлівым.

# Замежная палітыка Літвы пасля 2004 г. скрозь прызму Wikileaks

**Андрэй Елісееў**

магістр палітычных навук (ЕГУ, Літва),
магістр еўрапейскага і міжнароднага права (Рыжская вышэйшая школа права, Латвія),
журналіст.

**Сакрэтная дыпламатычная перапіска амерыканскіх дыпламатаў, публікацыя якой на сайце Wikileaks пачалася ў 2010 годзе, – унікальны збор дакументаў. У паведамленнях у Дзяржаўны дэпартамент амерыканскія дыпламаты аналізуюць і ацэньваюць не толькі свае стасункі з адпаведнай краінай, але цэлы комплекс знешне- і ўнутрыпалітычных падзеяў, сацыяльную і эканамічную сітуацыю ды іншыя сферы функцыянавання краіны.**

**Дыпламатычная перапіска дазволіла «знутры» паглядзець на замежную палітыку краін і прадставіла грамадскасці нямала цікавых фактаў. Пасля публікацый Wikileaks ЗША вымушана пайшлі на ракіроўку дыпламатычных кадраў, бо некаторыя апублікаваныя тэлеграмы змяшчалі далікатныя, а то і абразлівыя каментары.**

Кітай, Расія, Турцыя, нават шэраг заходнееўрапейскіх краін публічна выразілі сваё незадавальненне пэўнымі рассакрэчанымі цытатамі амерыканскіх дыпламатаў. Нарэшце, некаторыя аўтарытарныя ўрады скарысталі адкрыцці Wikileaks у сваіх палітычных мэтах. Напрыклад, на падставе каментарыяў з сакрэтных тэлеграм зімбабвійскага апазіцыйнага лідара Моргана Цвангірая спрабавалі звінавацiць у дзяржаўнай здрадзе.

У артыкуле разгледжана замежная палітыка Літвы скрозь прызму апублікаваных Wikileaks дакументаў. Ён не ставіць мэтай прадставіць комплексны аналіз пытання па падставе дыпламатычных тэлеграмаў, ні сістэматызаваць сотні дакументаў па Літве. Артыкул звяртае ўвагу на некаторыя моманты назіранняў і аналізу амерыканскіх дыпламатаў, што падаюцца найбольш цікавымі і прадстаўляюць праблемы літоўскай замежнай палітыкі.

### Прыярытэты замежнай палітыкі Літвы пасля 2004 г.

Літоўскі знешнепалітычны канцэпт у 1994 г. быў параўнальна просты, з прыярытэтамі на інтэграцыю ў Еўрасаюз і НАТА. Іншымі словам, метафарычна названы «вяртаннем да Еўропы» замежнапалітычны курс быў стратэгічна скіраваны на задзіночанне Літвы з дэмакратычным светам, у супольную заходнюю вайсковую, палітычную, эканамічную і культурную прастору.

У 2004 годзе, з далучэннем да ЕС і НАТА, паўстала неабходнасць фармулёўкі новых замежнапалітычных прыярытэтаў. Як трапна адзначыў літоўскі эксперт у сферы міжнародных адносін Лаўрынас Ёнавічус, з гэтай часу «галоўным аб'ектам дыскусій стала размеркаванне і ўжыванне фондаў ЕС і ўмоваў пражывання жаўнераў НАТА ў Шаўляі. Іншымі словамі, былыя прыярытэты замежнай палітыкі сталі часткай парадку дня палітыкі ўнутранай»

Яшчэ адзін знешнепалітычны прыярытэт – добрасуседскія адносіны – не быў такі паспяховы. Да 2004 г. Літва развіла плённыя стратэгічныя адносіны з Польшчай, але адносіны з краінамі Ўсходне-Балтыцкага субрэгіёну – Латвіяй ды Эстоніяй – перыядычна зацямняліся непаразуменнямі. Стасункі з Расіяй засталіся вельмі нацягнутымі, тое самае датычылася і Беларусі.

У траўні 2004 літоўскі парламент

прыняў рэзалюцыю пра абрысы замежнай палітыкі пасля дасягнення паўнапраўнага сяброўства ў НАТА і ЕС. У дакуменце зьмяшчаюцца ажно 22 замежнапалітычныя пункты, прычым без указання прыярытэтнасці. У знешняй па-літыцы нават існаванне двух прыярытэтаў можа стаць прычынай праблемаў, а ў двух дзесятках прыярытэтаў замежнапалітычны стрыжань дакладна рызыкаваў згубіцца.

Трохі пазней, 24 траўня 2004 г. тады дзейны прэзідэнт Артурас Паўлаўскас выступіў у Віленскім універсітэце з прамовай «Новая літоўская знешняя палітыка». Дзесяць прыярытэтаў знешняй палітыкі Літвы, акрэсленыя Паўлаўскасам, можна выразіць наступным чынам:

1) поўная інтэграцыя ў еўрапейскія арганізацыі;

2) узмацненне супрацоўніцтва ў еўраатлантычным альянсе, стасункаў ЕС і НАТО;

3) актыўны ўдзел у супрацоўніцтве ЕС і Расіі, з памкненнем развіваць палітыку прагматычнага суседства з Расіяй;

4) стратэгічнае супрацоўніцтва ў Польшчай, што можа стаць «яднальным для Паўночнай, Цэнтральнай і Усходняй Еўропы»;

5) узмацненне Балтыйска-Паўночнага супрацоўніцтва, з мэтай стварыць больш інтэграваны рэгіён Балтыйскага мора;

6) збліжэнне Калінінградскага рэгіёна да Еўропы;

7) «актыўная падтрымка Беларусі ў спробе стаць прадказальнай, дэмакратычнай незалежнай еўрапейскай краінай»;

8) поўная падтрымка ўкраінскіх рэформаў і яе жаданняў далучыцца да ЕС і НАТА;

9) актыўны ўдзел у шматбаковых форумах;

10) сумесныя дзеянні з старой і новай літоўскай эміграцыяй.

Калі большасць прынцыпаў прымальныя, то пэўныя рэчы геапалітыкам і даследнікам міжнародных адносін падаюцца сумнеўнымі. Перадусім, гэта тычыцца найважнейшага аспекту прамовы Паўлаўскаса – ідэі аб «рэгіянальным цэнтры» альбо «рэгіянальным лідарстве» Літоўскай Рэспублікі. «Я бачу Літву ў цэнтры рэгіёна, з Вільняй у якасці рэгіянальнай сталіцы» , заявіў ён.

Ідэя рэгіянальнага лідарства з гэтага часу пачала гуляць у публічным дыскурсе Літвы і ўсур'ёз абмяркоўвалася высокімі чыноўнікамі і Сеймам. Такая ж роля надавалася краіне ў Дамове аб мэтах і прыярытэтах знешняй палітыкі на 2004 – 2008 гг., розных працоўных варыянтах дакументаў аб знешняй палітыцы.

Але, па-першае, ніводная афіцыйная прамова альбо дакумент, што гаварылі пра амбітнасць стаць «рэгіянальным цэнтрам», не вызначалі канкрэтны рэгіён, у якім намагалася першынстваваць Літва. Па-другое, разгляд раскладу (суб)рэгіёнаў дазваляе сцвярджаць, што ні ў водным з іх яна са сваімі малымі дэмаграфічнымі, эканамічнымі і іншымі рэсурсамі не мае аб'ектыўнай мажлівасці стаць лідарам. Відавочна, што паводле практычна ўсіх крытэраў Літва прайграе Польшчы, якая выглядае куды болей дапасаванай да «рэгіянальнага лідарства».

Падобная ідэя мела б тэарэтычныя шанцы на рэалізацыю з кропкі гледжання канструктывісцкага падыходу, згодна з якім міжнародныя актары дзейнічаюць па размеркаваных ролях. Паводле гэтай тэарэтычнай мадэлі, трансфармацыя замежнай палітыкі Літвы ад 2004 г. мусіла б суправаджацца трансфармацыяй як вельмі важнага партнёра Польшчы. Тады б Літве магла адводзіцца роля суб-лідара, якая праяўлялася б у падзеле па працоўным прынцыпе.

Напрыклад, падзел мог бы пралягаць наступным чынам: афіцыйная Варшавы атрымала б лідарства ў стварэнні ўсходняга вымярэння з асаблівай увагай на Украіну, а Вільня – спецыялізацыю па Беларусі і Калінінградскай вобласці (Расія). Аднак, пра канструяванне такой ідэнтычнасці казаць не выпадае, асабліва ў сітуацыі неўрэгуляванага канфлікту вакол польскай меншасці ў Літве.

Нягледзячы на дыскусіі і спрэчкі пра новыя шматколькасныя прыярытэты, можна казаць пра тое, што сутнасць замежнапалітычных мэтаў Літвы не змянілася, хаця і трансфармавалася з улікам ўваходжання ў ЕС і НАТА. Умоўна замежную літоўскую палітыку пасля 2004 г. можна падзяліць на тры галоўныя кірункі: удзел у анты-тэрарыстычнай аперацыі і адносіны з ЗША і НАТА; еўрапейскія адносіны і падтрымка развіцця дэмакратыі на Усходзе. Улічваючы геапалітычныя рэаліі Літвы, грамадска-палітычны дыскурс і амбітныя мэты, падобная пераемнасць прыярытэтаў 1994-2004 гг. падаецца натуральнай.

## Супрацоўніцтва з ЗША і НАТА

Шмат якія дэпешы з Wikileaks падрабязна апісваюць змест сустрэч амерыканскіх дыпламатаў з літоўскімі палітыкамі. Відавочна, што ў адрозненне ад Беларусі няма ніякіх праблем з кантактамі ва ўрадзе: тэлеграмы апісваюць рэгулярныя сустрэчы з кожным з членаў літоўскіх урадаў, старшынямі ўсіх дэпартаментаў МЗС, ключавымі чыноўнікамі Літвы.

У канцы кожнага дакумента звычайна знаходзіліся кароткія высновы пра карысць сустрэчы, прыязнасці/непрыязнасці палітыка да амерыканскіх інтарэсаў. Напрыклад, Казіміра Прунскене (на той момант міністр сельскай гаспадаркі, была першым прэм'ер-міністрам пасля аднаўлення незалежнасці Літвы), якая неаднаразова заклікала да правядзення «больш еўрапейскай палітыкі», у адной з тэлеграм 2004 г. выклікала «заклапочанасць» . Маўляў, хаця яна і не самы значны міністр, але з'яўляецца палітычным цяжкавагавіком і здольная ўплываць на палітыку ў розных сферах.

Місію амбасады ЗША ў Літве абсалютна дакладна апісвае адна з апублікаваных дэпешаў: забяспечыць падтрымку ініцыятываў ЗША ў Еўропе і за яе межамі; падтрымка моцнай і стабільнай дэмакратыі ў Літве; развіццё эканамічных сувязяў і супрацоўніцтва праваахоўных органаў; павялічэнне грамадскай падтрымкі пазіцый ЗША; паляпшэнне ўмоваў працы амбасады .

Яшчэ адна дэпеша дадала яшчэ дзве важныя задачы «працоўнага плана»: актыўнасць літоўскага ўрада ў глабальнай вайне супраць тэрарызму, спрыянне дэмакратызацыі на тэрыторыі былога СССР. «Наша ўсеабдымная мэта ў Літве – спрыяць праамерыканскай замежнай палітыцы... у асаблівасці,

па найбольш важных пытаннях для амерыканскіх інтарэсаў», – гаворыцца ў перапісцы.

Акрамя таго, працоўныя тэлеграмы паказваюць, наколькі важнае і пякучае для ЗША пытанне выплаты кампенсацыі яўрэйскай супольнасці за згубленую ўласнасць падчас Другой сусветнай вайны. Яно падымалася на дзесятках сустрэч з літоўскімі чыноўнікамі. Амерыканцы стала цікавяцца станам спраў у гэтай сферы і настойваюць на паскарэнні працэсу.

Напрыклад, у чэрвені 2008 г. амерыканская амбасада данесла ў Дзяржаўны дэпартамент пра сваю незадаволенасць урадам Гедымінаса Кіркіласа (прэм'ер-міністр Літвы з 2006 да 2008 году) ў сферах рэстытуцыі яўрэйскай уласнасці і абароны яўрэйскіх могілак у Вільні. Тэлеграма паведамляе, што ўрад паказаў сваю «неахайнасць», а Кіркілас не выконвае свае абяцанні. Было б карысна нагадаць яму, што «няздатнасць ці нежаданне літоўскага ўрада дасягнуць рэальнага прагрэсу па гэтых пытаннях шкодзіць нашым доўгатэрміновым адносінам», раіла амбасада Дзяржддэпартаменту.

Апошні відавочна прыняў да ўвагі гэтае пасланне дыпламатаў, і ў ліпені 2008 г. сама Кандаліза Райс «нагадала» Кіркіласу аб рэстутуцыі падчас візіту апошняга ў Вашынгтон. Тады ж прэм'ер паабяцаў «паспрыяць будаўніцтву сінагогі і яўрэйскага культурнага цэнтра ў Вільні» . Як бачна, пра важнасць, якую ЗША надаюць яўрэйскаму пытанню, сведчыць не толькі частата згадак у тэлеграмах, але і самы высокі ўзровень увагі.

Адна з тэлеграмаў перадае словы старшыні яўрэйскай супольнасці Сімонаса Алперавічуса ў размове з амбасадарам Эн Э. Дэрсе ў 2009 г.: «Хаця Літва і ўвайшла ў ЕС, яна так і не стала па-сапраўднаму еўрапейскай краінай. Я кажу гэта вам, але публічна заявіць пра гэта не магу». Алперавічус таксама як быццам паведаміў, што на дзяржаўным узроўні антысемітызму ў Літве няма, але «ёсць многа антысеміцкі настроеных чыноўнікаў ва ўрадзе, і мы гэта адчуваем», паведамляе дэпеша . Не выпадкова адно з данясенняў паведамляе Дзярждэпартаменту, што ў сферы талерантнасці для літоўскага ўрада ляжыць «самая вялікая праца».

Wikileaks выявіў сакрэтную дамоўленасць з ЗША, якая засведчыла пра падман літоўскім урадам грамадскасці. Так, перамовы з Вашынгтонам наконт прыняцця двух узбецкіх зняволеных з Гуантанама пачаліся ў 2007, а не 2009 г., як раней паведамілі літоўскія чыноўнікі. Міністр замежных спаў Ушацкас таксама пытаў амерыканскіх дыпламатаў, ці можа ён паведаміць СМІ, што амерыканскі ўрад афіцыйна запытаў літоўцаў прыняць зняволеных .

Тэлеграмы таксама перадаюць не вельмі квяцістыя даклады пра сітуацыю ў афганскай правінцыі Гор, за якую адказвае літоўскі кантынгент. Прадстаўнік літоўскага МЗС Даўнюс Баўбліс пасля года, праведзенага ў правінцыі, абрысаваў амерыканцам «больш цёмную карціну за тую, якую звычайна прадстаўлялі чыноўнікі літоўскага Міністэрства абароны, што часцей падкрэсліваюць адносна спакойную сітуацыю з бяспекай у правінцыі Гор» .

Па словах Баўбліса, стабільнасць тлумачыцца геаграфічнымі асаблівасцямі, якія падзяляюць мясцовыя плямёны, а таксама добрымі адносінамі з трыма «военачальнікамі» Зада, Мургабі і Салаам. Баўбліс заявіў амерыканцам, што «традыцыйная карупцыя ў офісе губернатара стварыла стабільную структуру «адкатаў» і прыбытку ад гандлю наркотыкамі, да якой прызвычаіліся ўсе тры групы». Па вытворчасці мака на той час правінцыя займала пятае ці шостае месца ў Афганістане, і сетка «адкатаў» ад прыбытку з гандля наркотыкамі з'яўлялася асновай уладнай структуры ў Горы. Военачальнікі здаваць зброю не спяшаюцца, амаль усе здадзеныя адзінкі – зламаныя, дадае Баўбліс.

Яшчэ адна праблема ў Афганістане, згаданая супрацоўніцай літоўскага МЗС Астай Скайсгірытэ-Ляўскене ў 2009 г., – адбор праектаў на рэалізацыю вызначае Кабул, і правінцыя Гор – не ў прыярытэце. Маўляў, патэнцыйныя донары паведамляюць літоўскаму ўраду, што гатовыя выдзяліць ахвяраванні, але якія дакладна праекты прафінансуюць, вырашае афганскі ўрад. Таму чыноўніца просіць амерыканцаў перакананць прэзідэнта Хаміда Карзая звярнуць увагу на правінцыю Гор.

**Еўрапейскія адносіны. Літва – «траянскі конь ЗША ў ЕС»**

Адна з тэлеграмаў 2007 г. перадае змест размовы намесніка літоўскага МЗС Зігмантаса Павілёніса з амерыканскім амбасадарам. Павілёніс прасіў, каб Вашынгтон падтрымаў кандыдатуру не Эстоніі, а Літвы ў Арганізацыі эканамічнага развіцця і супрацоўніцтва. «Мы – ваш [ЗША] траянскі конь у Еўрасаюзе», – цытуе Павілёніса дэпеша. Літва – самая скіраваная на трансатлантычнае супрацоўніцтва, а Эстонія больш схіляецца да Брусэля, пераконваў літоўскі дыпламат.

З аднаго боку, Літва часам прыгадвалася як добры мост паміж Заходняй Еўропай і і краінамі рэгіёна. Паводле адной з тэлеграмаў, нямецкі канцлер Ангела Меркель высока цаніла прэзідэнта Валдаса Адамкуса за яго паспяховае пасярэдніцтва пры абмеркаванні Лісабонскай дамовы паміж упартым польскім прэзідэнтам Лехам Качыньскім і дуэтам Сарказі-Меркель у 2008 г.

З другога боку, еўрапейскім партнёрам часта не падабалася антырасійская палітыка Літвы, якая псавала двухбаковыя адносіны. Напрыклад, літоўскія патрабаванні ў 2008 г. завялі ў тупік заключэнне новай дамоўленасці аб партнерстве паміж ЕС і Расіяй, і гэта прыйшлося недаспадобы шэрагу еўрапейскіх краін. У адной з дэпешаў гаворыцца:

«Літва мае шчырае жаданне прасоўваць дэмакратыю ў Еўропе і дзе б тое ні было, але яна не ўпускае ніводной магчымасці звінаваціць Расію ў праблемах рэгіёна. Каб у вачах Еўрасаюза выглядаць экспертам у добрасуседскай палітыцы, Літве варта прытрымаць свой з'едлівы тон у адносінах да Расіі... Літоўскаму ўраду часта не ймецца рэалізаваць свой гістарычны вопыт вывада расійскіх войскаў і хуткага ўступлення ў ЕС і НАТА ў краінах, якія знаходзяцца ў супрацьстаянні з Расіяй... Улічваючы даўні страх, злосць і ганарлівасць літоўцаў, іх верагодна, усешвае звінавачанне намесніка міністра замежных спраў Расіі Грыгорыя Карасіна «у спробах правесці новую лінію фронта з Расіяй»

Гэтыя заўвагі амерыканскіх дыпламатаў гучаць у унісон з папярэджаннем літоўскага гісторыка Чэславаса Лаўрынавічуса:

Напрыклад, адносіны з РФ, ці выгаднае Літве абвастрэнне адносін з Расіяй? Ці маюць ЗША стратэгічны намер зрабіць сваю пазіцыю да Расіі больш жорсткай? Шмат якіх тэарытычных і практычных дэталяў кажуць, што не. Тады чаму Літва, кажучы вобразна, імкнецца быць святейшай за самога Папу Рымскага?

Выглядае, што літоўскія палітыкі не спяшаюцца прыслухоўвацца да меркаванняў сваіх экспертаў у міжнародных адносінаў. У 2006 г. прафесар Інстытута міжнародных адносін і палітычных навук Віленскага ўніверсітэта Нортаўтас Статкус і эксперт Інстытута Кястуціс Паўлаўскас падкрэслівалі:

«...Выкарыстанне гісторыі як інструмента замежнай палітыкі... не дапамагае Літве ў вырашэнні шэрага больш прыземленых і надзённых праблем: пытанне бяспекі, звязанае з Калінінградскім рэгёнам, залежнасці ад энергапаставак і іх бяспека, дзейнасці расійскіх спецслужбаў ці будучыня Беларусі».

Літва не мае значных палітычных дывідэндаў ад займання яўна анты-расійскіх пазіцый, а таму мусіць змяніць сваю палітыку дзеля прагматычнага вырашэння важных дзвюхбаковых праблемаў і паляпшэння свайго іміджу ўнутры Еўрасаюза, заклікалі эксперты. Але, як бачна, яны не былі пачутыя.

### Усходняя палітыка Літвы

З дыпламатычнай перапіскі вынікае, што ЗША вельмі спадзяюцца на Літву ў дэмакратызацыі краін Усходняй Еўропы і Паўднёвага Каўказа. Бакі перыядычна абмяркоўваюць беларускае пытанне, і афіцыйны Мінск часам перадаюць пасланні амерыканцам праз літоўскіх калег.

Напрыклад, у 2009 г. літоўскі міністр замежных спраў Вігаўдас Ушацкас паведамляе памочніку амерыканскага Дзяржсакратара пра сустрэчу з у той час старшынём Адміністрацыі прэзідэнта Уладзімірам Макеем. Апошні, маўляў, прасіў перадаць амерыканцам, што Беларусь хоча змяніць свой курс і нацэленая на балансаванне паміж Захадам і Расіяй.

Ушацкас таксама рэкамендуе амерыканскім дыпламатам сустрэцца з Макеем, які, на думку літоўскага міністра, з'яўляецца «рэальным №2» у краіне.

Абмеркаванне беларускага пытання праходзіць на самым высокім узроўні, у тым ліку з літоўскімі прэзідэнтамі, якія надзеленыя Канстытуцыяй правам вызначаць замежнапалітычныя прыярытэты краіны. З дэпешаў вынікае, што ў адной з размоваў Адамкус нават назваў Лукашэнку «псіхам» і найбольшай пагрозай Літве ў рэгіёне. Старшыня парламенцкай камісіі НАТА Вацлаў Станкевіч увогуле заявіў, што Беларусь – пагроза ўсёй Еўропе.

У цэлым, літоўскія чыноўнікі даволі шчырыя з амерыканцамі па адносінах з Беларуссю і іншымі суседзямі ЕС, заўважны яўны давер паміж Літвой і ЗША па каардынацыі «беларускага пытання» і ўсходняй палітыцы.

У пачатку 2010 г. старшыня Дэпартамента МЗС па Усходняй палітыцы добрасуседства Ёнас Грыневічус, у прыватнасці, дзеліўся з амерыканцамі праблемамі з запускам малога памежнага руху з Беларуссю.

Грыневічус быццам паведаміў, што літоўскія ўлады расчараваныя зацягваннем часу з беларускага боку. З свайго боку Літва «зламала коп'і і выкруціла сабе рукі», каб умажлівіць памежную дамову . Дыпламат паведаміў амерыканскім калегам і пра страхі самой Літвы аб памежнай дамове. Маўляў, Вільня сумнявалася, што літоўскім бізнесоўцам Мінск дазволіць весці паспяховы бізнэс у Беларусі. Да таго ж, літоўскія ўлады баяцца, што бізнесоўцы прывязуць ад беларусаў савецкую ментальнасць і метады вядзення бізнэсу: хабары і карупцыю.

Так званая палітыка дэмакратызацыі на Усходзе выклікае часам вострае абурэнне адпаведных урадаў і палітыкаў, сведчаць тэлеграмы апблікаваныя Wikileaks.

Літоўская пазіцыя па расійска-грузінскай вайне і палітыка Вільні пасля збройнага канфлікта сур'ёзна раз'юшыла Расію, вынікае з дыпламатычнай перапіскі. У 2008 г. абмасадар Расіі ў Літве Уладзімір Чхіквадзэ заявіў міністру замежных справаў Літвы Пятрасу Вайцекунасу (да гэтага – амбасадар у Беларусі), што Расія зробіць экстраардынарныя захады супраць Літвы за яе падтрымку Тбілісі. У дэпешах такія паводзіны расійскага амбасадара называліся скандальнымі. Іх аўтары праінфармавалі Вашынгтон, што Вільня просіць аб знаках падтрымкі ад ЗША і НАТА.

Іншая тэлеграма 2005 г. гаворыць аб тым, што Віктар Януковіч (тады лідар украінскай апазіцыі) пагражаў літоўскаму амбасадару ў Украіне, абяцаючы пакараць літоўскі бок за ўдзел у «путчы» (Аранжавай рэвалюцыі) 2004 г.

### Заключенне

З аднаго боку, сапраўдных сакрэтаў у адрозненні ад дэпешаў з шэрагу аўтарытарных краін абнародаваныя Wikileaks тэлеграмы з Літвы не выявілі. Хаця ёсць цікаўнасці ў выглядзе перамоваў аб прыняцці зняволеных з Гуантанамо ці недыпламатычных выкідаў у адказ на літоўскую ўсходнюю палітыку.

З іншага боку, дэпешы малююць цікавыя грані літоўскай замежнай палітыкі вачыма амерыканскіх дыпламатаў.

# Польскі погляд на адносіны з СССР. Палітыка двухвектарнасці (1990—1991)

**Марыюш Машкевіч,**

доктар гуманітарных навук

Малодшы навуковы супрацоўнік Інстытута міжнародных адносінаў

Універсітэт кардынала Стэфана Вышынскага (UKSW), Варшава

**Пасля скасавання ваенна-га становішча на працягу 1980-х незалежная польская публіцыстыка, аўтары, якой друкаваліся на старонках падпольных газет і часопісаў, з вялікай зайздрасцю паглядалі на так званую фінскую мадэль адносінаў з СССР.**

**Гэтая мадэль вызначалася як нейтралітэт у спалучэнні са значным захаваннем свабоды ў фарміраванні знешняй ды эканамічнай палітыкі і, адначасова, – устрыманнем ад любых дзеянняў, якія б наносілі шкоду усходняму суседу. Такі нейтралітэт падаваўся ў 1980-х гг. запаветнай марай і, напэўна, адзіным рэальным геапалітычным праектам для Польшчы, якая знаходзілася і знаходзіцца "паміж Усходам і Захадам".**

Фінляндыі, аднак, пашанцавала больш. Галоўным чынам, па прычыне яе пераможнага стрымання агрэсіі з боку Расіі ў 1940 г., а таксама, дзякуючы волі дзяржаўпераможцаў антыгітлераўскай кааліцыі.

Пытанню "фінляндызацыі" шмат увагі ў сваіх тэкстах надаваў вядомы публіцыст Tygodnika Powszechnego Стэфан Кісялеўскі, супраць яго ў гэтым пытанні рашуча выступалі як прадстаўнікі прыхільнай да палітыкі Юзэфа Пілсудскага Канфедэрацыі незалежнай Польшчы (КНП), так і паслядоўнікі нацыянальна-дэмакратычнага руху "Маладая Польшча"[1].

У гэты час з'явіліся таксама канцэпцыі ўсталявання адносін з Масквой без ведама кіруючай Польскай аб'яднанай працоўнай партыі (атачэнне Камітэту абароны працоўных – КАП). Ідэя настолькі ж далёкая ад рэчаіснасці, бо партнёраў у Маскве не было, а манаполія на зносіны з "савецкімі" яшчэ доўгі час пасля знікнення Польскай Народнай Рэспублікі належала амаль выключна прадстаўнікам наменклатуры Польскай аб'яднанай працоўнай партыі (ПАПП) і іх ідэйным наступнікам ды пільна ахоўвалася, быццам ноў-хаў.

Іншая мадэль адносінаў – югаслаўская – у 1980-х гг. магла б быць прынятая Масквой, калі б кіраўніцтва ПАПП мела больш рашучасці і адвагі імкнуцца да такіх зменаў.

Наколькі абедзве мадэлі нейтралітэту – фінская і югаслаўская – падаваліся своеасаблівым вектарам у 1982–1988 гг., настолькі пасля падзеяў восені 1989 г. аказаліся раптоўна неактуальнымі і слаба амбіцыйнымі. Калі пасля перамоваў за "круглым сталом" у 1990 г. уладу атрымала "Салідарнасць", ажыццяўленне палітыкі нейтралітэту стала занадта сціплым праектам, які не адпавядаў чаканням як грамадства, так і палітычных эліт адроджанай Рэчы Паспалітай.

Правыя сілы паслядоўна спалучалі ў сваіх канцэпцыях ідэі Юзефа Пілсудскага і Рамана Дмоўскага, у прыватнасці, канцэпцыя федэрацыі з'явілася ў публікацыях прыхільнікаў правых (Холл, Мачульскі, Бандкоўскі, Таргальскі, Мазярскі, Костшэва-Зорбас)[2].

Адначасова напрыканцы 1980-х у апазіцыйнай публіцыстыцы левага толку сустракаліся сур'ёзныя заявы, што гарантам бяспекі Польшчы, асабліва яе заходніх межаў, з'яўляецца трывалы саюз з СССР [3].

На гэтым фоне канцэпцыя двухвектарнай палітыкі ў дачыненні да ўсходніх суседзяў Польшчы ўзнікла ў нейкай ступені выпадкова, як спроба спалучэння амбітных геапалітычных праектаў колішняй апазіцыі з паліт-рэалізмам посткамуністычных колаў. Аўтарам ідэі палітыкі двухвектарнасці лічыцца Кшыштаф Скубішэўскі, але на лад яго думак паўплывала праца многіх аналітыкаў, экспертаў і дыпламатаў Міністэрства замежных спраў[4].

### Адмаўленне ад фінляндызацыі

Спробы замарудзіць еўраатлантычныя (тады яшчэ гіпатэтычныя) памкненні ў краінах Усходняй Еўропы пачаліся ў сувязі з праектам "аб'яднання Германіі". Згода Міхаіла Гарбачова, абцяжараная шматлікімі ўмовамі, павінна была затармазіць працэс эканамічнага распаду СССР, бо выгоднай кампенсацыяй за такі палітычны жэст мусіла зрабіцца магчымасць атрымання сродкаў і тэхналогій з Захаду, неабходных для задавальнення сацыяльных патрэбаў.

У выпадку з Польшчай дадаўся яшчэ і эфект "пагрозы шахам". Іаанна Стшэльчык у сваёй кнізе звяртае ўвагу на тое, што невыпадкова ў колах ураду Тадэвуша Мазавецкага (адзін з лідараў Салідарнасці, потым прэм'ер-міністр першага некамуністычнага ўраду ў 1989 г.) з'явіліся думкі аб утрыманні савецкіх войскаў, якія б сталіся гарантам бяспекі заходніх межаў Рэспублікі Польшча[5]. Яшчэ раней, у 1988 г., савецкія ўлады дапускалі, што можа скласціся такая сітуацыя, калі давядзецца ўжыць у адносінах з Польшчай "нямецкае пудзіла".

Калі генсек ЦК КПСС Міхаіл Гарбачоў распачаў афіцыйныя візіты ў Польшчу, у адносінах паміж Германскай дэмакратычнай рэспублікай і ПНР адбыўся палітычны канфлікт, звязаны з т. зв. водным шляхам да Свінавусця (у Паморскім заліве). Гэты канфлікт доўжыўся некалькі год – ажно да аб'яднання Германіі. Ён быў адной з найбольш гучных праблемаў адносінаў краінаў сацыялістычнага лагера, пра якую пры гэтым нельга было казаць уголас.

У дзень, калі Міхаіл Гарбачоў знаходзіўся ў Кракаве, у Паморскім заліве здарыўся знамянальны інцыдэнт. Як піша ў сваіх успамінах Веслаў Гурніцкі, тады блізкі паплечнік Войцеха Ярузельскага (другі прэзідэнт ПНР (1989) і першы посткамуністычнай Рэспублікі Польшчы у 1989-1990 г.): "Камандзір нашага ваеннага флоту, на той час контр-адмірал Пётр Каладзейчык, дакладаў у надзвычайным парадку, што на досвітку невядомы ваенны карабель абстраляў у польскіх тэрытарыяльных водах польскае гандлёвае судна паблізу прычала №3, што ў раёне Свінавусця. Два снарады сярэдняга калібру ўпалі на адлегласці некалькіх дзесяткаў метраў ад борта. Ніхто не пацярпеў. Патруль, што выехаў у пагоню, не знайшоў віноўніка ў польскіх тэрытарыяльных водах"[6].

Ці была гэта містыфікацыя і з чыйго боку, наўрад ці хутка даведаемся. І калі сам інцыдэнт не быў нечым дзіўным, дык сур'ёзнае ўзбраенне напярэдадні прыезду савецкага кіраўніка ў Заходняе Памор'е ўжо выклікала здзіўленне. Таму, як адзначаў V аддзел Ваеннай унутранай службы, жыхары Шчэціна спадзяваліся, што візіт Міхаіла Гарбачова можа паспрыяць урэгуляванню польска-нямецкага канфлікту[7].

Як заўважае журналіст Уладзімір Каліцкі, "Войцэху Ярузельскаму ўдалося ўгаварыць генеральнага сакратара ЦК КПСС прыехаць у Шчэцін. Свет палітыкі меўся ўспрыняць гэта як тактоўны, але выразны жэст Крамля ў падтрымку Польшчы ў яе спрэчцы за межы з ГДР"[8].

Прэс-сакратар Ярузэльскага Ежы Урбан, у якога журналіст у свой час запытаўся, чаму ў праграму візітаў Гарбачова трапіў Шчэцін, сцвярджаў: "Такім было яго жаданне. Ён хацеў сустрэцца з працоўнымі калектывамі Польшчы. А ў нас склалася такая традыцыя, што калі госці наведваюць нашу краіну, то сустракаюцца з працоўнымі толькі ў Катавіцах. Дык вось мы мяняем традыцыі, а дакладней – звычкі. Апрача таго, Шчэцін – гэта ж нашы дзяржаўныя інтарэсы на заходнім рубяжы. Шчэцін – вялікі польскі горад, што найбольш выдаецца на Захад"[9].

Падобнае меркаванне можна знайсці ў цытаваным у газеце Głos Szczeciński выказванні гісторыка Здзіслава Хмялеўскага: "У ліпені 1959 г., у час знаходжання ў Шчэціне Мікіты Хрушчова, прагучалі словы ў пацвярджэнне трываласці на заканадаўчым узроўні [10].

Таму можна сказаць, што спражкай, якая злучыла дзве апошнія дэкады польскай незалежнасці, гісторыі ІІІ Рэчы Паспалітай, з'явіліся два ключавыя геапалітычныя выбары. Першы тычыўся стаўлення да аб'яднання Германіі, другі – трансатлантычных адносінаў, асабліва ў кантэксце пазнейшай супрацьракетнай кампаніі.

Безумоўна, праблема "фінляндызацыі" ў 1989 г. на працягу ўсяго некалькіх месяцаў прыцярпела значную эвалюцыю. У час "круглага стала" ўрадавы бок цвёрда прытрымліваўся прынцыпаў "трывалага саюза з СССР", тады як апазіцыі, асабліва цэнтральнаму яе колу (лідар незалежнага прафсаюза "Салідарнасць" Лех Валенса, апазіцыйны палітык Браніслаў Герэмек, Тадэвуш Мазавецкі), бліжэй былі ідэі фінляндызацыі.

Увосень 1989 і на пачатку 1990 г. сітуацыя радыкальна змянілася. Парламентарыі "Салідарнасці" (Грамадзянскага парламентарнага клуба) усё смялей выказваліся за неабходнасць "прышвартавацца" да еўраатлантычных інстытуцый. У той час як групы, звязаныя з ПАПП, гатовыя былі прыняць самае большае польскую версію "фінляндызацыі".

**Разгледзім, якой паўстае гэтая эвалюцыя ў выказваннях асобных палітыкаў.**

Ежы Урбан, у якога запыталіся пра т. зв. "сігналы з Масквы", распавядае праз гады: "[…] Пасля выбараў 4 чэрвеня 1989 г. Тадэвуш Мазавецкі сфармаваў урад, а я паехаў у СССР як прадстаўнік яшчэ ўраду Мечыслава Ракоўскага (1988-1989). Я павінен быў супакойваць таварышаў. Прыняў мяне Валянцін Фалін, сакратар ЦК КПСС па замежных справах. Тлумачу, што ўсё ідзе добра, што ПАПП будзе мець ведамствы абароны, МУС, а таксама замежных спраў, бо так падавалася. Мы павінны былі і надалей гарантаваць ім захаванне геапалітычных інтарэсаў. Фалін ветліва слухае і ні пра што не пытаецца. Бачу, што

яго гэта зусім не цікавіць[…]. А наогул лічу, што мы занадта павольна выходзілі з камунізму. З 1986 г. можна было гуляць аўтаматычна. Дастаткова было не чыніць пагрозы савецкім камунікацыйным шляхам, і цэнтр гарбачоўскай улады не рэагаваў бы на далёкія намеры змены дзяржаўнага ладу. Маю адчуванне, што мы спазніліся. Як заўсёды"[11].

З падобнай, як і Урбан, заявай з Масквы ў ліпені 1989 г. вяртаецца адзін з лідэраў "Салідарнасці", будучы рэдактар Gazeta Wyborcza Адам Міхнік: "Яны былі занятыя сабой, казалі: "Рабіце, што хочаце", а калі так, ну дык я сказаў[…]: "Хлопцы, трэба здзяйсняць захоп касы"[12].

Пётр Малевіч у кнізе Polska Polityka Wschodnia w latach 1989-1991 узнаўляе палітычную расстаноўку сіл і паказвае адносіны да СССР паводле старой раскладкі – Польская аб'яднаная працоўная партыя (ПАПП), Аб'яднаная народная партыя (АНП) і Дэмакратычная партыя, з аднаго боку, і Канфедэрацыя незалежнай Польшчы (КНП), "Салідарнасць барацьбова" (СБ), "Польская народная партыя" (ПНП) – з дыяметральна супрацьлеглага[13].

Аўтар падзяляе той час на тры этапы: першы – ад часу ўтварэння ўраду Тадэвуша Мазавецкага да першай праграмнай прамовы ў новым парламенце Крыштафа Скубішэўскага (на той момант міністр замежных справаў, 12.09.1989–26.04.1990), другі – з канца 1990 г. (пагаршэнне адносінаў з Масквою, сыход у адстаўку тагачаснага міністра замежных спраў СССР Эдуарда Шэварнадзэ, абвастрэнне адносінаў), трэці – ад путчу да распаду СССР. Пытанне, ці мае сэнс такая "перыядызацыя", застаецца адкрытым.

Гэта былі два вельмі неспакойныя гады няпэўнасці і страху за крохкую незалежнасць, перасцярогаў, ці доўга будуць трываць саступкі Масквы і ці не надыдзе своеасаблівы "рэцыдыў" у выглядзе нейкага бальшавізму. Путч у СССР на чале з віцэ-прэзідэнтам Генадзям Янаевым пацвердзіў, што такая небяспека існавала, а падмацаваная прысутнасцю савецкіх войскаў у Польшчы сіла маскоўскіх "аргументаў" мела канкрэтнае праяўленне ў рэзкім спыненні эканамічнага супрацоўніцтва, што намагала пераарыентацыі эканомікі. У СССР перастаў пастунаць польскі экспарт, і спатрэбілася некалькі год, каб гэты патэнцыял пераняў прыватны сектар.

Прыкладам асцярожнага стаўлення ў адносінах да Расіі могуць служыць выказванні журналіста Яна Новака-Езяранскага і амерыканскага палітолага польскага паходжання Збігнева Бжэзінскага, якія пад час сваіх падарожжаў па Польшчы ўвесну і ўлетку 1989 г. указвалі на " [….] неабходнасць саюза Польшчы з Расіяй, ці СССР, які б абапіраўся на агульныя геапалітычныя інтарэсы. Саюза, які б паслабіў ці пазбавіў Расію спакусы весці перамовы з Германіяй".[14]

Яшчэ больш адназначна ў падтрымку знаходжання Польшчы ў складзе Варшаўскага дагавора выказваўся Бжэзінскі ў інтэрв'ю для газеты Polityka, а пазней у размове з журналістам Яцэкам Москвай, дзе сцвярджаў: "Польшча [..] павінна заставацца ў складзе Варшаўскага дагавора, паколькі Еўропе патрэбна стабільная структура".

Ян Новак-Езяранскі ў час сустрэч з журналістамі выказаў думку: "…калі некамуністычны рэжым здолее пераканаць Маскву, што не ўяўляе пагрозы яе інтарэсам, Польшча будзе мець шанц на "фінляндызацыю"". [15]

Гэтае меркаванне крыху ў іншай форме (без слова "фінляндызацыя") прагучала потым у праграмнай заяве прэм'ера Тадэвуша Мазавецкага. Пазней таксама ў Tygodniku Solidarność з'явілася выказванне легендарнага "кур'ера з Варшавы" (Новак-Езяранскі): "…можна яе [фінляндызацыю – М.М.] атрымаць, часткова адмовіўшыся ад знешняй суверэннасці ўзамен на ўнутраную свабоду".[16]

Абедзве цытаты сведчаць пра тое, што польскія палітыкі, асабліва з колаў "Салідарнасці", не вынайшлі самадастатковых тэорый узаемаадносінаў з Расіяй, а працавалі з разліку, асцярожнасці і аб'ектыўных міжнародных перадумоваў, у чым пераконвалі выказванні польскай эліты ды парады выбітных экспертаў з Вашынгтона. Нават прызнаны за гуру польскага лібералізму публіцыст Стэфан Кісялеўскі ў ліпені 1989 г. пісаў, што стасункі Польшчы з суседнімі рэспублікамі СССР пазначаныя таўром няпростых адносінаў з нацыянальнымі меншасцямі – літоўцамі, беларусамі і ўкраінцамі. Таму абавязковым з'яўляецца падтрымка саюзу з Расіяй (не з СССР), а пытанне непарушнасці Варшаўскага дагавора не павінна нават абмяркоўвацца, паколькі Польшча па геапалітычных прычынах не можа выйсці з дамовы.[17]

Але, нягледзячы на гэта, у асяроддзі "Салідарнасці" (магчыма, не столькі ў самім урадзе, колькі ў Грамадзянскім парламентарным клубе, а таксама ў незалежных СМІ) распаўсюджаным было перакананне ў неабходнасці наладжвання стасункаў з сіламі дэмакратычнай і нацыянальнай апазіцыі ў асобных рэспубліках СССР. За такія спробы апазіцыю крытыкавалі ў Trybunie Ludu, сцвярджаючы, што тая наіўным чынам падтрымлівае вызваленчыя рухі ў прыбалтыйскіх краінах, не заўважаючы, што "іх нацыяналістычнае вастрыё скіравана не толькі супраць рускіх, але і супраць палякаў".[18] Ці маем тут дачыненне з нейкай мутацыяй так званага "нацыянальнага адхілення" ва ўлонні ПАПП?

**Ідэйныя спрэчкі на руінах ПНР вакол мадэлі новай усходняй палітыкі**

Згаданы вышэй Мечыслаў Ракоўскі крытыкаваў "Салідарнасць" за "місіянерскую дзейнасць некаторых людзей з апазіцыі, якія хочуць несці паходню польскай свабоды і дэмакратыі суседзям".[19] Ён асуджаў радыкальныя сілы за антысавецкія маніфестацыі, а газ. Trybuna Ludu змяшчала звароты да ўраду з заклікам стрымаць радыкалаў.

Як заўважае Малевіч, грамадскасць крыху заспакоіў візіт прэм'ера Тадэвуша Мазавецкага ў Маскву ў лістападзе 1989 г., выніки якога знайшлі водгук нават у поўных энтузіязму каментарах на старонках прэсы ПАПП .[20] Малевіч адзначае таксама, што ўпершыню становіцца відавочнай розніца падыходаў ПАПП і АНП да ўсходніх спраў. У дакладзе старшыні АНП Дамініка Людвічака на XI Кангрэсе партыі

ўздымаецца тэма неабходнасці патурбавацца пра палякаў, што ў СССР (першы раз нанова "адроджаная" АНП-ПНП звяртаецца да нацыянальнай праблематыкі).

Крышталізацыя ідэйных разыходжанняў у асяроддзі "Салідарнасці" спрыяла выспяванню разнастайных канцэпцый адносна ўсходняй палітыкі. Сам Лех Валенса ў пачатку 1990 г. агучыў пастулат аб неабходнасці вываду савецкіх войскаў з тэрыторыі Польшчы ўжо да канца таго ж 1990 г. (у размове з паслом СССР Баравіком 18 студзеня 1990 г.). Сведчаннем змены арыентацыі ў міжнароднай палітыцы лічыцца тэкст Здзіслава Найдэра ў газеце Rzeczpospolita, дзе аўтар сцвярджае, што не варта ігнараваць імкненні нашых суседзяў. Пры гэтым спасылаецца на традыцыі Kultury, а таксама на вядомую кнігу Багдана Скарадзінскага пра падполле 1980-х гг. "Беларусы. Літоўцы. Украінцы".[21]

Узмацненне палітычнага курсу Леха Валенсы і з'яўленне патрабаванняў адносна прызнання Масквой віны за злачынствы і IV падзел Польшчы у верасні 1939 г., грунтоўныя і адназначныя паводле ўздзеяння тэксты Здзіслава Найдэра, які ў той час лічыўся адным з найбольш уплывовых дарадцаў кіраўніка НСПС "Салідарнасць", павялічвалі розніцу паміж сіламі, што гуртаваліся вакол Tygodnika Solidarność і Gazety Wyborczej.

З аднаго боку, гэта азначала пачатак выбарчай прэзідэнцкай кампаніі, а з другога – змена курсу ўсходняй палітыкі з пазіцый "фінляндызацыі" ў кірунку падтрымкі савецкіх рэспублік у іх памкненні да незалежнасці. Мела значэнне, што гэты націск з нізу быў значным імпульсам для тагачаснага МЗС пад кіраўніцтвам Кшыштафа Скубішэўскага, які ва ўмовах крытыкі з розных бакоў распачаў павольную змену курсу ў напрамку т. зв. палітыкі двухвектарнасці.

Як ён згадаў праз гады: "У праграмнай прамове ў красавіку 1990 г. я казаў аб двухбаковым падыходзе да нашай усходняй палітыкі: з аднаго боку – адносіны з СССР, з другога – наладжванне стасункаў з тымі рэспублікамі, якія былі нашымі суседзямі. Калі ў кастрычніку 1990 г. першы раз паехаў у Маскву, сказаў Міхаілу Гарбачову, што мы пераходзім да тыпу адносінаў, якія будуць магчымыя і з Беларуссю, і з Літвой, і з Украінай, верагодна, таксама з Казахстанам. Выслухаў мяне і запытаў толькі аб адным: ці будзе Польшча прытрымлівацца заключаных з свайго боку дамоваў. Мой адказ быў сцвярджальным – як я ўжо адзначаў, я імкнуўся да вырашэння пытанняў пры ўзаемнай згодзе (што і адбылося)".[22]

Пасля роспуску ПАПП посткамуністычныя сілы трымаліся т.зв. "прасавецкага курсу", успрымаючы польска-савецкі саюз як гарантыю і процівагу патэнцыйнай пагрозе з боку нямецкага рэвізіянізму. На гэтую небяспеку з боку Германіі звярталі ўвагу між іншым такія палітыкі левага кшталту, як Томаш Наленч, Ежы Вятр, Юзэф Алексы.[23]

Увогуле тагачасная пазіцыя партыі левых і сацыял-дэмакратаў (у тым ліку і Аляксандра Квасьнеўскага) вызначалася значнай стрыманасцю і нават крытычным стаўленнем да амбітных патрабаванняў, "якія маглі дэстабілізаваць міжнародную сітуацыю".[24]

З іншага боку, не зважаючы на роспуск камуністычнай партыі, сілы, што гуртаваліся вакол узніклай СДРП, прэтэндавалі на ролю своеасаблівага гаранта бездакорных адносінаў з СССР, прымаючы апрыёры, што такіх добрых адносінаў з Масквой не могуць мець сілы "Салідарнасці". Такі пункт погляду, безумоўна, мае сваё абгрунтаванне.

Гэта ПАПП і яго дзеячы гадамі дбалі пра кантакты з "савецкімі таварышамі", найбольшае, што магла мець апазіцыя, – добрыя стасункі з дысідэнтамі, а таксама з творцамі і з людзьмі мастацтва. Але нават і тут польскія камуністы праяўлялі асаблівае адчувальнасць.

Прыкладам можа служыць справа запрашэння Саюзам кінематаграфістаў СССР у Маскву ўвосені 1988 г. Адама Міхніка. Дыпламаты ПНР у Маскве, выпадкова даведаўшыся аб гэтай ініцыятыве, дабіліся, на здзіўленне савецкага боку, забароны прыезду аднаго з найбольш вядомых польскіх дысідэнтаў.

Пасол Наторф дасылаў у Маскву шыфроўку: "Згодна з Вашымі ўказаннямі передаў Фёдараву заяву аб інтэрвенцыі ў Саюзе кінематаграфістаў СССР па справе анулявання запрашэння Міхніка [...]. Ф[ёдараў] передае адпаведныя інструкцыі ідэалагічнаму аддзелу ЦК [КПСС]. Войтчак правёў сёння размову з Б. Міхалкам і К. Зануссі, якія абяцалі паўплываць на Вайду, каб той выпадкова не адмовіўся ад паездкі ў Маскву па прычыне адклікання запрашэння Міхніка".[25]

Мечыслаў Войтчак, які выконваў у той час у Маскве абавязкі кіраўніка Цэнтра польскай культуры пры Пасольстве ПНР, у сваіх успамінах праз гады пацвярджаў, што існаваў пэўны механізм ці нават тэхналогія кантролю за кантактамі з "савецкімі".[26]

Аўтар апісвае, як Стэфан Альшоўскі і Эдвард Бабюх былі прынятыя генсекам ЦК КПСС Леанідам Брэжневым у 1979 г., што партыйнымі лідэрамі Варшавы ўспрымалася як "памазанасць" гэтых асобаў. Калі ў кастрычніку 1988 г. прэм'ер-міністр Мечыслаў Ракоўскі паехаў у Маскву, для варшаўскага ЦК гэта было раўназначна атрыманню згоды на лібералізацыю і змену курсу.

Паводле М. Войтчака, М. Ракоўскі не меў раней ніякіх сур'ёзных кантактаў у Маскве, а да 1989 г. і, верагодна, значна пазней пасольства пільна трымалася інтарэсаў посткамуністычных сілаў, асабліва адсочваючы, хто і з кім на вышэйшым узроўні сустракаецца, каго з польскіх гасцей прымаюць і г.д.

Як адзначае М. Войтчак, М. Ракоўскі спрабаваў сустрэцца з М. Гарбачовым яшчэ раней, калі выконваў функцыі віцэ-маршалка Сейму ПНР (увесну 1988 г.). Тады яму ўдалося дайсці "высока", але "толькі" да міністра-замежных спраў СССР Андрэя Грамыкі.

Калі ўвосень 1988 г. Ракоўскі становіцца прэм'ерам, прадстаўніцтва ў Маскве арганізуе візіт і перамовы з Гарбачовым.[27] М. Войтчак згадвае, што на М. Ракоўскага прыхільна пазірала т. зв. інтэлектуальная эліта Масквы, а штотыднёвік Polityka карыстаўся вялікім поспехам у тых колах і быў шырока распаўсюджаны ва ўсім СССР.[28]

Урад Тадэвуша Мазавецкага пачынаў работу ў незвычайна

цяжкіх умовах. І што тычылася прыняцця рашэнняў або палітычных крокаў – ва ўсім знаходзіліся аргументы "за" і "супраць". Адкладаючы ў бок спрэчкі аб слушнасці асцярожнай і "эвалюцыйнай" дзейнасці ўраду Т. Мазавецкага, варта згадаць пра два істотныя моманты ў знешняй палітыцы 1989–1990 гг.

Першы датычыць вельмі вузкага поля для манеўраў у адносінах з СССР (акалічнасці, якія абмяжоўваюць суверэннасць, то бок, прысутнасць савецкіх войскаў у краіне, моцныя эканамічныя сувязі, а таксама неабходнасць паступовага сыходжання з арбіты Савета эканамічнай узаемадапамогі і Варшаўскага дагавора).

Другі момант – т. зв. нямецкае пытанне. У працытаваным ніжэй тэксце інтэрв'ю, якое даў праз колькі год былы прэм'ер, гучыць думка, што менавіта "савецкія таварышы" намагаліся прыўнесці нямецкую праблему ў палітычны сектар Польшчы. Праўдападобна, што дыскусія вакол кіраўніка ГДР Эрыха Хонекера была толькі спробай уцягнуць у гаворку пра большыя страхі, якія могуць мець палякі (рэвізія межаў і спроба праз пасрэдніцтва т. зв. "цвердалобых" з краінаў камуністычнага блоку – Нікалае Чаўшэску і Эрыха Хонекера – прытрымліватца таго курсу, які заахвоціў бы Маскву перагледзець сваю палітыку ў сувязі з адлігай у Польшчы).

Тадэвуш Мазавецкі расказваў журналісту Анджэю Бжэзецкаму пра сваю размову з шэфам КДБ генералам Уладзіміра Кручковым і генсекам ЦК КПСС Міхаілам Гарбачовым[29].: "Мы не абмяркоўвалі склад ураду, я б гэтага не дапусціў. Паведаміў толькі, што ўрад будзе складацца з прадстаўнікоў усіх партый, прадстаўленых у парламенце. Кручкоў усё болей гаварыў аб нямецкай праблеме, гэта была такая абарона ГДР. Маёй мэтай было вярнуцца ў Маскву з адной, простай для паўтарэння заявай, што будзем мы краінай прыязнай, але самастойнай. Хацеў выказаць гэта непасрэдна М. Гарбачову, адсюль ідэя паездкі ў СССР увосень. Але калі звярнуліся з прапановай да Масквы, доўга не маглі дачакацца тэрміну. Справа зацягнулася, пакуль урэшце не звярнуліся да прэзідэнта Войцеха Ярузельскага, які ўмяшаўся праз свае каналы. (…)

Увогуле я ўспрымаў М. Гарбачова як чалавека адкрытага. У адным пытанні быў іншым: у справе Германіі. Ізноў абарона ГДР. Я выслухаў яго, але не спрачаўся, мяркуючы, што жыццё само ўсё расставіць на месцы".

Пазней А. Бжэзецкі запытаўся: "Ці абвінавачваў вас часам урад у тым, што вы прыслухоўваліся да аргументаў, нібыта аб'яднанне Германіі магло стварыць небяспеку для Польшчы і толькі прысутнасць савецкай арміі на Вісле гарантавала непарушнасць заходняй мяжы нашай краіны?"

Мазавецкі адказаў: "Мой урад звязваў нямецкае пытанне з прысутнасцю войскаў у Польшчы толькі падчас чарговага вырашэння гэтых спраў. Не хацелі затрымліваць савецкія войскі, так што гэта беспадстаўнае абвінавачванне. М. Гарбачоў змяніў сваю пазіцыю ў адносінах да Германіі толькі пасля сустрэчы з Джорджам Бушамстарэйшым на Мальце. Згадваю, што раней ён ездзіў у Берлін і сустракаўся з Эрыхам Хонекерам. Мне таксама прапаноўвалі паехаць, але не паехаў, менавіта каб не прызнаваць легітымнасць гэтага рэжыму. (…) Не пагаджуся і з закідамі, што мой урад ухваляў status quo і далейшы ўдзел у Варшаўскім дагаворы".[30]

Для посткамуністычных сілаў надзвычай важна было захаваць пазіцыю "гаранта" пераўтварэнняў. Рэч у тым, што ў краіне былі глыбока ўкаранёны перакананні, што і ў далейшым ПАПП здолее паспяхова весці перамовы з Масквой, засцерагаючы ў нейкай ступені ад грамадска-эканамічных змен.

Як успамінае праз колькі год Т. Мазавецкі, В. Ярузельскі ўмяшаўся, калі справа дайшла да арганізацыі візіту першага прэм'ера некамуністычнага ўраду ў Маскву ўвосень 1989 г.

У жніўні 1991 г. прэзідэнт Лех Валенса на фоне путчу Янаева перш чым праявіць ініцыятыву для перамоваў з прэзідэнтам Расіі Барысам Ельцыным, вырашыў пракансультавацца з генералам Войцэхам Ярузельскім.

Прынятая ў 1989 г. дактрына посткамуністычных сіл аб тым, што яны з'яўляюцца "гарантам" добрых адносінаў з Масквой, змянілася ў бок дактрыны аб гарантаванні "добразычлівасці" і "прыязных стасункаў". Проціпастаўлялі яе "русафобіі, антысаветызму" колаў колішняй апазіцыі "Салідарнасці". У 1990–1991 гг. папулярным стала вызначэнне "апантаныя", якое ўжывалася ў дачыненні да асоб радыкальных палітычных поглядаў (Канфедэрацыя незалежнай Польшчы, Цэнтр згоды, Tygodnik Solidarność, некалі і сам Л. Валенса), праціўнікаў лагеру "памяркоўных" (асяродку "Gazety Wyborczej", а таксама часткі постПАППаўскіх левых сілаў).[31]

**У пачатку 1990 г. спіс спраў для вырашэння сітуацыі са стасункамі з СССР уключаў наступныя пункты:**

1. Захаванне Савета эканамічнай узаемадапамогі як гаранта стабільнага развіцця ва ўмовах беспрэцэдэнтнага крызісу і змены эканамічнага ладу;

2 Захаванне ўдзелу ў Варшаўскай дамове як гаранта геапалітычнай стабільнасці і "хельсінскага" парадку;

3. Патрабаванне ад Масквы асуджэння злачыннай палітыкі падзелу Польшчы (пакт Рыбентропа–Молатава) і катынскіх злачынстваў (гэтыя заклікі, аднак, сталі больш настойлівымі хіба толькі ў другой палове 1991 г.);

4. Пажаданні адносна палякаў, якія жывуць у СССР (вяртанне касцёла, адукацыя, палітычныя і культурныя правы, нацыянальная мова і г.д.).

Напрыканцы 1990 г. сітуацыя настолькі змянілася, што ўжо пераважная большасць палітыкаў карысталася мовай "апантаных". Канфедэрацыя незалежнай Польшчы, якая лічылася радыкальнай антысавецкай арганізацыяй, патрабавала ўзняць пытанне вываду савецкіх войскаў з Польшчы як найважнейшае.[32]

Пасля абвяшчэння Акту незалежнасці Літвы 11 сакавіка 1990 г. польскія палітычныя эліты пачалі ўсё часцей катэгарычна выказвацца аб неабходнасці разлічыцца з СССР па былых рахунках (вывад войскаў, Катынь, асуджэнне пакту Рыбентропа–Молатава).

Інакш кажучы, літоўцы прыса-

ромілі нас сваёй цвёрдай і бескампраміснай пазіцыяй, таму журналіст і палітык Лешак Мачульскі ў артыкуле "Wolność wasza i nasza" з такой сілай падкрэслівае: "…трэба адмовіцца ад угодлівай у адносінах да СССР палітыкі, якая ставіць прыняцце польскіх рашэнняў у залежнасць ад ухвалення Масквой".[33] Мачульскі прыгадвае пададзеную ва ўласнай інтэрпрэтацыі канцэпцыю "міжмор'я" і патрабуе пагадзіцца з **трыма асноўнымі прынцыпамі адносінаў з дзяржавамі на Ўсход ад Польшчы:**

1. Прызнанне нацыянальнай ідэнтычнасці, незалежнасці, тэрытарыяльнай цэласнасці вызваленых народаў;

2. Гарантаванне правоў нацыянальных меншасцяў (у тым ліку і рэлігійных);

3. Стварэнне сістэмы дапамогі тым краінам, якія асабліва таго патрабуюць.

Гэтыя патрабаванні, па праўдзе кажучы, тычыліся на той момант Літвы, але наогул канцэпцыя "міжмор'я" цалкам укладалася ў лагічнае адзінства, якое вынікае з ранейшых ідэй Ю. Пілсудскага і дэмакратычнай апазіцыі 1970–1980 гг. Л. Мачульскі крытыкаваў урад і МЗС за надта марудныя і кан'юнктурныя паводзіны ў кантэксце змагання нашых усходніх суседзяў за незалежнасць.

Гэтак жа крытычна ў адносінах да асцярожнай пазіцыі ўраду па літоўскім пытанні выказваліся не толькі радыкальна настроеныя палітыкі, але, напрыклад, нейтральны і разважлівы журналіст і публіцыст Леапольд Унгер, які сцвярджаў, што "польскі ўрад, што праўда, падтрымаў літоўцаў, але з іншага боку, пастанавіў, што афіцыйна не можа прызнаць незалежнасць Літвы".[34]

У той самы час Л. Валенса накіроўвае да М. Гарбачова ліст, у якім выказвае падтрымку курсу перабудовы і заклікае працягваць рэформы таксама праз прызнанне вызваленчых памкненняў народаў СССР[35], а прадстаўнікі Грамадзянскага парламентарнага клуба на чале з Браніславам Герэмкам казалі ў Літве: "Мы з вамі".[36]

На фоне пра-вызваленчых (пралітоўскіх) выказванняў Б. Герэмкі і А. Міхніка[37], якія былі часткай дыскусіі пасля праграмнай прамовы К. Скубішэўскага, вылучаюцца таксама розныя паводле зместу і ў пэўным сэнсе дактрынальныя (нацыянал-дэмакратычныя) погляды на літоўскае пытанне паслоў Яна Лапушанскага і М. Юрка. У іх выказваннях падкрэслівалася неабходнасць лічыцца з інтарэсамі Расіі, забяспечваць выкананне правоў польскай меншасці, а таксама падтрымліваць перабудову ў СССР паводле хрысціянскіх прынцыпаў (адраджэнне хрысціянства як умова спакойнага параўладкавання постсавецкай прасторы).

У час дыскусіі[38] палітыкі Уладзімір Цімашэвіч, так і Юзэф Алексы адзначалі неабходнасць захавання супрацоўніцтва з СССР (для карысці і развіцця Польшчы) і стрыманне дзеянняў, якія б вялі да дэзінтэграцыі з СССР.

Алексы асабліва заклікаў да асцярожнасці перад аб'яднаннем Германіі і яе знаходжаннем у НАТА, а таксама падкрэсліваў шкоду прыгадвання справаў, звязаных з гісторыяй, сярод якіх – сталінскія злачынствы. Ён выказваў смутак з нагоды "прымітыўнага антысаветызму", праявы якога мелі месца ў час шматлікіх дэманстрацый у Польшчы ў той час. Заклапочанасць добрымі адносінамі з СССР кантраставала з атмасферай у Літве, якая пачувала сябе пад пагрозай і ўсё больш пакінутай.

Грамадзянскія рухі (нарастанне хвалі палітычнай і грамадскай актыўнасці – ўзнікненне новых партый) і прэзідэнцкая кампанія сталі прычынай яшчэ мацнейшай хвалі ціску на ўрад Т. Мазавецкага, каб той не заставаўся абыякавым да падзеяў па іншы бок усходняй мяжы.

Увесь 1990 г. можна ахарактарызаваць як год дрэйфавання дзіравага судна, якім было СССР. У другой палове 1990 г. кіраўніцтва ў Маскве ўсвядоміла гэта і пачало прымаць пэўныя меры. Знешнім праяўленнем гэтага на ўзроўні польска-савецкіх адносінаў стала т. зв. дактрына Фаліна-Квіцінскага [39] (якая прапаноўвала выпрацоўку механізму, які б утрымліваў краіны камуністычнага лагеру ў розных пазаідэалагічных формах залежнасці ад СССР), а таксама шматлікія сігналы, што сведчылі аб змене "залішне мяккай" да гэтага часу палітыкі (адхіленне ад выканання абавязкаў міністра замежных спраў Э. Шэварнадзэ і шэраг пазнейшых рэакцыйных падзеяў – інтэрвенцыя ў Вільні і Рызе, інцыдэнты на мяжы з Літвой, урэшце – путч Янаева).

### Гамбіт Скубішэўскага

Палітыку двухвектарнасці распачаў у кастрычніку 1990 г. візіт К. Скубішэўскага ў Маскву, пасля ў Кіеў, Вільню, Мінск, а пазней ізноў у Маскву дзеля таго, каб вярнуцца да перамоў з прадстаўнікамі незалежнай ад СССР Расійскай Федэрацыі. Польскі бок рашыўся на заключэнне дамоў з прэзідэнтам Расіі Барысам Ельцыным і міністрам замежных спраў Андрэем Козыравым, але ў той жа час прытрымліваўся палітыкі "ахаладжэння" напружання ў адносінах з СССР.

Пагроза, што вынікала з т. зв. нямецкай праблемы, не была, аднак, "пострахам", які меў выключна ўсходняе паходжанне. Веслаў Хшаноўскі, лідэр Хрысціянска-нацыянальнага аб'яднання (ХНА), таксама абвострана адчуваў (ці не ўзроўні дактрыны?) небяспеку ад аб'яднання Германіі і неабходнасць праяўляць асцярожнасць, але меркаваў, што "ўсходнія дамовы аб бяспецы" не з'яўляюцца для Польшчы найлепшымі[40]. ХНА ўзнікла паводле ініцыятывы паслоў парламенцкага клубу, нацыянальных дзеячаў, у траўні 1990 г. і ў той час была часткай палітычнага лагеру Леха Валенсы.

Погляды польскай палітычнай эліты балансавалі між недаацэнкай ролі СССР ды падкрэсліваннем яго слабых бакоў, няўхільнага заняпаду і канстатацыяй неабходнасці ўмацавання старых структур (Уніі Свабоды, Савета эканамічнай узаемадапамогі), бо толькі яны ўберагуць нас ад немінучага ўцягнення ў арбіту Германіі і яе эканамічных інтарэсаў. Перасцярогі перад пагрозай правакацыі з боку Масквы маглі рабіць уражанне стварэння ахоўнага парасона для групоўкі Кішчака-Ярузельскага.

Палякаў пераконвалі, што толькі яны ў стане засцерагчы ад небяспекі страты суверэннасці (той малой часткі незалежнасці, якую ўжо мелі ў 1990 г.) і з'яўляюцца

гарантам бяспекі перад зменамі ў выпадку нейкага рэцыдыву бальшавізму. У ліпені 1989 г. Урбан зразумеў, што з боку Масквы нам не асабліва што пагражае, таму трэба было ўвесь час трымаць гэты "чорны люд" дзеля ўнутранага выкарыстання, каб абараніць палітычную эліту ПАПП ад дзікіх нападаў "навалачы "Салідарнасці"". Урок Бухарэста абудзіў фантазію Ярузельскага і Кішчака, якія, баючыся за сваё жыццё, захоўвалі для ўнутранага, польскага ўжытку цэлы арсенал страхаў і перасцярог. Магчыма, таму Урбан палохаў у СМІ літоўскім і ўкраінскім нацыяналізмам[41].

У 1990 г. ў Польшчы не з'явілася сур'ёзнай і звязнай палітычнай канцэпцыі, якая б магла быць прэзентавана шырэй у Еўропе і ў свеце як прыклад дальнабачнасці ды агульнай заклапочанасці, асабліва новым, "пасляялцінскім", кшталтам Еўропы. Усё, што адбывалася на ўнутранай палітычнай сцэне Польшчы, было мешанінай папярэдніх палітычных канцэпцый Пілсудскага і Дмоўскага, "накладзеных" на сучасны прагматызм, увасабленнем якога напераменку былі прадстаўнікі лагеру ПАПП і колы "Салідарнасці". На гэтым фоне канцэпцыя "міжмор'я" Л. Мачульскага і пастулаты правых сілаў, каб больш рашуча падтрымаць вызваленчыя памкненні Літвы і іншых народаў СССР, падаюцца больш дальнабачнымі і нават прарочымі.

У 1991 г., пасля ўзмацнення маскоўскага курсу, левыя сілы распачалі нападкі на ўрад Т. Мазавецкана і МЗС за паддаванне настроям, за эмацыйнае рэагаванне на сітуацыю ў Літве. Выяўленнем такіх поглядаў стаўся, між іншым, пазнейшы артыкул Станіслава Беленя (да 1989 г. сакратара ЦК ПАПП пры Уніі Свабоды), які на старонках Polityki[42] пісаў, што Польшча – краіна невялікага значэння, якая не мае адпаведнага апарату, паставіла сабе надта высокія мэты на ўсходнім напрамку.

Відавочна, гэта ўкладалася ў мадэль палітыкі "двухвектарнасці", якая наколькі ў момант яе прыняцця была слушнай, настолькі ў рэаліях 1991 г. павінна была вызначацца дзеяннямі, што мелі на мэце падтрымку лініі М. Гарбачова.

Адначасова аўтар адзначаў, што рэспублікі пасля атрымання незалежнасці не мусяць быць дзяржавамі, прыязна настроенымі ў адносінах да Польшчы.

Гэты тэзіс як найлепей адпавядаў жаданням Масквы менавіта на Захадзе бачыць небяспеку адраджэння нацыяналізму і магчымасць выбуху лакальных войнаў. У пацверджанне такога сцэнарыю сведчыла сітуацыя з рускамоўным насельніцтвам у Літве, Эстоніі, Малдове, украінскім – у Крыме, польскай меншасцю на беларуска-літоўскім памежжы.

Да путчу ў Маскве, напрыканцы жніўня 1991 г., у польскіх СМІ, у колах былога камуністычнага апарату і ў шэрагах апазіцыі вяліся спрэчкі, якім чынам выбудоўваць адносіны з СССР, каб не нанесці шкоды інтарэсам Польшчы, не страціць здабытай "аўтаноміі" ў пагоне за мрояй аб "міжмор'і" і ў змаганні "За вашу і нашу свабоду".

Асяродак Цэнтру згоды на старонках Tygodniku Centrum прэзентаваў выкладзеныя Лехам Качыньскім, Юзэфам Шаняўскім, С. Вільчынскім погляды, што варта перагледзець ці нават адмовіцца ад спробаў палепшыць адносіны з СССР, каб адкрытым і свабодным чынам прыступіць да перамоваў з Захадам аб далучэнні да яго палітычных і эканамічных структур.[43]

Гэта не азначае, што прадстаўнікі Цэнтру згоды не прызнавалі магчымасці наладжвання добрых стасункаў з СССР. Л. Качынскі, напрыклад, сцвярджаў, што паляпшэнне адносінаў з Масквой магчымае "пры адмаўленні ад канцэпцыі саюза, які б ізаляваў Польшчу ад Захаду".[44]

**Хрысціянска-нацыянальнае аб'яднанне патрабавала распачынаць ажыццяўленне ўсходняй палітыкі, абапіраючыся на два вызначальныя моманты:**

а). падтрымка памкнення народаў савецкіх рэспублік да самавызначэння;

б). дапамога палякам, якія жывуць на "Kresach" былой Рэчы Паспалітай, дзе ва ўмовах новай палітычнай сітуацыі ім пагражае нарастанне рухаў нацыяналізму;

Рэакцыя на путч Янаева таксама засведчыла ўнутранае "зрашчэнне" палітыкі меры і раўнавагі з неабходнасцю пастаноўкі стратэгічных мэтаў для польскай дзяржавы. Першай асобай, з якім прэзідэнт Л. Валенса меў кансультацыю 19 жніўня 1991 г., быў менавіта генерал В. Ярузельскі. Калі прыгадаць рэдкія кантакты з Б. Ельцыным, дык усю польскую канцэпцыю (якая часта "падносілася" як амбіцыйная, асабліва ў падачы заходнім дыпламатам у Варшаве), нібыта з'яўляемся мы мостам паміж СССР і Захадам, можна ўспрымаць не надта сур'ёзна.

Не было выпрацавана дастаткова моцных стасункаў з лагерам посткамуністычнай меншасці, якая гуртавалася вакол Б. Ельцына. Зносіны з дысідэнтамі былі альбо слабымі, альбо зводзіліся да некалькіх адзінкавых і прыватных сяброўстваў. Урэшце, не савецкія дысідэнты стваралі новую палітычную і эканамічную сітуацыю пасля 1991 г.

Зняслаўленыя польскія рэфарматары (М. Ракоўскі) не мелі шчыльных стасункаў з рэфарматарамі ў асяроддзі КПСС, а т. зв. "бетон" (людзі кансерватыўных поглядаў, якія з'яўляюцца праціўнікамі любых рэформаў, прым. перакладчыка) не адразу заўважаўся сярод такіх лідэраў, як Г. Янаеў.

Міф аб тым, што Польшча з'яўляецца мостам паміж Усходам і Захадам, упершыню спазнаў балючую паразу менавіта ў жніўні 1991 г.

На гэтым фоне сітуацыя ў Літве выглядала значна лепей. Лагер правых сіл і кансерватараў ("Sąjūdis") меў т. зв. "сваіх рускіх" і дысідэнтаў, а Бразаўскас, які ў 1993 г. стаў першым прэзідэнтам суверэннай Літвы, забяспечыў незалежнасць сваёй краіны дзякуючы таму, што ўспрымаўся як адзін з лідэраў рэфарматарскага руху ў КПСС, то бок той часткі партыі, якая падтрымлівала Барыса Ельцына.

Стан польскіх эліт хіба найлепшым чынам акрэсліў З. Найдэр, ужо пасля путчу Янаева сцвярджаючы на старонках Rzeczpospolitej, што пазіцыя польскіх эліт – гэта "пазіцыя кліента, які заўсёды чакаў зялёнага святла з Масквы, каб не дражніць мядзведзя".[45]

Калі пыл пасля маскоўскага путчу ўлёгся, у польскіх СМІ з'явілася шмат вельмі нядобразычлівых каментарыяў у адносінах да прэзідэнта Леха Валенсы. Яго

вінавацілі ў тым, што ён хутка "перайшоў ад вялікадзяржаўнай упэўненасці ў сабе да баязлівага палітычнага рэалізму"[46], а незалежны аглядальнік і дзеяч апазіцыі Кшыштаф Вышкоўскі дакараў прэзідэнта ў тым, што замест таго, каб у той час склікаць Раду нацыянальнай бяспекі, ён кансультаваўся з генералам В. Ярузельскім.[47]

Пасля жнівеньскага путчу з медыяў пасыпаўся мех наракання, скаргаў і добрых пажаданняў. Польскай усходняй палітыцы (менавіта ўрадавай) ставілі ў віну недахоп дальнабачнасці, настойлівасці, фантазіі. Параўнанне сітуацыі з перыядам 1918–1921 гг. выявілася б адназначна не на карысць сучасных польскіх эліт. Патрабавалі болей павагі ў адносінах да таго, чаго дасягнулі палітычныя эліты і дысідэнты ў постсавецкіх краінах, меншай маніі вялікасці і перакананя, што мы – найважнейшая краіна, якая знесла муры савецкага зняволення.

Не варта таксама забываць, што ў Польшчы ў той час рыхтаваліся да парламенцкіх выбараў, і гэта абвастрала атмасферу дыскусіі і спрэчак вакол усходняй палітыкі.

Усё, што вынікала з унутраных польскіх спрэчак, можна звесці да аднаго падсумавання – на той час мы не мелі ўплыву на тое, што адбывалася па другі бок ад нашай усходняй мяжы. Былі мы, хутчэй, пасіўнымі назіральнікамі.

### Польскія ўсходнія ініцыятывы

Праявай дальнабачнай стратэгіі выпрацоўкі інструментарыю ў адносінах з усходам з'явілася, безумоўна, рашэнне ўраду Тадэвуша Мазавецкага аб скліканні экспертна-аналітычнай групы. Узнік Цэнтр усходніх даследаванняў. Гэтая ініцыятыва сыходзіла ад калектыву штомесячніка Więź і некалькіх людзей, згуртаваных вакол Марка Карпа, гісторыка мастацтва і чалавека, захопленага гісторыяй Вялікага княства Літоўскага.

Цэнтр усходніх даследаванняў стаў адзіным месцам, якое ў 1991–1992 гг. пачало сістэматычна, прафесійна і эфектыўна інфармаваць вышэйшыя ўлады Польшчы аб працэсах, якія адбываюцца ў краінах былога СССР.

Варта дадаць, што раней, дзякуючы актыўнай дапамозе М. Карпа і Е. М. Навакоўскага ў Літве было створана польскамоўнае радыё Znad Wilii, якое атрымала значную папулярнасць у асяроддзі Sąjūdis і стрымлівала антыпольскія настроі ў перыяд, калі дзеячы мясцовага самакіравання з Салечніцкага і Віленскага раёнаў стваралі пачаткі польскай аўтаноміі, падпарадкаванай ідэі divide et impera ("падзяляй і ўладар") і ў адпаведнасці з палітыкай Масквы, якая супрацоўнічала з незалежніцкім памкненням рэспублік былога СССР [48].

Марэк Карп падтрымліваў патрабаванні польскага эміграцыйнага дзеяча, выдаўца часопіса Kultury Ежы Гедройца выпрацаваць адпаведны і дзейсны інструментарый, які дазволіў бы рэагаваць на тое, што адбываецца на ўсходзе, а "… не жыць у заўсёдным страху перад рэакцыямі Масквы…"

Яшчэ адным закідам, які з'явіўся на старонках Kultury, было тое, што ў Польшчы ўвогуле не мыслілі ў геапалітычных катэгорыях, засяроджваючыся на паляках у Львове і Вільні[49], а сам "князь" Гедройц вельмі скептычна ацэньваў польскую актыўнасць на ўсходзе, называючы яе часта правінцыйнай і недальнабачнай.

Крытыка нашай актыўнасці на ўсходзе не перапынялася да апошняга дня жыцця рэдактара ў 2000 г. Яе сутнасць зводзілася да сцвярджэння, што не выкарыстоўваем мы добрай кан'юнктуры, робім вельмі мала, а ўсё, што рэалізуем на ўсходзе, носіць характар дзеянняў неадкладных, абмежаваных і звужаных, як, напрыклад, падтрымка суайчыннікаў.

Малевіч у сваёй працы выказвае тэзіс, што ў 1990–1991 гг. ажыццяўленне мэтаў польскай знешняй палітыкі ўскладнялася (урад Т. Мазавецкага для абароны заходніх межаў быў вымушаны шукаць падтрымку ў Маскве). Пачынаючы з восені 1989 г., польскі ўрад праводзіў палітыку павольнага адыходу ад ідэі фінляндызацыі і імкнуўся да заключэння новага пагаднення з СССР.

Тым самым першы некамуністычны ўрад выракаў сябе на пэўную залежнасць ад Масквы. Аднак пазбег гэтай дактрынальнай пасткі, рэалізуючы шматлікія дзеянні ў адпаведнасці з канцэпцыяй т. зв. палітыкі двухвектарнасці. Згаданая вышэй дэманстрацыя беларускіх "нацыяналістаў" перад польскім консульствам у Мінску ўвосень 1990 г. укладаецца ў пэўную цэласнасць. Спроба заблакаваць ажыццяўленне палітыкі двухвектарнасці была пераведзена на міністра замежных спраў Беларусі Пятра Краўчанку. Мінск адрэдагаваў на польскую ініцыятыву, выстаўляючы пікеты з патрабаваннямі прызнаць Беласточчыну і Ломжынскі рэгіён землямі спрадвечна беларускімі[50].

### Нямецкі фактар

Каляндар падзеяў вакол аб'яднання Германіі і пошуку ўласнай формулы ажыццяўлення ўсходняй палітыкі вяртае нас да 7 верасня 1990 г., калі савецкаму боку была ўручана нота з прапановай распачаць перамовы аб вывядзенні савецкіх войскаў. На нейкі час на гэта наклалася падрыхтоўка канферэнцыі 2+4 па пытанні аб'яднання Германіі і мерапрыемствы, звязаныя з гарантаваннем заходняй мяжы. Для нямецкага боку "звыш актыўная" пазіцыя Польшчы была вялікай нечаканасцю.

Як піша Клаўс Цымер, ніводная суседняя краіна не рэагавала так эмацыянальна на аб'яднанне Германіі, як менавіта Польшча.[51] З чаго гэта вынікала?

Адразу ж пасля заканчэння "круглага стала" Бундэстаг галасамі ўсіх фракцый выказаў рашучую падтрымку працэсу рэформ у Польшчы і заявіў пра неадкладную эканамічную дапамогу. Прэзідэнт Рыхард фон Вайцзэкер паведаміў пра паездку ў Польшчу на 50-ую гадавіну з дня пачатку Другой сусветнай вайны і ўзяў асабісты ўдзел у супакойванні выступленняў папулістаў з баварскага Хрысціянска-сацыяльнага саюза, выказванні якіх маглі раздражняць Польшчу.

Цымер адзначаў, што ўжо пасля чэрвеньскіх выбараў, улетку 1989 г., калі меў месца чарговы этап польска-нямецкіх кансультацый, польская дэлегацыя на чале з Эрнестам Кучам сарвала перамовы на падставе нязначнай фармальнай адгаворкі.

Ці не было падаграванне атмасферы небяспекі з боку Германіі часткай нейкай большай стратэгіі?

Між іншым ужо 14 лістапада 1990 г. Кшыштаф Скубішэўскі і Ганс-Дзітрых Геншэр падпісваюць дамову аб супольнай граніцы, што, паводле Малевіча і Стшэльчык, стварае сур'ёзныя падставы для пераходу да т. зв. палітыкі двухвектарнасці. Урэшце ў 1990 г. у СССР распачалася суцэльная лавіна дэкларацый аб суверэннасці: Расія – 12 чэрвеня; Украіна – 16 ліпеня і Беларусь – 27 ліпеня; яшчэ раней Літва – 11 сакавіка 1990 г.

Працэс распаду СССР пачаўся не на жарт, і Масква вымушана была ўлічваць неабходнасць выпрацоўваць новыя інструменты, якія б дазвалялі трымаць у залежнасці як краіны камуністычнага лагеру, так і асобныя саюзныя рэспублікі.

Адкрытасць М. Гарбачова ў дачыненні да польскіх патрабаванняў, агучаных 10–12 кастрычніка ў час візіту К. Скубішэўскага ў Маскву, мусіла быць прыемнай нечаканасцю для польскага боку. Выявілася, што Крэмль, які меў нямала больш сур'ёзных унутраных праблемаў, зноўку гатовы да вырашэння няпростых справаў.

Была атрымана згода на падрыхтоўку новай дамовы, абяцалася падтрымка эканамічнага супрацоўніцтва на разумных умовах, у тым ліку – дастаўка сыравіны, вывядзенне войскаў, дапамога палякам у СССР, абмеркаванне і абнародаванне справы Катыні і г.д. Падчас перамоваў савецкі бок прыняў да ведама развіццё стасункаў з паасобнымі рэспублікамі і іх прадстаўнікамі. А М. Гарбачоў загадаў сваім падначаленым не толькі распачаць працу над новай дамовай, але і падрыхтаваць глебу для вывядзення войскаў пры ўмове, што гэта будзе здзейснена да сярэдзіны 1991 г.

## Дэкларацыя аб польска-расійскіх адносінах

Аднак у прававых адносінах справа заключэння дамовы з СССР не зрушылася з месца па прычыне ўнутраных зменаў у кіраўніцтве СССР. 20 снежня з пасады сыходзіць Э. Шэварнадзэ. Усё больш цяжкасцяў сустракае пытанне візіту Л. Валенсы ў Маскву, якое пасля падзеяў у Літве 13 студзеня 1991 г. становіцца яшчэ больш няпростым. Пасля і сама Масква не вельмі жадала гэтага візіту ажно да путчу Янаева. Нягледзячы на гэта, міністр К. Скубішэўскі рыхтуе дэкларацыю па пытанні адносінаў з Расійскай Федэрацыяй (міністр замежных спраў РФ А. Козыраў), хаця Б. Ельцын яшчэ ў час візіту К. Скубішэўскага ў кастрычніку не быў гатовы да падпісання гэтага дакумента. Тым не менш К. Скубішэўскі паслядоўна прапануе вярнуцца ў Маскву пасля візітаў і перамоваў у Кіеве і Мінску.

Дзякуючы яго паслядоўнасці і своеасаблівай настойлівасці, 16 кастрычніка 1990 г. адбываецца гістарычнае падпісанне дэкларацыі аб польска-расійскіх адносінах з удзелам міністра А. Козырава. Як пазней прызнаваўся апошні, гэта быў яго першы міжнародны дагавор.

Варта, дарэчы, прыгадаць унутрыпалітычны польскі кантэкст. У ходзе выбарчай кампаніі на палітычнай арэне Польшчы нечакана ўзнікае фігура бізнэсмэна і кандыдата на выбарах прэзідэнта Станіслава Тымінскага.

У той час, як у Маскве наспявае "паглыбленне курсу" і паступова мяняецца палітыка ў адносінах да мяцежных рэспублік, у Варшаве існуе рэальная пагроза захопу ўлады сіламі, якімі, без сумневу, кіравалі спецыяльныя камуністычныя службы, як піша гісторык і публіцыст Славамір Цэнцкевіч[52].

Дык вось, галоўным дарадцам і паплечнікам С. Тымінскага быў Юзэф Касецкі (пазней таксама кіраўнік Партыі Х), прыхільнік нацыянальнай ідэі, у выданні – т. зв. "палітычнага рэалізму".[53] Паводле дакументаў Інстытута нацыянальнай памяці, Ю. Касецкі не толькі быў актыўным дзеячам у асяроддзі нацыянал-дэмакратаў з арганізацыі т. зв. "канцэсійных католікаў", але і меў ажыўленыя кантакты з "калегамі са школы КДБ у Мінску"[54].

Прэзідэнцкія выбары, кампанія, якая папярэднічала ім, і ўзровень публічных дэбатаў у Польшчы засведчылі, што праграму знешняй палітыкі (на прыкладзе выказванняў С. Тымінскага) можна звесці да некалькіх прыемных на ўспрыняцце заклікаў, каб жыць у згодзе з усімі суседзямі.

Перамога Л. Валенсы супала са зменай палітычнага курсу ў Маскве 20 снежня 1990 г., абвастрэннем унутранай палітыкі, у першую чаргу з мэтай процістаяння "сепаратызму" і распаду СССР. Да гэтых пераменаў дадаўся яшчэ сур'ёзны міжнародны канфлікт і пачатак аперацыі "Бура ў пустыні". У студзені 1991 г. дайшло да нападу савецкіх войскаў на тэлевізійную вежу і парламент у Вільні, а таксама да інтэрвенцыі ў Рызе.

У красавіку 1991 г. з'явіўся праект т. зв. дактрыны Фаліна-Квіцінскага. У дакуменце, прынятым бюро ЦК КПСС (В. Фалін быў загадчыкам міжнароднага аддзела ЦК, Квіцінскі намеснікам міністра замежным спраў СССР), прапісваліся абавязацельствы для абодвух бакоў не ўваходзіць у саюзы, настроеныя супраць аднаго з бакоў, забяспечваць недаступнасць сваіх вайсковых дыслакацыйных баз, ваеннай інфраструктуры і г. д., што магло быць выкарыстана супраць другога боку.

Безумоўна, справа палягала ў тым, каб не дапусціць уступлення ў НАТА дзяржаў-удзельніц Варшаўскага дагавора. Пэўнай "узнагародай" павінна была стаць гарантыя сталых паставак сыравіны.

Фрагменты дактрыны Фаліна-Квіцінскага ўжо ў сакавіку 1991 г. увасобіліся ў савецкім праекце новага пагаднення з Польшчай.

## Канец палітыкі двухвектарнасці і распад СССР

21 чэрвеня 1991 г. падчас Нарады па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе, што праходзіла ў Берліне, К. Скубішэўскі інфармуе міністра замежных спраў СССР А. Бяссмертных, што як Венгрыя, так і ЧСФР, і Польшча (паводле польскай ініцыятывы створана т. зв. Вышаградская група), а таксама Балгарыя супольна адхіляюць прапановы "клаўзул бяспекі" ў пагадненнях з СССР. Гэты момант можна лічыць апошнім адмаўленнем ад рэ-фінляндызацыі, хаця фактычна савецкія войскі яшчэ размяшчаліся ў Польшчы.

З мая да ліпеня гэтага ж года працягваліся перамовы па пытанні

новага польска-савецкага дагавора (з удзелам міністраў Макарчыка і Квіцінскага). Большая частка тэксту была ўзгоднена, акрамя пункту бяспекі, афіцыйную нязгоду з якім выказаў К. Скубішэўскі. У ліпені было дамоўлена правесці чарговы этап перагавораў ў жніўні, але путч Янаева перапыніў працу.

Палітыка "двухвектарнасці" сустракала перашкоды. Ельцын ча-каў запрашэння ў Варшаву ўжо ў лютым-сакавіку 1991 г., але прэзідэнт Л. Валенса асцерагаўся паспешлівых крокаў, якія маглі б парушыць запланаваную сустрэчу з М. Гарбачовым. Тэлефонная размова з Б. Ельцыным адбылася толькі пасля путчу, то бок 21 жніўня. Гэтая справа шырока асвятлялася ў польскіх СМІ як праяўленне адсутнасці ўласнай палітыкі і надта вялікай залежнасці ад меркаванняў і праектаў, якія рэалізоўваў апарат пост-ПАППаўскі (паслом РП у Маскве быў С. Цёсак)[55].

Абвяшчэнне незалежнасці Літвой і Эстоніяй (20), Латвіяй (21), Украінай (24) і Беларуссю (25 жніўня) выклікала ланцужковую рэакцыю таксама ў Польшчы. 26 жніўня К. Скубішэўскі абвяшчае прызнанне незалежнасці Літвы, Латвіі і Эстоніі, а таксама прызнае права на суверэннасць за Украінай і Беларуссю.

Як аднадушна адзначалі Малевіч і Стшэльчык, у час перыяду "заняпаду імперыі" мелі месца яшчэ два няўдалыя крокі Польшчы ў адносінах СССР. Першы тычыўся перамоваў Л. Валенсы з М. Гарбачовым і падтрымкі Польшчай палітыкі "паступовай эвалюцыі СССР"; другі быў звязаны з падпісаннем дамовы аб транзіце савецкіх войскаў, якія пакідалі ГДР, і пагадненнем між РП і СССР.

Палітыка балансавання Польшчы паміж СССР і Расіяй не надта ўдалася – падпісаны 10 снежня 1991 г. (праз два дні пасля распаду СССР!) праект пагаднення і дамоваў быў перададзены ў МЗС РФ, каб пазбегнуць кампраметацый, з прапанавай пазнейшага перанакіравання яго краінам СНД альбо іншаму спадчынніку СССР[56].

Палітыка двухвектарнасці мае, такім чынам, свае часавыя рамкі. Распачынае яе момант закладання асноваў новай знешняй палітыкі РП пад кіраўніцтвам Кшыштафа Скубішэўскага (мяжа 1989 і 1990 гг.). Завяршае прызнанне незалежнасці дзяржаваў, якія паўсталі ў выніку эрозіі СССР, і канчатковы распад СССР у снежні 1991 г.

Калі выказвацца больш дакладна, са спасылкай на дыпламатычны каляндар, палітыка двухвектарнасці бярэ пачатак у першай праграмай прамове міністра К. Скубішэўскага ў красавіку 1990 г. Заканчваецца ў часавым прамежку паміж прызнаннем суверэннасці прыбалтыйскіх краінаў (жнівень 1991 г.) і пазней – незалежнасці Украіны і Беларусі (снежань 1991 г.).

Калі падсумоўваць – колькі ўдалося зрабіць за гэты час – вынікі не будуць пераканаўчымі. Без сумнення, у заслугу кіроўных колаў варта залічыць умелае будаванне стасункаў (афіцыйных і нефармальных) з палітычнымі элітамі Расіі, Літвы, Беларусі і Украіны. Да важных дасягненняў належаць першыя двухбаковыя дакументы (Дэкларацыі аб польска-расійскіх, польска-ўкраінскіх, польска-беларускіх адносінах).

Крытыкі папракаюць Польшчу ў залішняй асцярожнасці і кан'юнктурнасці, што вынікала з перасцярогі перад аднаўленнем імперскай палітыкі СССР і пагрозы эканамічнай залежнасці ад вялікага ўсходняга суседа. Але дыпламаты пераважна сцвярджаюць, што асцярожнасць не можа быць няслушнай.

# Дадатак


[1] Гл.: M. Golińczak , Związek Radziecki w myśli politycznej polskiej opozycji w latach 1976-1989, Kraków 2009, s.121 i s.145;

[2] Гл.: M. Golińczak, тамсама, ss.150-153;

[3] S. Skrzypek, „Niemcy, jako groźba", „Stańczyk", 1986, [паводле: M. Golińczak, тамсама, s. 159];

[4] Гл.:. J. Strzelczyk, Ucieczka ze wschodu. Rosja w polskiej polityce 1989-1993; Warszawa 2002;

[5] Параўн.: J. Strzelczyk, тамсама, ss.110-114;

[6] Цыт.: W. Górnicki, Teraz już można. Ze wspomnień kulawego Szerpy, Wrocław 1994, s.121;

[7] Гл.: P. Knap, „Michaił Gorbaczow w Szczecinie" на старонцы: www.sedina.pl (прагляд 19.09.2010);

[8] W. Kalicki, Ostatni jeniec wielkiej wojny. Polacy i Niemcy po 1945 r., Warszawa 2002, цыт. паводле: P. Knap, тамсама, s.4;

[9] Цыт. паводле: P. Knap, тамсама, s.4;

[10] P. Knap, тамсама, s. 6;

[11] Цыт. паводле: інтэрв'ю Міхала Карноўскага і Пётра Зарэмбы з Е. Урбанам, „Dziennik", nr 120(941), Magazyn ад 23-24 мая 2009 г., s.6;

[12] Цыт. паводле: A. Nowak, „Kto obalił komunizm?", „Rzeczpospolita", nr 120(8325), 23-24 мая 2009 г., s. A21;

[13] Гл.: P. Malewicz, Polska Polityka Wschodnia w latach 1989-1991; Warszawa, ss. 231-316;

[14] Z. Brzeziński, „Europa Środkowa wobec przemian światowych" : лекцыя, прачытаная ў Ягелонскім універсітэце 29 мая 1989 г., у зборніку: "O Polsce, Europie i świecie" 1988-2001, Warszawa 2002, s.43;

[15] Цыт.: Размова з Я. Масквай – „Gazeta wyborcza", nr 86 ад 07.09.1989, s.7;

[16] Цыт.: „Tygodnik Solidarność", nr 26 ад 22.09.1989, s. 6;

[17] Цыт.: „Tygodnik Solidarność" nr 9 ад 28.07.1989, s.10;

[18] Цыт.: Z. Kulej, „Skierniewickie pytania o expose", „Trybuna Ludu", nr 215 ад 15.09.1989, s.7;

[19] Фрагмент выступлення М. Ф. Ракоўскага напрыканцы XV Пленума ЦК КПСС, „TL", nr 220 ад 21.09.1989, s. 2;

[20] Падрабязней гл.: P. Malewicz, op. cit. ss. 238-239;

[21] Гл.: Z. Najder, „Zrozumieć interes narodowy", „Rzeczpospolita", nr 8 ад 10.01.1990;

[22] Гл.: K. Skubiszewski, „Do niepodległości krok po kroku" (размова з М. Бос-Карчэўскай), „Gazeta wyborcza", nr 213/2009 ад 11.09.2009, s. 32;

[23] Гл. у асноўным у параўн.: T. Nałęcz, „Przestroga historii, interes Polski", „Trybuna", nr 181 ад 17.10.1990; J. Wiatr „Nowe szanse, nowe problemy", „Trybuna", nr 139 ад 28-29.07.1990, а таксама J. Oleksy, „Hasła nie zastąpią polityki", „Trybuna", nr 186 ад 22-23.10.1990);

[24] Гл. дыскусію на кангрэсе SdRP (Таварыства журналістаў Рэспублікі Польшча — Н. Дз.) – m.in. „Trybuna kongresowa", nr 2 ад 30.01.1990 і праграмную дэкларацыю SdRP ад 28 студз. 1990 г.;

[25] Цыт. шыфраграма пасла Наторфа ад 15.10.1988 паводле: A. Dudek, „Zmierzch dyktatury. Polska lat 1986-1989 w świetle dokumentów", Warszawa 2009, s. 327;

[26] Гл.: M. Wojtczak, „Zdobywanie Moskwy", Warszawa 2006, ss. 55-57;

[27] Гл.: Запіс размовы М. Гарбачова з М. Ракоўскім у: A. Dudek, тамсама, ss. 328-343;

[28] Гл.: M. Wojtczak, тамсама, s. 56;

[29] A. Brzeziecki: „Nie pytaliśmy Moskwy o pozwolenie". Размова з Тадэвушам Мазавецкім у: „Tygodnik Powszechny" ад 11.11.2009 г.;

[30] Цыт. паводле: A. Brzeziecki, тамсама, s. 3;

[31] Гл.: J. Urban „Tadeusz frasobliwy", „Trybuna", nr 59 ад 23.04.1990;

[32] Гл.: L. Moczulski „Polska racja stanu", у: „Opinie", nr 3 ад 25.03.1990, ss. 12-17;

[33] „Opinia", nr 4 ад 1.04.1990;

[34] Гл.: L. Unger, „Pan Tadeusz Gorbaczow" w: „Tygodnik Powszechny", nr 13 ад 1.04.1990;

[35] Гл.: Gazeta wyborcza", nr 74 ад 28.03.1990;

[36] Гл.: „Tygodnik Powszechny" nr 14 ад 8.04.1990;

[37] Гл.: стэнаграма дыскусіі на 28-м пасяджэнні Сейму 26 крас.1990 г., s. 35;

[38] Гл. галоўным чынам: стэнаграма 28-га пасяджэння Сейму, тамсама, s. 24 і 72;

[39] Гл.: J. Strzelczyk, „Ucieczka ze wschodu", Warszawa, 2002, s. 117, 133 і 198;

[40] Гл. тэкст W. Chrzanowskiego, „Polska Panorama Polityczna", у: „Polityka", nr 31 ад 4.08.1990;

[41] Гл.: J. Urban „Polska na Madagaskar", у: „Polityka", nr 22, ад 2.06.1990;

[42] S. Bieleń, „Wschodnie alergie", „Polityka", nr 31 ад 3.08.1991;

[43] Гл. артыкулы гэтых аўтараў у: „Tygodniku Centrum", nr 1-18, з сак. па жн. 1991 г.;

[44] L. Kaczyński, „Suwerenne wojsko w starej szafie", „Tygodnik Centrum", nr 15 ад 12.06.1991;

[45] Гл.: „Rzeczpospolita", nr 202 ад 30.08.1991; а таксама „Tygodnik Solidarność", nr 36 ад 6.09.1991;

[46] Гл. галоўным чынам: „Gazeta Wyborcza", nr 199 ад 27.08.1991;

[47] K. Wyszkowski, "Wolność trzeba zdobywać", у: „Tygodnik Solidarność", nr 40 ад 4.09.1991;

[48] Размова К. Помяна з Е. Гедройцам, „Kultura", nr 1-2/532-533/, s. 83;

[49] Параўн.: R. Kowalski, „Kompleks Budrysa", „Kultura", nr 7-8/526-527/;

[50] Гл.: P. Malewicz, „Polska Polityka Wschodnia w latach 1989-1991"; s. 146-172;

[51] Гл.: K. Ziemer, „Zwischen Misstrauen und Hoffnung: Polen und die deutsche Vereinigung", у: „Revolution und Vereinigung 1989/1990" (red. Klaus-Dietmar Henke), München 2009, ss. 509-524;

[52] Пра Касецкага згадвае С. Цэнцкевіч, між іншым, у артыкуле: „Endekoesbecja. Dezintegracja Polskiego Związku Katolicko-Społecznego w latach 1982-1986", у: „Aparat represji w Polsce Ludowej 1944-1989", 01.05.2007, IPN Rzeszów, ss. 343-456;

[53] Вызначэнне Юзэфа Мацкевіча з яго кніжкі „Zwycięstwo prowokacji", wyd. Rytm, 1989;

[54] С. Цэнцкевіч, тамсама, s. 364, цытаваны дакумент AIPN 0222/417;

[55] Гл. аналітычныя матэрыялы і інфармацыю ў такіх выданнях, як „Gazeta wyborcza", „Tygodnik Solidarność", „Rzeczpospolita", „Kultura"; з верас. і кастр. 1991 г.;

[56] Параўн.: Malewicz , тамсама, ss. 192-203, J. Strzelczyk, тамсама, ss. 290-294.

# Summary

